Любоў Філімонава

# *пад шолах ветразяў*



Любоў Філімонава

# *пад шолах ветразяў*



Апавяданні

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1981

Бел 2
Ф 53

Рэцэнзент М. Тычына

**Філімонава Л.**

Ф 53 Пад шолах ветразяў: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 160 с.

40 к.

У гэтай кнізе паэтэса ўпершыню выступае ў жанры кароткага апавядання. Чалавек сярод людзей, яго штодзённае імкненне да духоўнага, неабходнасць жыць у поўную меру сваіх сіл — асноўныя тэмы апавяданняў, часам вострасюжэтных, гратэскавых, часам вытрыманых на іроніі, усмешцы.

Ф $\frac{70303-160}{М\ 302(05)-81}$ 25—81 4702120200

ББК 84 Бел 7
Бел2

# Пад шолах ветразяў

Прачнуўся ён бы ад нейкага ўнутранага штуршка, адразу. Было вельмі рана, штосьці каля шасці. У высокае — проста пад столлю — акно сачылася густа-блакітнае святло з вуліцы. Нарэшце спыніўся дождж, які ішоў апошнія некалькі дзён запар,— на вуліцы стаяла цішыня, а святло несла ў сабе згадкі чыстага неба.

Намацаў уключальнік, запаліў святло. Так, са святлом, у майстэрні рабілася больш утульна. Даўно ўжо ён жыве тут, у гэтым паўсутарэнні, амаль з таго самага часу, як разышоўся з Таццянай. Цяпер Таццяна замужам — за цікавейшым, прыгажэйшым, чорт яго ведае якім... Але з таго часу Васковіч так і пасяліўся ў майстэрні. Як кажуць, з'ехаў з кватэры. Не хапала яшчэ судзіцца і дзяліцца.

А і дзіўныя ж яны стварэнні, гэтыя жанчыны. Ну чаго ёй не хапала з Васковічам? Апраналася не горш за іншых, мела ўсё, што трэба прыгожай жанчыне,— ён не адну ноч праседзеў за выкананнем заказаў на паштоўкі, эмблемы, колькі «левых» заробкаў меў! І не бедавалі яны, як іншыя студэнты з іхняга інстытута. Ды вось пайшла, «уцякла з заезджым гусарам». Цяперашні муж яе, здаецца, просты інжынер. Хай пакукуюць цяпер на адну зарплату.

Як ні дзіўна, пакутаваў Васковіч нядоўга. Шкада было толькі ўтульнага жыцця, наладжа-

нага спакою. Што ні кажы, а тылы нашы — вялікая справа.

Таму ў яго цяпер — гэтая майстэрня: расплыўчаты круг святла ад свяцільніка на століі, гулкае рэха крокаў выпадковых прахожых у двары — вокны майстэрні выходзілі ў глухі і пусты двор, і гукі былі быццам замкнутыя ў калодзежнай бездані.

Амаль год назад, калі Васковіч толькі асталяваўся тут, то часта, прачнуўшыся ранкам, акідаў позіркам сваё сутарэнне і прыгадваў усё, што было прычынай яго пераезду сюды. Зараз ужо гэтае прайшло. Толькі вось чысты круг святла на столі, што нагадваў літару «О», ды гулкія крокі ў двары настойліва зноў і зноў нагаварылі яму, што ён — адзін і што далёка навокал няма ніводнай жывой душы, бо гукі за акном здаваліся неверагодна далёкімі і нерэальнымі.

Мала хто са студэнтаў, нават са старшакурснікаў іх інстытута, меў сваю майстэрню. Васковічу і ў гэтым пашэнціла. І плаціў за яе нядорага...

...Устаў, паставіў на электраплітку ваду. Дзякуй богу, што ў яго сёння такі бадзёры рабочы настрой. Цудоўна, што ў гэтую нядзелю ён зможа працаваць увесь дзень, а не ляжаць паўдня з хворай галавой, як бывала не раз пасля суботніх вечарынак у яго майстэрні.

Намацаў у тумбачцы хлеб, учарашнюю каўбасу. Усё ж блага без халадзільніка, без гарачай вады. Трэба пераязджаць на кватэру. Колькі ж можна так існаваць як бадзягу? Ды ўжо і ўчастковы стаў заходзіць часцей, чытаць натацыі аб тым, што ў майстэрнях звычайна працуюць, а не п'юць... Гэта ён пра тое, што іншы раз Васковіч вяртаўся на ноч не адзін...

Прайшоўся па майстэрні, агледзеў кожную рэч, у каторы раз падумаў пра тое, што трэба пераязджаць. Хутка ўжо. Хутка экзамены, абарона дыплома, пасля — работа, грошы, слава, усё, што яму належыць.

Падышоў да сваёй карціны, накрытай ад пылу палатном. Зняў шэры шматок тканіны. Адышоўся на некалькі крокаў. Нішто партрэцік. Крыху толькі фон трэба пацямніць — і светлая галава старога, што быў намаляваны на карціне, стане падобнай да галавы святога, быццам зайграе над ёй німб, бы няўлоўнае свячэнне. Работа гэта называлася «Настаўнік».

Тыдзень таму Мартын Ваўчок, Васковічаў аднакурснік, кінуў яму: «А ты няблага ўладкаваўся, стары, адным стрэлам двух зайцоў... Галоўнае, каб Нечыпалей пазнаў сябе...» Васковіч тады ледзь не даў яму па мордзе. Але стрымаўся, ведаючы: гэтым, па-першае, не давядзеш, што партрэт для дыпломнай работы ён рабіў не таму, што Нечыпалей быў яго кіраўніком па майстэрству і да таго ж яшчэ старшынёй камісіі, акадэмікам, першым сакратаром Саюза мастакоў і г. д. Гэта ж глупства так думаць! Па-другое, ведаў: не адзін яшчэ чалавек будзе яму гаварыць тое ж самае ці амаль тое ж. Так што прыйдзецца яшчэ вытрымаць не адзін бой. А між тым Нечыпалей быў толькі правобразам чалавека на партрэце. Васковіч тут хацеў намаляваць абстрактны вобраз Настаўніка, чалавека з вялікай і шчырай душой, чалавека, які стаіць ля вытоку, ля пачатку высокага ў кожным. Стары і быў для Васковіча ўвасабленнем гэтай добрай сілы, тым самым першым чалавекам, які, мабыць, бывае ў кожнага ў жыцці. Да таго ж чалавек на партрэце быў толькі крыху падобны да Нечыпалея. Дакладнае падабенства Васковіч і не імкнуўся перадаць, бо галоў-

нае — лічыў — не ў гэтым. Галоўнае — перадаць ідэю. Стары на карціне быў у вопратцы сярэдневяковага філосафа, схімніка (нешта з эпохі Скарыны). Усе дэталі карціны былі строга вытрыманы ў адным часе, у адпаведнай каларыстыцы. Але рабоце чагосьці не хапала. Васковіч усё ніяк не мог зразумець чаго. Што датычылася тэхнікі — усё было ў парадку. Ужо што-што, а тут Нечыпалей мог ганарыцца прафесійнай падрыхтоўкай свайго вучня. Але чаго ўсё ж рабоце не стае?..

Зашумела вада на плітцы. Заварыў у конаўцы чай, сеў снедаць. І ўсё тая ж думка не давала спакою. Што ён выпусціў з-пад увагі, калі рабіў партрэт? Нечыпалей дапамог бы яму разабрацца ў гэтым. Але Васковіч не хацеў паказваць работу старому, пакуль не адчуе сам, што нешта атрымліваецца, што ўжо можна...

Чамусьці прыгадаў апошнюю размову са старым наконт першага варыянта дыпломнай работы. Называлася яна «І тады чалавецтва захацела спяваць». Васковіч не разумеў, чаму менавіта цяпер так выразна прыгадалася яму гэтая размова. Мабыць, у ёй быў нейкі адказ на яго цяперашнія сумненні, мабыць, нешта датычылася і гэтай новай яго работы?

Сваё «Чалавецтва...» адклаў тады на няпэўны тэрмін, бо стары сказаў, што работа яму ў цэлым падабаецца, але... Усе гэтыя вынаходніцтвы і эксперыменты пры абароне дыпломнай... хм, невядома, як сустрэне камісія... Сказаў гэта стары і запытальна глянуў на Васковіча. Дадаў пасля хвіліны маўчання: «Мая справа параіць, але ты глядзі сам. Апошняе слова — тваё». І калі Васковіч праз некалькі дзён сказаў старому, што вырашыў не рызыкаваць, а абраў больш надзейную тэму, Нечыпалей глянуў на яго неяк дзіўна, з-пад ілба. Пасля адразу зра-

біўся абыякавым і кінуў: «Ну я ж казаў, што табе відней»,— і больш нічога не дадаў. Хаця Васковічу здалося, што стары хацеў сказаць нешта яшчэ, але чамусьці прамаўчаў. І тое «нешта», можа, дапамагло б яму разабрацца ў сабе.

Што да новай карціны... Васковіч нават трошкі баяўся паказваць яе старому, пакуль яна не будзе скончана. А то раптам стары ўбачыць у гэтым падабенстве падхалімства, ці што, ці пабаіцца, як іншыя паставяцца да гэтага, і можа прыдрацца да дробязі, запрацівіцца гэтай рабоце, пакуль не позна. А калі часу на пераробку ўжо не застанецца, ды і работа будзе зроблена на ўзроўні — што ж, пераможцаў не судзяць. Ды і старому будзе прыемны гэты намёк.

А пакуль што, Васковіч адчуваў, у «Настаўніку» ёсць нейкая неадпаведнасць. Калі б верыў у містыку, сказаў бы: «самазнішчальная сіла». Можа таму, што ведаў у глыбіні душы, што лепшая яго работа — усё ж «Чалавецтва...».

Думаў ён пісаць дзікі, старажытны гушчар лесу. З голля й веццця выпісваецца чалавечая постаць, лёгкая, празрыстая. Праз чалавека праступаюць абрысы рэчаў: кветкі, камлі дрэў. А ён, такі кранальна безабаронны, нематэрыяльны, быццам праяўляецца, прадзіраецца праз гэтыя рэчы, вырываецца да святла, заваёўвае сваё права на існаванне. Чалавек гэты пільна ўглядаецца ў прастору шырока раскрытымі вачыма, бо ўпершыню зразумеў, што ён інакшы, чым усе гэтыя рэчы наўкол: дрэвы, птушкі, звяры. І тады ад гэтага адкрыцця яму захацелася спяваць, упершыню ў жыцці...

І тут Васковіч успомніў...

Карабель дзяцінства, цудоўны, зачараваны, што не ўсплываў — узыходзіў на густы, сіні аксаміт вады, шапацеў сваімі шаўковымі ветра-

зямі,— з таго часу больш не з'яўляўся да Антона Васковіча.

Даўно гэта пачалося. Яшчэ да маленькага Антоські пачаў прыплываць у ззянні сваіх чыстых ветразяў той цудоўны карабель. Быў ён такі сапраўдны, што хлопчык бачыў бляск бурштынавых кропель смалы на дашчаных высокіх бартах. Здавалася — мог дакрануцца да іх рукою, адчуць пад пальцамі шурпатасць дошак, шаўкавістасць белых ветразяў, убачыць, як маленькія зграбныя фігуркі без мітусні, але хутка завіхаючыся, распускаюць ветразі на зюйд-вест, пачуць, як нечы нізкі, упэўнены, хрыпаваты голас крычыць: «Поўны наперад!» Хлопец забываўся тады на ўсё, сачыў, сцішаны, дзікаваты, за цудоўным відовішчам. Душа Антоські перапаўнялася ў гэтыя моманты такімі дзівоснымі пачуццямі, якія ён не мог выказаць ніякімі словамі. Тое, што ён бачыў і адчуваў, давала яму ўсведамленне ўласнай сілы, веру, упэўненасць. Хлопец ліхаманкава хапаў тады аловак, крэйду — што траплялася пад руку — і маляваў на паперы, на сцяне, асфальце, маляваў караблі, птушак, дрэвы, людзей. І ўсё атрымлівалася.

Мала каму са сваіх сяброў расказваў ён пра той карабель. Бо амаль ніхто не верыў яму.

Калі стаў большы, ужо мог прадчуваць, прадбачыць з'яўленне свайго карабля. Лёгка тады яму дыхалася, лёгка працавалася. Перад тым як намаляваць карціну,— адчуваючы ўсю праўдзівасць сваёй задумкі, яе глыбінны сэнс, яе межы,— чакаў, пакуль нячутна не завалодае яго душой натхненне, пакуль не з'явіцца яго цудоўны карабель.

І вось толькі цяпер ён зразумеў, што цудоўнага відма ён даўно не бачыў, адчуў нейкі халадок у патыліцы, быццам ззаду стаяў і глядзеў на яго нядобрымі вачыма чалавек. Дзе ж ён

падзеўся — гэты карабель? Скончылася мроя? Адышло ў нябыт маленства?

Устаў. Нервова захадзіў па майстэрні.

Чорт ведае што! Глупства лезе ў галаву.

Антон Васковіч рана навучыўся падпарадкоўваць свае думкі, свой час, сілы пэўнай і канкрэтнай мэце. Працаваць, рабіць ЯК трэба і ШТО трэба — стала яго галоўным прынцыпам. Трэба атрымаць прызнанне, набыць пакуль што максімум прафесіяналізму, заваяваць сваё месца пад сонцам. Так. Час летуценняў, дзіцячых мрояў і ўяўленняў прайшоў. І дзякуй богу! Гэта гаворыць толькі аб творчай сталасці. А калі ўсё добра, усё так, як трэба,— чаму ж не пакідае яго неспакой, калі ён думае пра сваю апошнюю работу?

Апрануўся, выйшаў на вуліцу. Ішоў без пэўнай мэты, без пэўнага кірунку — куды вочы глядзяць.

З ранку восеньская вуліца была ахутана лёгкім туманам. Варушылася ад няроўнага ветрыку лісце пад нагамі. Васковіч не заўважыў, як апынуўся на маленькай вулічцы. Яе, гэтую вуліцу, ён ведаў добра, але вось прыходзіў сюды апошнім часам рэдка. А колькі разоў бегаў па ёй яшчэ хлапчуком! Вунь у той школе калісьці вучыўся. Так дзіўна... Колькі гадоў прайшло, а ён памятае ўсё — і гэты стары парк, і гэтыя дамы, і ўвогуле кожны каменьчык на гэтай вулічцы.

Васковіч ішоў няспешна, хадою чалавека, стомленага жыццём,— так яму іншы раз падабалася хадзіць,— жоўтае лісце кружылася, ападала пад ногі.

Спыніўся ля агароджы школьнага двара. Раптам убачыў: зусім як тады, многа гадоў назад, павольна і ціха расчыніліся дзверы школы, асцярожна, бо ўрокі пачаліся, выйшлі ў двор

каля трыццаці вучняў. У руках іх замест партфеляў былі альбомы. Разам з імі быў і настаўнік — мужчына ў шэрым паношаным плашчы, ссутулены, не вельмі зграбны. Дзеці абступілі настаўніка: «Вікенці Паўлавіч, а дзе мы сёння маляваць будзем?..»

Бы нешта апякло Васковіча. «Няўжо гэта ён?.. Столькі год прайшло, а ён яшчэ тут...»

Чалавек усміхаўся добра знаёмай Антону, шчырай і мяккай усмешкай. Дзеці сабраліся каля яго, перагаворваліся, настаўнік ім нешта адказваў, абдымаючы іх за плечы, усе яны разам весела смяяліся.

Так, гэта ён, яго настаўнік малявання, Вікенці Паўлавіч... А як гэта ён мог забыцца!.. Столькі год ні разу не ўспомніць пра Вікенція Паўлавіча Панасіка!.. Ах ты, чалавеча, чалавеча, няўдзячнае стварэнне...

Паўз яго ішлі людзі, здзіўлена пазіралі на маладога мужчыну ў добра пашытым паліто, што стаяў, рукамі схапіўшыся за чыгунныя карункі агароджы. Ён углядаўся ў двор так, быццам хацеў убачыць тое, ад чаго залежала шмат што ў яго жыцці,— убачыць ці як след прыпомніць. «Спыніцеся»,— не сказаў, а выдыхнуў ён. Каму? Часу? Лёсу? Чалавеку ў шэрым паношаным плашчы?

Толькі ці пачуў яго хто...

На хвіліну паспрабаваў уявіць сябе на месцы Вікенція Паўлавіча, як гэта рабіў калісьці, яшчэ хлапчуком, калі з захапленнем пазіраў на любімага настаўніка, імкнучыся ва ўсім быць падобным да яго. Не, не, не тое... Глупства ўсё. А як страшэнна хутка ляціць час, не шкадуючы нікога!.. Васковіч усё ніяк не мог прывыкнуць да думкі, што малады, прыгожы, поўны задум і фантазій дваццаціпяцігадовы юнак, што выкладаў калісьці ў іх школе маляванне і вучыў-

ся ў тэатральна-мастацкім інстытуце, і гэты немалады, ссутулены мужчына ў шэрым панашаным плашчы — адзін і той жа чалавек...

...«Ну, Васковіч, а ў цябе што выйшла?» — пачуў голас ззаду. За яго спіной, не заўважаны ім, стаяў настаўнік малявання. Антоська сумеўся, хуценька загарнуў свой альбом, бо там нічога не было. Вазу, што стаяла на настаўніцкім стале і якую маляваў цяпер увесь клас, Антоська ўжо намаляваў свайму суседу Сашку, намаляваў і Віцьку, што сядзеў на пярэдняй парце. Намаляваў адразу ж, некалькімі трапнымі ўпэўненымі лініямі. Але разгарнуў свой альбом і доўга сядзеў над чыстай старонкай, баючыся парушыць гэтую чысціню неасцярожным нязграбным рухам. Ведаў, што гэтую шматпакутную вазу можа намаляваць хоць у дзесяці розных варыянтах, ды толькі нецікава яму было гэта.

— Пасунься,— сказаў Вікенці Паўлавіч, сеў на парту побач з Антоськам, задуменна пагартаў яго альбом.

— Та-ак,— задумліва працягнуў настаўнік, быццам здагадаўся, пра што думае хлопчык цяпер над чыстым аркушыкам паперы. Запытаўся толькі: — Што, нецікавая табе гэтая ваза?

— Угу,— не расціскаючы вуснаў, прамармытаў Антоська.

Тады Вікенці Паўлавіч узяў аловак, некалькімі рыскамі накідаў на паперы акно, цяжкія парт'еры, стол ля акна, на стале — вазу з экзатычнымі кветкамі.

— Ну што, так цікавей?

— Ну,— ажывіўся Антоська,— у вас таксама добра... Толькі я не так хацеў...— І зусім сумеўся, запытальна паглядаючы на настаўніка.

— Ну вось і рабі так, як сабе ўяўляеш, смялей,— падсунуў альбом бліжэй да хлопчыка і з хітраватай усмешкай заахвочваў яго настаўнік.

— А... а можна? — няўпэўнена прамовіў хлопчык.

— Чаму ж не?

— Вы ж не тое задавалі. А я думаў, вы сварыцца будзеце.

— Дурненькі,— Вікенці Паўлавіч з цёплай усмешкай пагладзіў яго па галаве.— То ж табе не матэматыка ці хімія, дзе трэба на сёння вывучыць адсюль і дасюль. Гэта — творчасць. Твой сябар так бачыць рэч, ты — інакш, і ніхто не прымусіць цябе бачыць, як другія. А табе, хлапчанё,— настаўнік пасур'ёзнеў,— табе, можа, больш як іншым дадзена. Запомні толькі адно: павінна быць у душы ўпэўненасць, перакананасць, што ты ўгледзеў, заўважыў, прыкмеціў тое, чаго другія не заўважылі. Прайшлі побач, а не бачылі. І ты можаш гэта раптам людзям адкрыць, паказаць: гляньце, як гэта незвычайна, як прыгожа! Калі адчуеш такую ўпэўненасць — тады працуй і ведай: усё можаш! Усе сродкі — твае, каб дасягнуць мэты, увасобіць свой вобраз...

Пасля ціха дадаў:

— Праўда, пакуль што ты гэтага не можаш зразумець...

А Антоська разумеў настаўніка. Разумеў, можа, не розумам, а нейкім шостым пачуццём.

Клас варушыўся, размаўляў, вучні хадзілі па класе, зазіралі адзін аднаму ў альбомы. Урокі малявання былі самыя любімыя ў дзяцей. Адчувалі сябе на іх раскавана, упэўнена.

А Антоська сядзеў побач з настаўнікам, прытуліўшыся да яго пляча, як птушанё да вялікай птушкі, і ўжо не слухаў, што гаварыў

яму настаўнік,— худенька, нібы баючыся не паспець, маляваў шырокія вольныя пяскі далёкай сонечнай пустыні, тры маленькія постаці. Людзі глядзелі на неба. А там, далёка, у цёплай нябеснай глыбіні, плыў вялікі казачны карабель, распускаючы свае напоўненыя паўднёвым ветрам, шырокія бліскучыя ветразі. Вось аднекуль у пясках узнялася белая мармуровая лесвіца. Па ёй да карабля падніма́ліся людзі, але не даставалі, лесвіца канчалася ў небе, нібы раставала...

Хлапчук сядзеў моўчкі, утаропіўшыся ў адну кропку, усё яшчэ ў палоне сваіх адчуванняў.

Настаўнік назваў яго імя. Хлопчык уздрыгнуў, шчаслівымі вачыма паглядзеў на Вікенція Паўлавіча.

— Я толькі што бачыў карабель. Свой карабель. Ведаеце, ён як сапраўдны: ветразі, штурвал, людзі, усё, як у жыцці. Я часта яго бачу. Ведаеце...

— Ведаю,— сур'ёзна кіўнуў галавой настаўнік.

Антоська ўважліва паглядзеў на Вікенція Паўлавіча.

— А хлопцы мне не вераць. Кажуць, хлушу. А як я ім дакажу, што сапраўды бачу?.. Не атрымліваецца пакуль што яго намаляваць. Фарбы нейкія не тыя, ці што. Але ж ён ёсць, гэты карабель, я ж яго бачыў столькі разоў. Верыце? — уважліва глянуў ён на настаўніка.

— Веру,— ціха адказаў той.

...Толькі цяпер Васковіч заўважыў, што па яго пальцах, моцна заціснутых на дратах агароджы, сцякаюць кроплі дажджу. Ах, чорт, не заўважыў, што дождж пайшоў...

Адступіў на некалькі крокаў назад, быццам спрабуючы вярнуцца з маленства ў сваё цяпе-

рашняе жыццё. Ах, жыццё, жыццё! Колькі неспадзяванак прыносіш, колькі ўспамінаў даеш, часам нечаканых, а часам і проста непажаданых!..

Васковіч пайшоў па пустой вуліцы ўслед за вучнямі і настаўнікам, быццам імкнуўся павярнуць час назад. Пайшоў туды, куды ішоў клас, у невялічкі парк непадалёк, дзе на вузкіх алейках і сцяжынках жаўцела, бранзавела апалае лісце. Як і калісьці...

Амаль дагнаў дзяцей, што спыніліся на пераходзе перад чырвоным святлом. Ссутуленая постаць настаўніка ўзвышалася над дзецьмі. Крыху пасівелыя валасы яго няроўнымі пасмамі клаліся на абтрапаны каўнер плашча. Глянуў на яго бліжэй Васковіч — і яму зрабілася ніякавата.

...Невядома адкуль, але яны тады ведалі пра любімага настаўніка амаль усё. Ведалі, што ён вучыцца ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Ведалі, што ёсць у яго любімая дзяўчына, якую завуць Ася. Ведалі таксама і тое, што Вікенцію Паўлавічу не раз «нагарала» ад завуча за тое, як вёў ён заняткі,— вучні хадзілі па класе, размаўлялі ўголас, часта дзеці выходзілі са школы «на прыроду», замест таго каб сядзець у класе.

Вясёлы і прыгожы быў тады Вікенці Паўлавіч. Смелы і ўпарты. Усё ставіў на сваім. Усе хлопцы хацелі быць падобныя на яго, хадзіць так, як ён, апранацца так, як ён. Не чакаў, канешне, Васковіч цяпер убачыць Панасіка зноў у той самай ролі, у ролі школьнага настаўніка. Нібы змізарнела цяпер постаць чалавека ў старым паношаным плашчы. А калісьці, школьнікамі, яны думалі, што перад імі — чалавек мастацтва. Чалавек з таго вялікага свету фарбаў, колераў, фантазій, чалавек, які быў для іх амаль недасягальным у сваім веданні таямніц

прыгожага і незвычайнага рамяства. Зразумела ж, ён павінен быў за гэтыя гады заняць пачэснае месца там, на Алімпе, сярод вялікіх імёнаў.

Але чаму ўсё сталася не так? Чаму, што, як зламалася ў лёсе гэтага чалавека? Столькі ж год прайшло, а Васковіч ні разу не сустрэў яго імя ў выставачных залах, ні разу не пачуў ад калег...

І ўсё ж гэта менавіта той чалавек, якому Антоська Васковіч абавязаны шмат чым, чалавек, пра якога з чыстым сумленнем ён мог сказаць: «Гэта першы, гэта лепшы настаўнік». Бо гэта ён, малады хлопец, студэнт тэатральна-мастацкага, дапамог маленькаму Антоську ўбачыць берагі недасягальнага, дапамог паверыць, што ў чалавечых сілах дайсці да іх. Першы настаўнік... Васковіч прыгадаў сваю дыпломную работу, якая так і называлася «Настаўнік», хоць і была пра другое... Адчуў раптам, што ва ўсёй гэтай рабоце — ні часцінкі праўды. І гэтыя напышлівыя сярэдневяковыя шаты на чалавеку, і статычнасць фігуры, і гэтая стылізацыя пад каларыстыку фламандскіх майстроў... Навошта ўсё гэта? Зроблена старанна, але — не яго гэта. Усё няпраўда — ад назвы і да апошняга штрыха.

Таму і не з'яўляўся да яго даўно ўжо цудоўны карабель яго дзяцінства.

Вось ён ідзе, твой першы настаўнік. Дагані, спытайся рады!

А што сказаць гэтаму чалавеку? З чаго пачаць? Запытацца: «Памятаеце?» А той, мабыць, і не памятае... Колькі дзяцей з тае пары прайшло праз яго ўрокі малявання! Розных — таленавітых, здольных і не вельмі... Адкуль яму помніць хлапчука Антоську з 5-га «Б», што вучыўся ў яго больш як дзесяць год назад? Зразумела, ён не памятае і таго, як дапамог хлап-

чуку паступіць у мастацкае вучылішча. А што адбывалася з ім далей, Васковіч мог бы расказаць таму, упэўненаму ў сабе, прыгожаму і вясёламу хлопцу,— і пра свае надзеі і хвалянні, і пра першую выстаўку,— таму, а не гэтаму, рана пастарэламу ў свае пад сорак чалавеку ў шэрым паношаным плашчы. Гэты наўрад ці зразумее. Няўдачнік ці проста бесталанны? Не выйшаў былы студэнт у людзі? Часам і так здаецца. Але ж, як ні дзіўна, гэты чалавек, здаецца, задаволены сваім лёсам — ні ценю смутку на яго лагодным твары, ні ценю расчаравання. А мо проста зміры̆уся?

Васковіч быў упэўнены ў адным: у яго іншы лёс, ён пойдзе другой дарогай, не той, па якой зараз ішоў настаўнік з дзецьмі ў свой стары парк. Так... І ўсё ж ішоў і ішоў следам за дзецьмі і іх настаўнікам, як бы мімаволі, нібы нешта цягнула і вабіла яго.

Які спосаб, каб пазбавіцца гэтай трывогі, знайшоў бы Васковіч раней, некалькі год назад? Узяў бы ды і намаляваў Панасіка, калі ўжо вырашыў прытрымлівацца абсалюту праўды і рыцарства ў мастацтве? Але ж тэма «Настаўнік» — і Панасік! Абсурд! Уявіце сабе партрэт стомленага жыццём чалавека, падобнага хутчэй да бухгалтара ці адміністратара, чалавека, які выглядаў старэйшым на свае гады. Іншая справа — Нечыпалей ці чалавек падобнага тыпу. У такім твары — інтэлект, шляхетнасць. Не, усё павінна заставацца па-ранейшаму.

Васковіч усё ішоў за дзецьмі і настаўнікам на пэўнай адлегласці, не набліжаўся і не аддаляўся, бы нешта нябачнае непарыўна і моцна звязвала іх. Вось Вікенці Паўлавіч, нешта адказваючы, нахіліўся да хлапчука, абняў яго за плечы, і на хвіліну Васковічу здалося, што гэты

хлапчук — ён, дванаццацігадовы Антоська. Чамусьці раззлаваўся на сябе: ці за тое, што паддаўся сентыментальнаму настрою, кінуўся ва ўспаміны, што прыгняталі, нараджалі пачуццё віны, ці, можа, за тое, што гэтая сустрэча надала яму адчуванне нейкай расчараванасці.

Раптам адчуў лёгкасць у душы, нібы ў твар дыхнула марскім паветрам. Нешта мякка кранула душу. Падняў галаву ўгару... Увесь у ззянні сонечных фарбаў, бліскучы і горды, з шаўковым шолахам бялюткіх ветразяў, па аксамітнай вадзе праплываў міма карабель яго дзіцячых мараў. Смала дробненькімі бурштынамі сцякала па яго высокіх бартах, канаты былі тугія, рухі рулявога ўпэўненыя.

Радасна ўсміхнуўся. Вось яно, шчасце, хвіліны кароткія, але — ягоныя. Забыўся на свае сталыя жыццёвыя прынцыпы, на тое, як вырашыў цяпер працаваць. Дзе ж той аловак і дзе ж тая папера, каб злавіць, назаўсёды прыкуць да іх яго мару, каб заўсёды была яна з табой! А карабель плыў далей, не затрымліваўся. Маўчанне было на яго палубах, усе ілюмінатары былі наглуха задраены, нібы перад бурай. Карабель упэўнена плыў у той бок, дзе мільгалі ў людскім натоўпе дзіцячыя галовы — бялявыя, чарнявыя, каштанавыя, русыя, туды, дзе ўзвышалася над дзецьмі рана пасівелая галава Вікенція Паўлавіча. І зразумеў Васковіч, што адплывае яго цудоўны карабель назаўсёды.

«Пачакай, пачакай»,— шапталі яго вусны. Ён зрабіў крок, другі ў той бок, куды адплываў карабель. Пачуў міліцэйскі свісток, але не спыніўся — спяшаўся, лавіраваў паміж машынамі, кіраваў на другі бок вуліцы...

# Каханне і краты

Як заўсёды яна з'ела сняданне з добрым апетытам і цяпер ляжала, свабодна дыхаючы. У кожнай жылачцы быццам са звонам бегла маладая кроў. Цела яе прагла прасторы, лёгкага крылатага бегу. Пачуццё гэта было падсвядомае, як і смутак па прасторы. Яна амаль зусім не помніла таго часу, калі бегла па мяккім, з рэдкімі шурпацінамі калючак пяску, побач з маці, дужай і вялікай львіцай. Успамін аб тым бясконцым бегу, калі пад жоўтай атласнай скурай іграў кожны мускул, нястомны і прагны,— захоўвала толькі яе маладое цела.

Леў ляжаў побач па-ранейшаму нерухома. Толькі частае няроўнае дыханне яго ды трапятанне павекаў паказвала, што ён яшчэ жывы. Леў сёння нават не дакрануўся да свайго мяса. Магутная грыва яго, распластаная па бруднаму драўлянаму дну клеткі, была па-ранейшаму густой і прыгожай. Збоку, мабыць, здавалася, што леў адпачывае. Толькі львіца ведала, што не ўстане ён больш, не пацягнецца ўсім целам, не пройдзецца пругкай хадою ўладара каля яе, не патрэцца сваім плячом аб яе плячо.

Апошнім часам стаў ён задумлівы, амаль увесь час ляжаў, дрэнна еў і са смуткам глядзеў на сваю львіцу разумнымі жоўтымі вачыма. Нібыта ўспамінаў нешта, невыразнае, далёкае, і ніяк не мог успомніць, і таму адчуваў сябе вінаватым. Леў быў стары, намнога старэйшы за

яе, і ўжо аджыў свой век. Львіца зразумела гэта раней, чым хто другі. Калі прыйшоў ветэрынар са служыцелямі паглядзець, што са львом, яна стала паводзіць сябе з нечаканай для яе варожасцю. Насцярожылася ўсім целам, каб адразу кінуцца на людзей, калі яны невыпадкова ці наўмысна паспрабуюць зрабіць крыўду яе бездапаможнаму льву. Яна быццам загадзя ведала, што гэтым разам не будзе ад іх ні лекаў, ні вітамінаў, ні якой іншай дапамогі. Яны маглі зрабіць толькі адну страшэнную крыўду для яе: разлучыць са львом.

Служыцелі спачатку паспрабавалі выманіць ці выгнаць яго ў другую клетку. Ды леў не рэагаваў на тычкі палкамі, уговоры і ўсё стараўся павярнуцца да людзей задам, быццам такім чынам мог пазбавіцца іх. Здавалася, усёй сваёй стомленай паставай казаў: пакіньце мяне ў спакоі, вочы б мае на вас не глядзелі... Тады служыцелі ўставілі дадатковыя краты праз верх клеткі, каб аддзяліць львіцу, якая нервовымі крокамі мерала клетку. Ветэрынар нядоўга аглядаў льва, які нерухома ляжаў на баку і абыякава глядзеў на ўсіх. Чалавек развёў рукамі і нешта сказаў таварышам. Калі б львіца магла разумець людзей, яна б пачула, што леў ужо стары і што яму засталося жыць лічаныя дні, у лепшым выпадку тыдзень-другі. Але львіца і без таго адчувала, што з ім адбываецца нешта страшнае, незваротнае.

У будыначку, дзе стаялі клеткі са львамі, малпамі і другімі паўднёвымі звярыма, заўсёды было шматлюдна. Людзі, ціха размаўляючы, патроху ішлі і ішлі. Яны былі для львіцы часткай прыроды, блізкай, але незразумелай, як воблакі, далёкія і бязважкія, што беглі па сіняму небу ў расчыненым акне будыначка, як вецер, што зрэдку скразняком прабягаў праз

клеткі, як малпы ў суседняй клетцы, што рэзкімі крыкамі трывожылі цішыню. Львіца прызвычаілася да людзей, як да неабходнасці, якая корміць, прыбірае, дае лекі. Бо львіца ўжо забылася, як яе, зусім малое шчаня, гэтыя людзі злавілі і як доўга-доўга яна вандравала па свеце ў вузкіх, цесных скрынях-клетках. А калі б і помніла, то ці зведала яна другое жыццё? Ці ж сумнявалася ў неабходнасці і непазбежнасці ўсяго таго, што адбывалася з ёю? Толькі: то дзікія першабытныя сны, то няясны ўспамін аб паху спаленага дрэва, то адчуванне незразумелай пагрозы і небяспекі перад навальніцай трывожылі і непакоілі львіцу, асабліва калі вячэрнія перадавальнічныя сполахі зрэдку асвятлялі сцены будынка ды рэзкія крыкі экзатычных птушак прарэзліва і нечакана гучалі па ўсім заапарку. Яна ўцягвала носам гэта напоўненае трывогай паветра, уздрыгвала ўсім целам і тыкалася лбом льву ў бок, нібы казала: паслухай і ты, што за неспакой вакол, навошта ён абуджае, навошта прымушае хвалявацца? А леў у адказ размашыстым, мяккім і нячутным крокам мераў клетку па ўсіх чатырох напрамках. Львіца ведала, абяжыць ён сваю падуладную тэрыторыю некалькі разоў, зведае, ці не пагражае ёй якая небяспека, пасля цяжка ссунецца на падлогу ля дзверцаў клеткі, прыцісне яе целам і будзе сцярожка ляжаць, углядацца ў цемру, на першы выгляд спакойны і велічны (але ж львіца ведала, што ён пільна і ўважліва прыглядаецца з-пад прыжмураных павекаў і насцярожана дбае: не дай бог што...). І ёй стане спакойна, і адчуе сябе больш упэўнена, бо толькі што чула голас неспакойнай прыроды, мяцежнай стыхіі, нібыта перагаварыла з ёю і зразумела, адчула: яны ў згодзе, ёй, львіцы, сёння нічога не пагражае, бо яна не адна...

Льва, што пражыў доўгае і блытанае жыццё, звалі Адольф. Апошні час ён працаваў у цырку, пакуль не вывіхнуў сабе лапу. Яна хоць і паправілася, усё ж леў стаў трошкі накульгваць. Мабыць, і ўзрост адчуваўся. Таму льва і выбракавалі. Леў ахвотна адгукаўся на мянушку, да людзей быў добразычлівы. Іх ён успрымаў спакойна, розумам.

Львіца таксама трошкі пакаштавала цыркавога бляску, які яе толькі ашаламіў і раззлаваў. Яе цыркавая кар'ера была кароткай. У яе не атрымліваўся кантакт з дрэсіроўшчыкам. Асабліва з дрэсіроўшчыцай, якая выступала ў пары з мужам. Чамусьці не любіла львіца асабліва жанчын, гэтых гнуткіх, прыгожых, уладарных стварэнняў. Львіца раўнавала іх да свабоды, улады. Ведала — яна таксама прыгожая і гнуткая, і нават прыгажэйшая і дужэйшая, і варта толькі раз скочыць... Львіца сачыла, уважліва, насцярожана, за кожным рухам дрэсіроўшчыцы: калі ж тая зробіць прамашку, калі паслабіць увагу,— і пругка падкурчвала то адну, то другую пярэднюю лапу, гэтак прыгожа прытанцоўвала... Ні бізун, ні пернік не прымусілі львіцу працаваць у цырку. Дрэсіроўшчык таксама не мог з ёю ўправіцца. Яна рабіла выгляд, што баіцца розных незразумелых для яе рэчаў: марудзіла перад выкананнем кожнага загаду. Тым часам цырк «разжыўся» яшчэ параі львоў, і дрэсіроўшчыкі адмовіліся ад львіцы, бо была яна аж надта некантактная. А тут львіца якраз прастудзілася на восеньскіх скразняках і захварэла, засумавала. Яе аддалі ў бліжэйшы заапарк маленькага раённага гарадка, а цырк і бліскучае артыстычнае жыццё павандравалі далей. Такім чынам апынулася львіца ў вузкай клетцы, бо вальераў для вялікіх звяроў тут не было.

Можа цяпло льва яе выратавала, а можа тое, што людзі пакінулі яе ў спакоі. Такая ўжо была яна далікатная ды сабе наўме. З таго часу засталося ў яе да людзей яснае пачуццё: «чужыя». Яўнай крыўды яны ёй не рабілі; але б яна хацела трымацца ад іх далей. Леў Адольф прымаў ад людзей пачастункі, львіца — ніколі. Калі ўдзень прыходзілі людзі паглядзець на іх — львіца старалася павярнуцца да іх бокам, паглядала скоса, а на Адольфа ўвогуле старалася не глядзець, мабыць, адчувала нешта падобнае да няёмкасці за яго.

Леў Адольф пражыў доўгае жыццё, пабачыў многа краін, зведаў шмат перамен і нарэшце супакоіўся: у будыніне цёпла, кавалак мяса забяспечаны, побач — маладая львіца. Ён многа спаў і, здавалася, апошнія дні зусім пайшоў у гэтыя свае сны. Ён ужо не паварочваў галавы на галасы людзей, не адгукаўся на мянушку. Бо быў ужо духам нетутэйшы. Львіца гэта разумела, як і тое, што ў яе жыццё цяпер уваходзіць нешта нячутнае і жахлівае, чаму яна яшчэ не ведала назвы. Яна амаль не спала гэтыя апошнія дні, гатовая ледзь што кінуцца на дапамогу.

А вакол жыццё бегла сваёй чарадой. Як заўсёды дакладна служыцелі прыносілі ежу, прыбіралі клетку, як заўсёды ў будыначак уваходзілі людзі, ішлі паўз клеткі, прыглядаліся да звяроў, кідалі ім булкі, цукеркі. Але львіцу было не падмануць гэтай наўмыснай звычайнасцю. Яна не розумам — сэрцам адчувала: прыйдуць некалькі гэтых (ці тых, усё роўна) і выцягнуць яе льва, як здохлую кошку, з клеткі, і больш ніколі яна яго не ўбачыць, не будзе ёй засціць святло яго магутная карычневая грыва, не будзе яна адчуваць яго пах, і што з канцом усяго гэтага скончыцца і яе жыццё.

Цяпер яна ляжала побач са львом, паклаўшы яму лапу на шыю, і з горла яе чуўся някат. Сёння ўсе гэтыя людзі былі яе ворагі. Упершыню, не баючыся людскіх позіркаў, глядзела яна людзям проста ў вочы. Былі яны і сапраўды не такія ўжо пранізлівыя, гэтыя зялёныя, чорныя, блакітныя цікаўныя чалавечыя агеньчыкі. Яны плылі перад ёю бясконцым жывым морам. Сёння львіца была адна супраць усяго свету і за сябе, і за свайго льва. Яна не аддасць яго нікому: ні людзям, ні снам. Пакуль яна жывая. А там — ці не ўсё роўна...

# Адліга

Тэлефонны званок гучаў, здавалася, недзе ў падсвядомасці, нібы праз многа-многа зачыненых дзвярэй. Калі ён нарэшце канчаткова прачнуўся з-за гэтага, рэзкі гук прагучаў зноў, запульсаваў у скронях. Святло рэзала вочы, таму ён ніяк не мог іх расплюшчыць і босы, навобмацак, пасунуўся да падаконніка, на якім усё трызвоніла чортава цацка. Намацаў трубку і толькі тады расплюшчыў вочы. У трубцы маўчалі.

— Ну,— буркнуў ён асіплым са сну голасам. Адкашляўся і зноў выдыхнуў у трубку сваё звычайнае рэзкае «Ну?».

— Прабачце, таварыша Нікіціна можна? — няўпэўнена прагаварыў жаночы голас.

— Ну? — яшчэ больш агрэсіўна і нецярпліва гыркнуў ён у трубку.

І жаночы голас не адразу, праз нейкую хвіліну няўпэўненасці і вагання, пачаў расказваць нешта блытанае пра нейкага Сярожу, Таццяну, пра каханне і пра здраду. І нарэшце разгублена змоўк.

А ён па інерцыі ўсё трымаў трубку ў руцэ і думаў зусім не пра тое, што тут яму нехта гаварыў, а пра тое, ці ёсць яшчэ ў запасе піва, бо з галавою рабілася нешта жахлівае пасля ўчарашняй сяброўскай сустрэчы.

Неахвотна і паволі пераводзіў позірк з памятай пасцелі на паліто, абы-як перакінутае

цераз спінку крэсла, на стол, на якім стаяла некалькі пустых бутэлек, талеркі з рэшткамі закускі, на брудную пляму на сцяне — калі і як яна тут з'явілася? — на некалькі пустых бутэлек, што былі параскіданы па падлозе. Пасля заўважыў, што ўсё яшчэ трымае ў руках трубку і прыслухоўваецца да яе.

— Ну? — прамовіў зноў коратка і расслаблена. І тут упершыню дайшоў да яго той дробны факт, што нехта нябачны чагосьці хоча ад яго. Хто б гэта мог быць? Што ім усім трэба?

— Не магу я так, па тэлефоне...— сказаў раптам жаночы голас у трубцы.— Я лепей прыеду да вас.

— Што? — страшэнна здзівіўся ён.

— Я знаю, што вы нам дапаможаце, вы якраз такі чалавек, які нам патрэбны... Я і адрас ваш дастала ў рэдакцыі... Прыеду да вас праз паўгадзіны, добра?

Ён няпэўна чмыхнуў і моўчкі затросся — засмяяўся. Але трубка, нібы ў насмешку над ім, абазвалася кароткімі гудкамі.

Паклаў трубку, падумаў яшчэ з мінуту, хто б гэта мог над ім жартаваць, пачухаў патыліцу і намацаў гузак, якога яшчэ ўчора там не было. Убачыў у кутку аленевыя рогі, акуратна разламаныя на дзве часткі, здзівіўся.

Чорт ведае што!

Ён раптам адчуў амаль што фізічны боль. Гэта ўвесь той цяжар, што збіраўся ў душы апошнія дні, месяцы яго няўтульнага пустога жыцця, нібы прыбіў яго да зямлі, аж цяжка зрабілася дыхаць. Такое з ім здаралася не раз, калі нешта не ладзілася, ішло наперакос. Ён быў гатовы што хочаш аддаць, каб не было ў яго жыцці гэтага мінулага года. Амаль увесь год — ні радка. Ціхі жах агортваў яго ад адна-

го толькі пранізлівага свячэння белай паперы. Нянавісць, пякучая нянавісць да гэтай чорнай вязі на паперы, што вілася, спляталася ў тонкія незразумелыя радочкі, пазбаўленыя жывых барваў і сэнсу,— прыгожыя незнаёмыя фразы, словы, слоўцы, нямыя, безгалосыя,— якое яны мелі да яго дачыненне, што маглі сказаць пра яго боль?!

«Няўжо гэта ўсё? — мільгала тады палахлівая думка.— Гэта ж канец!» А пасля ехаў куды-небудзь да людзей, да сяброў ці так, знаёмых, з якімі мог узяць добрую чарку і якія ведалі яго ранейшага. Ён нібы сустракаўся ці імкнуўся сустрэцца з самім сабой, колішнім. А пасля знікала і гэта жаданне сустрэч, ён ехаў дадому і рваў там свае рукапісы, усе вартыя жалю спробы за апошні год.

А іншы раз вяртаўся позна вечарам дамоў цвярозы. Не запальваў святла, баючыся ўбачыць, што тут нічога не змянілася, усё на ранейшых месцах. А так хацелася адчуць, што ў жыцці ўсё будзе па-новаму, не так, як раней, не так... Тады і ўспамінаў зялёных дракончыкаў, што малявала ў сваіх пісьмах да яго Наташкамалая... Яе цацкі і лялькі ён даўно ўжо аддаў дзецям сваіх сяброў і суседзяў. Бо не было для яго болей балючых успамінаў, чым гэтыя рэшткі маленькага жывога жыцця, якое раптам перарвалася... Услед за гэтым прыходзіў адзін і той жа жахлівы сон. Наташка-малая, учапіўшыся з усіх сіл пабялелымі пальчыкамі за маці, прыціскаецца ў жаху да яе, шукаючы паратунку, а самалёт нястрымна падае ўніз. Што тады крычала ў тую апошнюю хвіліну дачка? «Ма-а-ма!»? А жонка? Ці ўспомніла яна тады хоць на адно імгненне яго? А ён быў так жахліва далёка ад іх і нічога, нічога не мог зрабіць...

Калі ён уяўляў сабе іх апошнія хвіліны — здавалася, паміраў разам з імі,— траціў прытомнасць, а калі яна вярталася да яго — не было ўжо адчування, што ён жывы.

Сукні, вопратка Наташы-вялікай, яго жонкі, так і засталіся вісець у вялізнай сямейнай шафе. Яе рэчы не навейвалі балючых успамінаў, а, здавалася, займалі сваё законнае месца, без іх яму было б несамавіта. Ён нават баяўся ўбачыць гэтую шафу пустой. Вечаровая блакітная сукня жонкі нагадвала стомленую птушку са складзенымі крыламі. Птушка тая заснула назаўсёды.

І толькі калі ён успамінаў пра ранейшае жыццё да той жахлівай авіяцыйнай катастрофы, здавалася яму, што ён яшчэ жывы, яшчэ дужы. Валодалі ім тады простыя штодзённыя клопаты і турботы, і захліствалі вершы, словы, радкі, урыўкі з ненапісанага, тое жывое цяпло, што варушылася мяккім клубочкам каля сэрца. І ўзнікаў у душы неспакойны запал — прага пісаць, ствараць... А запальваў святло — усё знікала. Так, усё ў свеце па-ранейшаму, і няма яго Наташак...

За тыя паўгода, што адбыў ён у бальніцы, стэрыльна-белыя сцены яго палаты здаваліся яму бяздонным, бясконцым і пустым, куды ён падаў і крычаў ад жаху, адчуваючы пад сэрцам пустату. Так, гэта ён падаў штодня з бязмерных вышынь пад воблакамі, падаў ён, а яны, жывыя, вясёлыя, заставаліся на зямлі. Гэта ён скончыў жыццё, не пакінуўшы ад сябе ні рэшткі, а яны, жывыя, вясёлыя, хадзілі між людзей, натоўп сыходзіўся вакол іх, рассоўваўся, выпускаў са сваіх абдымкаў: і ішла па сонечнай алейцы тонкая, высокая, светлавалосая Наташка-вялікая, і яе абцасікі нанізвалі жаўталісце, што шчодра ляжала гэтай парою на зямлі, і бегла

побач упрыскокі Наташка-малая, абдымаючы свайго любімага, старога, абшарпанага мішку з адным адарваным вухам.

Гэта ўсё было паўтара года назад. Не, не паўтара, то было ў нейкім другім жыцці, якое ледзь прыгадвалася, такое нерэальнае, немагчыма далёкае. З тае пары час для яго спыніўся. Было вар'яцтва, п'янае трызненне, адчуванне нечалавечай бязважкасці. Пасля — бальніца, вяртанне да рэальных бяздушных рэчаў, да людзей, з якімі невыносна цяжка было сустракацца. Ён пачаў абыходзіць многіх са сваіх сяброў, тых, хто пачынаў яму спачуваць, суцяшаць, корпацца ва ўспамінах і, абдымаючы за плечы, угаворваў забыцца на мінулае, на яго няшчасце. Так, гэта былі яго сябры, але яны не мелі дачынення да яго ўспамінаў, не мелі права варушыць яго незагоеныя раны...

Раптам у дзверы пазванілі.

Ён і не варухнуўся.

Але званок зазвінеў зноў, доўгі і ўпарты, гаворачы, што той, за дзвярыма, будзе званіць, пакуль яму не адчыняць.

Памянуўшы бога і чорта, накінуў на плечы халат, пайшоў адчыняць. То быў упраўдом пры ўсіх сваіх ордэнскіх калодках. Калі, бывала, упраўдом прыходзіў да яго, то чамусьці стараўся выглядаць вельмі ўрачыста.

Сурова глянуўшы на яго, упраўдом строга вымавіў:

— Вось, зноў суседзі скардзяцца...

— Ды вы заходзьце, Антон Платонавіч,— весела прапанаваў ён, бо загадзя ведаў, чым скончыцца гэты чарговы візіт упраўдома (ці ўпершыню?),— толькі, калі ласка, на кухню, бо ў пакоі ў мяне рабочы непарадак.

— Але, як жа ж,— не адступаўся ўпраўдом,— калі суседзі зноў гаварылі, што ў вас да позняй ночы спявалі.

Але ўвайшоў.

— Вось, сядайце сюды, Антон Платонавіч,— ён падсунуў яму табурэт.— Вось гуркі, вось каўбаса. Я зараз...

Выняў з халадзільніка запацелую «чакуньку», якую прадбачліва пакідаў нават пасля самых мнагалюдных вечарынак на ўсякі выпадак.

...Праз гадзіну Антон Платонавіч тонкім голасам ужо заводзіў песні часоў першай сусветнай...

Калі ўпраўдом пайшоў, ён застаўся нерухома сядзець на табурэце. Зараз любы кантакт з людзьмі адбіраў усе яго сілы, вычэрпваў, як самая цяжкая работа.

Вось так пачынаўся яшчэ адзін дзень, доўгі, такі ж, як іншыя. І ўсё ж трэба было нешта рабіць. Адчуванне трывогі, незразумелай віны невядома перад кім былі для яго сёння проста невыноснымі.

Па-першае, трэба прыбраць у пакоі, каб гэты беспарадак не скоўваў, не прыгнятаў, падругое, дастаць грошай і з'ехаць куды-небудзь, хоць на край свету, каб хоць як-небудзь пераманіць абставіны.

...Калі ён скончыў прыбіраць, у дзверы зноў пазванілі. Трывожна абазвалася сэрца. Чамусьці здалося, што гэта паштальён, які разносіць тэлеграмы. Хаця ён добра ведаў: не было ад каго яму чакаць нават самай звычайнай паштоўкі.

Але на парозе стаяла дзяўчынка ў каратказатай зялёнай сукенцы і свяціла на яго празрыстымі зеленаватымі вачыма.

Ён з нечаканай палёгкай уздыхнуў. Ад такой істоты проста нельга было чакаць непрыемнасцей.

— Можна? — спыталася яна.— Гэта я вам званіла па тэлефоне.

— Заходзьце, калі ласка,— ён шырокім тэатральным жэстам запрасіў яе ў кватэру. Пачаў ліхаманкава ўспамінаць, калі яна яму званіла, хто такая і што ёй трэба. Успомніць ніяк не ўдавалася, бо пра ранішні тэлефонны званок ён, канешне, даўно забыўся. А вось нейкі незразумелы выраз у глыбіні яе чыстых празрыстых вачэй, канешне ж, нешта нагадваў.

Дзяўчынка спынілася ў калідоры, прытуліўшыся да сценкі. Ён хуценька прайшоў першым у пакой. Так, усё чыста, прыбрана. Застаўся апошні штрых: ён зграб са стала сурвэтку з рэшткамі ежы, посудам, занёс усё гэта на кухню. Крыкнуў ёй адтуль:

— Ды вы праходзьце ў пакой, не бойцеся. Сядайце і адчувайце сябе як дома. Спявайце, танцуйце, чытайце,— я зараз...

Хуценька пераапрануўся ў ваннай, надзеў кашулю, апаласнуў твар халоднай вадой і адчуў сябе бадзёрым.

«Нешта свежае, цікавае і непрадбачанае»,— падумаў ён пра дзяўчынку.

Дзяўчынка сядзела на краі канапы, прыціскаючы да сябе абедзвюма рукамі сумку. Калі ён увайшоў у пакой, пераапрануты, прычасаны, яна прыўзнялася з месца, як школьніца з прыходам настаўніка.

«А яна не дзяўчынка, а дзяўчына»,— адзначыў ён сабе, прыгледзеўшыся да яе зграбнай дробненькай фігуркі. «Гадоў дваццаць, і жыццё яшчэ не зачапіла, не адбілася на твары, на позірку».

— Ну дык што, мілае дзіця?

Ён сеў перад ёю на крэсла.

Дзяўчына прыкметна хвалявалася. Яе тонкія пальцы церабілі брошку на грудзях.

Яна некалькі разоў узнімала руку, хацела нешта сказаць, неяк распачаць гаворку, але не асмельвалася. Тады ён паспрабаваў ёй памагчы, сам стаў гаварыць. Яна ці хацела яго перабіць, ці штосьці ўдакладніць, яны загаварылі разам і разам рассмяяліся.

— Ну вось,— з палёгкай прагаварыла дзяўчына,— а то я не магу гаварыць, калі вы такі сур'ёзны.

Ён глядзеў на яе паружавелы ад смеху тварык, смешныя ямачкі на шчоках, бліскучыя вочы, што глядзелі на яго з безабароннай, амаль дзіцячай даверлівасцю, і адчуваў, што ад гэтай размовы не адмахнешся, не аджартуешся, што глядзіць яна яму проста ў душу.

— Ведаеце, чаму я да вас?.. Чыталі мы нядаўна ў цэху вашу кніжку...

— Кніжку? — з лагоднай усмешкай перапытаў ён.— Хм, цікава, і якую ж кніжку?

— «Водгукі крокаў тваіх». Ведаеце,— яна ўся засвяцілася мяккай усмешкай,— мы тады ўсе падумалі: вось бы пагаварыць з гэтым чалавекам пра нашу бяду... Ён нас зразумее.

Ён не так слухаў, што яна гаворыць, колькі пераймаў ад яе і гэтую ўсмешку ўсім тварам, і гэты погляд, прыязны і цёплы. І ў глыбіні свядомасці варушылася — нават не думка — адчуванне, што было для яго, нібы вада для засмяглага рота: аказваецца, пра яго яшчэ памяць, ёсць на свеце людзі, што ведаюць яго і ён ім патрэбны.

Адчуванне гэта было такім няўлоўным, але такім суцяшальным!

— І мы вырашылі, што трэба параіцца з вамі... У нас такое няшчасце магло здарыцца: сяброўка ледзь на сябе рукі не налажыла.

— «Маруся отравилась...» — раптам успомніў словы з нейкай блатной песенькі — і ад-

чуў, што вярзе не тое. Зараз такі тон быў і недарэчны і фальшывы.

— Не, што вы,— здзівілася дзяўчына,— яе Таццянай завуць.

І яна, збіваючыся, пераскокваючы з аднаго на другое, пачала расказваць пра гэтую Таццяну, пра яе каханне, пра тое, як тая засталася адна, цяжарная, а яе хлопец пайшоў да другой...

— Вы можаце, далібог, можаце што-небудзь зрабіць для яе... для нас,— дзяўчына лёгка правяла рукой па яго рукаву.

Яе валасы лёгкай каштанавай каронай абрамлялі прадаўгаваты тварык. Такіх даўно ўжо не было тут, у яго кватэры, ажно з часоў яго Наташак... І ўсё роўна, што яна тут цяпер казала. Галоўнае, што глядзела на яго як на Чалавека, глядзела з надзеяй. І былі яшчэ людзі, што чакалі высокага дзеяння яго таленту, яго сілы. А дзе тая сіла?

— Даражэнькая, што ж я магу зрабіць для вас? — стомлена спытаўся ён.

Падумаў, што ўсе гэтыя хлопчыкі і дзяўчаткі, аматары аўтографаў і стваральнікі рамантычных легенд вакол вобразаў любімых пісьменнікаў ніколі не маглі зразумець, што іх вялікія недасягальныя богі — такія ж звычайныя людзі. Калі — засяроджаныя на сваёй рабоце, і тады абыякавыя да многіх зямных спраў, калі — брыдкія, эгаістычныя, калі — разгубленыя, безнадзейна закаханыя. Ім самім так часта патрэбна дапамога. А на якіх багоў ім спадзявацца?..

Дзяўчына глядзела на яго ўважліва і, як яму здалося, крыху спачувальна, быццам разумела тое, аб чым ён у гэты час думаў.

Банальная гісторыя, банальная прапанова: «Напішыце аб гэтым...» Колькі такога ён ужо

чуў... I ўсё ж было нешта, чорт яго бяры, у гэтай наіўнай людской веры ва ўсемагутнасць і дзейснасць іхняга брата...

I сядзіць вось тут такая німфея, глядзіць на яго празрыстымі вачыма, спадзяецца... Ну што, адправіць яе з богам, а самому застацца пры сваім?

— Я разумею, вы ж не возьмеце яго за руку, не прыведзяце да Таццяны з яе дзіцем. Ну хоць пагаварыце, убіце ёй у галаву, што варта яшчэ жыць, што не ўсё для яе скончана,— дзяўчына нібы працягвала яго думкі, нібы падказвала яму выхад.

Ён не адказваў, хаця адчуваў, што павінен нешта сказаць.

Устаў, нервова прайшоўся па пакоі, на хвіліну забыўшыся на госцю. Варухнулася ў ім душа ў прадчуванні работы, па якой так прагна, так неўсвядомлена сумаваў столькі часу.

Пасля зноў убачыў яе добры, просты і шчыры тварык і той знаёмы выраз вачэй, які зноў уразіў яго. Такая жывая, такая рэальная істота. Хто яна? Жанчына? Кветка? Успамін? Жаданне?

Ён хутка мераў крокамі пакой, нібы імкнуўся пераадолець нейкую адлегласць, за якой — збаўленне і вызваленне. Прынамсі, нейкая палёгка. Ліхаманкава думаў: «Што ёй адказаць? Што параіць? Як затрымаць цяпер хоць ненадоўга ля сябе гэтую дзяўчыну, гэты яго мілы неспакой?..»

Разам з тым мільганула нечаканая думка: «Навошта?» I ён жахнуўся. Адчуў стомленасць і сумоту. Глянуў на сябе збоку: дрэнна паголены, пажылы мужчына, з апушчанымі плячыма, пахмурным позіркам, з чырвонымі ад бяссоння вачыма, з непрыемнай усмешкай, нядбайны чалавек, з хворай, неспакойнай душой,— каму ён

такі патрэбен, што ён можа даць таму, хто на яго спадзяецца, хто побач з ім? Ці можа ён даваць каму-небудзь тую цеплыню, надзейнасць, якую сам хоча толькі атрымліваць?

Сумленнасць чортава...

— Я напішу,— сказаў ён, не паварочваючыся, няўцямна гледзячы ў акно,— дальбог, яшчэ што-небудзь напішу...

Стаяў так доўга, бясконца доўга, і калі стукнулі дзверы недзе там, за спіною, не змог адразу адарваць позірк ад нябачнай кропкі. Калі, нарэшце, не без намагання, перавёў позірк — убачыў, што ў пакоі нікога няма.

Нішто ў свеце не змянілася. Па ранейшых арбітах ходзяць планеты. Людзі жывуць ранейшым жыццём.

А ці быў хто ў яго? Ці не мроя гэта, ці не трызненне хворага розуму сённяшняй ранішняй цяжкай часінай? У роспачы пераводзіў позірк з адной рэчы на другую, нібы шукаў чаго. Раптам штосьці бліснула пад нагамі. Нахіліўся. Так, мядзяная бляшка з адламаным вушкам, танная брошка валялася на падлозе.

— Ты разумееш,— пацяплелым голасам загаварыў ён, пагладжваючы брошку пальцамі,— разумееш, гэта вельмі цяжка, проста невыносна цяжка, калі няма з кім бывае вось так проста пагаварыць, па-добраму. А здараецца, што звычайнае чалавечае слова можа ўратаваць, вылячыць. Я не ведаю, чаму гэта менавіта сёння мне ўсё гэта стала так патрэбна. Вось ты пайшла, а ў мяне адлягло ад сэрца.— Ён гаварыў, нібы ўсё яшчэ бачыў перад сабой той позірк цёплых зеленаватых вачэй. І той знаёмы выраз у іх. «Як на чалавека...» Так на яго глядзела Наташа-вялікая, якая верыла ў яго насуперак усім і ўсяму, так глядзела на яго Наташка-малодшая — як на добрага і ўсемагутнага бога.

Цяпер ён ведаў, што гэты лёгкі каштанавы арэол валасоў вакол галавы, гэтая вера ў бліскучых вачах, разам з усёй гэтай гісторыяй пра каханне — было многа разоў, і будзе яшчэ не раз паўтарацца, і нідзе ад гэтага не дзенешся, бо гэта — жыццё, і яно не спыняецца...

...А людзі на двары скідалі з дахаў снег, і, нібы дождж, сыпаліся міма акна капяжы.

Ён нясмела ўсміхаўся таму, што адбывалася ў ім.

# Залатая рыбка

— Мама, глядзі, што я табе прынёс!

— Што ж гэта, сыночак?

Малы працягвае маці пустую жменьку.

— Залатая рыбка.

— Ох, якая харошанькая.

Жанчына месіць цеста. На кухні — усе прылады для прыгатавання пірага. Перад жанчынай — кніга аб смачных стравах.

— Я лавіў спачатку куранят, пасля — мышак, а цяпер вось злавіў табе залатую рыбку,— не супакойваецца малы.

— Нашто ж мне тая рыбка?

— Ты ёй скажы, і яна зробіць цябе каралевай.

— Ага.

Жанчына адказвае машынальна, сама ўсё завіхаецца ля пліты. Вячэра, пірог... Хутка прыйдзе муж.

Малы не адстае.

— Мама, ты хочаш быць каралевай?

Жанчына смяецца.

— Канешне. Хто не хоча!

— Ну вось давай пагуляем у залатую рыбку. Яна выканае ўсё, што мы папросім.

Жанчына сядае на табурэт, папраўляе рукой растрэпаныя валасы, пакідаючы на лбе белы след ад мукі, уважліва глядзіць на сына.

— Сыночак, з задавальненнем пагуляла б з табой у гэтую гульню, толькі часу няма. Зараз

тата прыйдзе, а тут такі вэрхал, вячэра яшчэ не гатова. Дальбог, у другі раз...

Стукаюць дзверы, прыходзіць тата.

Жанчына выходзіць у прыхожую сустракаць яго.

— Што новага?

— Нічога.

Мужчына моўчкі здымае чаравікі, надзяе пантофлі і таксама моўчкі ўваходзіць у пакой. Сядае ў крэсла. Тупа глядзіць перад сабой на цёмны экран тэлевізара.

Жанчына нібы адгадвае яго жаданне. Уключае.

Пасля мужчына моўчкі вячэрае, не адрываючы позірку ад экрана. Там ёсць адлюстраванне, няма гуку. Тэлевізар даўно сапсаваны.

— Шкада, не паспела пірог спячы. Яшчэ ў духоўцы,— спрабуе жанчына перарваць маўчанне.

— Угу,— адказвае мужчына, працягваючы глядзець на экран.

Малы зноў узнікае побач з маці.

— Мама, глядзі, якая маленькая рыбка!

— Так, сыночак, так,— стомлена кажа жанчына і глядзіць туды, куды глядзіць яе муж. І яны ўдваіх глядзяць нерухома ў адну кропку, як загіпнатызаваныя чымсьці, што і самі не могуць ніяк усвядоміць.

— Ты ёй скажы, яна зробіць табе каралеўку.

— Што? — жанчына паварочваецца да малога.— Што ты кажаш?

— Ну, каралеўку,— адказвае малы і паказвае на галаву маці.

— А, карону?

— Ага, карону.

— Нашто яна мне?

— Ну як, каралевай будзеш,— здзіўляецца малы нездагадлівасці маці.

— Знаеш, сыночак, я забылася, як гэта робіцца,— задумліва кажа жанчына.— Баюся, ў мяне гэта ўжо не атрымаецца.

Малы глянуў туды, куды глядзела маці, куды глядзеў бацька. Не ўбачыў нічога цікавага і пайшоў на балкон, каб кінуць сваю залатую рыбку назад у мора.

# Гошка

Стаяла гарачае, з частымі навальніцамі лета. Цяжка дыхалася густым перагрэтым паветрам. Нават дзецям не гулялася ў іх звычайныя гульні на двары.

Ды і не было з кім гуляць Гошку цяпер. У жніўні ўсе хлопцы з іхняга двара параз'язджаліся на канікулы. Хто ў вёску, хто на мора, хто ў піянерскі лагер. А Гошкава змена ў піянерлагеры ўжо скончылася. І вось бадзяўся ён па двары, не ведаючы, куды падзець сябе. Вырашыў пайсці ў дзіцячы пакой, узяць якую-небудзь настольную гульню.

Дарэчы, у гэтага дваровага дзіцячага пакоя была свая цікавая гісторыя і звязана была з гісторыяй дарослага чалавека, якога звалі Воўка-Чыта. Воўка-Чыта — гэта дваццацігадовы хлопец, які жыў у іхнім двары і працаваў на чыгунцы. Ён сабраў вакол сябе Гошкавых аднагодкаў, і яны ўсе разам «выкалацілі» ў домакіраўніцтве пакойчык — там, дзе раней жыў дворнік,— і зрабілі ў ім прытулак для дзіцячых гульняў.

З тае пары Воўка-Чыта стаў у двары самым вядомым чалавекам. І хлопцы ўжо забыліся, як колісь актыўна не прымалі яго ў сваю кампанію, калі ён толькі пасяліўся ў іх двары. Чаму яны так да яго паставіліся — ніхто не мог дакладна адказаць, а вось ужо як павялося з самага пачатку кпіць з новага жыхара іх дома,

так і працягвалася гэта даволі доўга. Можа, таму, што ў невялічкіх дваровых калектывах заўжды так прымалі чужакоў. І мянушку тую — Воўка-Чыта — далі яму яшчэ тады. А нічога ж асаблівага ў тым хлопцу не было. Доўгі, з жоўтымі валасамі, у невялічкіх тонкіх акулярах,— часта прыходзіў ён у альтанку, што стаяла пасярод двара. Там звычайна збіраліся дваровыя хлопцы, а Воўка ўсё хацеў неяк пасябраваць з імі. Але хлопцы з прыходам чужака на суверэнную іх тэрыторыю спынялі размову, пачыналі штурхаць адзін аднаго ў бакі, пасля нечакана зрываліся з месцаў, адбягалі на бяспечную адлегласць і, варожа пазіраючы на Чыту, пачыналі задзірацца:

— Што ты да нас прывалокся, Чыта? Чаго табе тут трэба?

Малыя хлапчукі падскоквалі, як сапраўдныя малпы, і крычалі: «Воўка-Чыта, Воўка-Чыта!» Разам з імі скакаў і крычаў Гошка. Аднойчы яму захацелася паказаць сябрам, што ён смялейшы за іх. Ён падскочыў да Чыты, вырваў у яго з рота папяроску і кінуў на зямлю:

— А курыць шкодна, Чыта...

Воўка-Чыта бездапаможна лыпаў белымі вейкамі і спрабаваў з імі па-добраму:

— Ды пачакайце вы, што я вам такога зрабіў?..

У той раз Гошку ўпершыню стала шкада Воўкі.

Старэйшыя хлопцы трохі пагардліва ставіліся да Воўкі-Чыты менавіта за гэтую яго ўседаравальную дабрату. Іншы на яго месцы зламіў бы каго-небудзь з іх і для навукі намыліў бы шыю — тады б усё стала на свае месцы, тады б яны сталі паважаць яго. А Воўка і не спрабаваў нікога лавіць і лупцаваць. Дзяцей ён любіў і не ўмеў крыўдаваць на іх.

З часам хлапчукі прывыклі да Воўкі. Усё ж ён быў не толькі цікавы, але і бывалы чалавек. Расказваў пра далёкія гарады, пра Каўказ, дзе служыў у арміі. Паступова хлопцы прывыклі да яго такога, якім ён быў.

Аднойчы Воўка злавіў Гошку за рукаў і з усмешкай спытаў:

— Скажы, а чаму я ўсё ж Чыта?

Гошка вырваўся з Воўкавых рук і ўголас, каб ніхто не западозрыў яго ў асаблівых сімпатыях да Воўкі, крыкнуў:

— А таму што — Чыта! — і стаў падскокваць і крычаць: — Воўка-Чыта, Воўка-Чыта...

Астатнія хлапчукі чамусьці не падтрымалі Гошку, і яму стала сорамна, не толькі з-за таго, што застаўся без падтрымкі, а і таму, што яму зусім не хацелася тады дражніць Воўку-Чыту.

І ўсё ж Чыта зрабіўся для хлопцаў проста неабходным чалавекам. Ён зацікавіў іх рознымі гульнямі, якія ведаў толькі ён адзін, неяк непрыкметна прымусіў усіх слухаць сябе. Неўзабаве яны разам арганізавалі дзіцячы пакой у двары, цікава адсвяткавалі там Новы год. Летам зрабілі касцюміраваны карнавал, пачалі нават ствараць дзіцячы тэатр. І хлопцы ўжо хадзілі за Чытай усюды, бо больш цікавага чалавека для іх не было ва ўсім двары. І паспрабаваў бы хто цяпер сказаць пра Чыту дрэннае слова!

Але ў жніўні Воўкі-Чыты таксама не было ў горадзе. Добра яшчэ, што хоць у дзіцячы пакой можна зайсці, узяць якую-небудзь настольную гульню.

Гошка выняў са сцяны дома паўцаглiны — тут, у тайніку, звычайна хавалі ключ ад пакоя. У падвале было душна. Гошка адшукаў сярод гульняў шашкі, пайшоў з імі ў альтанку. Сы-

граў дзве партыі сам з сабой, але гэта было не надта цікава. Калі Гошка хацеў, каб выйгралі белыя — яны і выйгравалі. Калі быў за чорных — перамагалі тыя. Гошку гэта хутка надакучыла. Ён стаў будаваць з шашак крэпасць, але яна рассыпалася.

Раптам Гошка пачуў ціхі голас:

— Гэй!

Падняў галаву. Праз гушчыню дзікага вінаграду, што абвіваў альтанку, на яго глядзелі шпаркія рудыя вочкі, глядзелі з-пад такога ж рудога, навіслага над ілбом чуба. Гэта быў Кілька-Кульгавы з суседняга двара.

Гошкаў двор па спрадвечнай традыцыі лічыў такі ж суседні двор сваім заклятым ворагам. І, мабыць, самай непрыемнай фігурай для хлопцаў з Гошкавага двара быў Кілька-Кульгавы. Хлопцы не любілі яго за тое, што Кілька ў адказ на кпіны і жарты ўмеў лаяцца так, што нават дарослыя з абурэннем на яго азіраліся. У свае пятнаццаць год ён ужо смаліў «Беламор», піў з дарослымі гарэлку. Нават юнакі пабойваліся Кільку. За жартачкі, нават і бяскрыўдныя, ён мог так адлупцаваць мыліцамі, калі яму ўдавалася напаткаць каго са сваіх ворагаў, што той помніў гэта доўга. Ад чаго Кілька кульгавы — ніхто дакладна не ведаў. Суседскія хлопцы гаварылі, што ў дзяцінстве ён трапіў пад трамвай. А так гэта было ці не — уІлькі ж не спытаешся, бо адразу мыліцай па спіне заробіш.

Ніхто з хлопцаў не шкадаваў Кільку. Ці то гэта была звычайная дзіцячая жорсткасць, ці, можа, Кілька быў не з тых, хто дазваляе сябе шкадаваць.

...Гошка насцярожліва згроб шашкі, накрыў іх рукамі. Хто яго ведае, гэтага Кільку. Раскідае зараз шашкі, а тады тлумач сваім, як і што

тут было... Гошка прымерваўся, як бы то яму зручней уцячы, але Кілька ўжо заступіў уваход у альтанку.

— Не дрыжы. Сёння я добры. Давай у шашкі згуляем.

Голас у яго быў даволі мірны, хоць вочы глядзелі, як здавалася Гошку, па-ранейшаму нахабна.

Гошка рашыўся: вакол ні душы, усё роўна няма з кім яму гуляць. Кільку, мабыць, аднаму таксама сумна. Так што гэтае часовае замірэнне нікому не пашкодзіць.

— Давай згуляем...

Кілька, грукаючы мыліцамі па драўлянай падлозе, моўчкі сеў за стол. Паставіўшы мыліцы справа і злева ад сябе, пачаў расстаўляць шашкі. У Кількі былі дужыя, вялікія, парослыя рыжым пухам недзіцячыя рукі.

— Ты якімі будзеш? — буркнуў Гошка.

— Давай адгадваць,— Кілька заціснуў у адной руцэ белую шашку, у другой — чорную.— Белыя пачынаюць.

Гошка наўгад тыцнуў пальцам у правыІлькаў кулак. Кілька няўлоўна ўзмахнуў рукой і паказаў Гошку чорную шашку.

— Э-э, ты махлюеш! — здагадаўся Гошка.

— Ну добра, давай яшчэ,— на дзіва міралюбна пагадзіўся з ім Кілька.

І зноў на Гошкаву долю выпала чорная шашка. Гошка набычыўся, спрачацца зІлькам яму не хацелася — і пачаў расстаўляць сабе чорныя шашкі.

— Ты не крыўдуй, хлопча,— нечакана сказаў Кілька.— На гэты раз табе сапраўды выпалі чорныя, без жартаў.

У Кількі быў басавіты, крыху асіплы голас.

Спачатку яны гулялі моўчкі, быццам прымерваліся адзін да аднаго, цішком зазіралі

адзін аднаму ў твар, нібы імкнуліся адгадаць намер саперніка.

Гошка яўна выйграваў, таму настрой у яго быў добры, ён нават стаў насвістваць нейкую песеньку...

Кілька раптам падняў галаву:

— Брэшаш ты...

— Што — брэшаш? — не зразумеў Гошка.

— А не такая ў гэтай песні мелодыя.

Кілька прасвістаў тую ж самую песню, якую пачуў ад Гошкі, толькі крыху інакш.

Гошка не ведаў, што яму адказаць. Але потым на ўсякі выпадак запытаўся:

— Адкуль ты ведаеш?

Кілька радасна зарагатаў.

— А ў мяне музычны слых, разумееш?

Тут ужо Гошка зусім забыўся на шашкі, на свой магчымы выйгрыш і, разявіўшы рот, стаў глядзець на Кільку. Музычны слых — як ён сабе гэта ўяўляў — было нешта такое рэдкае, вядомае толькі аднаму Веньку, бледнаму хударляваму хлопчыку з чацвёртага пад'езда. Ён хадзіў штодня са сваёй скрыпкай у музычную школу. З хлопцамі ў двары не гуляў, хадзіў з маці ці з бабуляй у парк — дыхаць свежым паветрам. Ва ўяўленні Гошкі музычны слых здаваўся нейкай хваробай. А Кілька не быў падобны да чалавека, які хварэе на музычны слых. Яго патрапаны, яўна з чужога пляча пінжачок ніякім чынам не нагадваў чысцюткую куртку музычнага хлопчыка Венькі.

Маленькія вочкі Кількі блішчалі па-змоўніцку.

— Не верыш?

Гошка абыякава пацiснуў плячыма. Ён рабіў выгляд чалавека, не вельмі зацікаўленагаІлькавымі словамі, хоць яму хацелася ўсё ж

даведацца, што такое «музычны слых» і якім чынам ён праяўляецца ў Кількі.

А Кілька набраў паветра ў лёгкія і раптам заспяваў што было сілы:

— Перпетум-мобиле, склонна к измене и к перемене, как ветер мая.

— Ну як? — запытаўся з цікавасцю.

— А што, — усміхнуўся Гошка, — нішто сабе выходзіць. Проста як на сцэне...

Кілька задаволена ўсміхнуўся.

— Калі я чую, як нехта няправільна спявае, мяне ўсяго ажно перасмыкае ўнутры. Проста брыдка робіцца на душы.

Гошка слухаў Кільку з цікавасцю і думаў, што Кілька — хлопец увогуле неблагі, за што толькі ўсе хлопцы яго не любяць? З ім і пагаварыць цікава, і злосці ў ім асаблівай няма. Нягледзячы на яўную Гошкаву перавагу на шашачным полі, гэтую партыю выйграў Кілька. Выйграў і наступную. А Гошку ўсё карцела ўзяць рэванш. Усё ж ён лічыўся адным з самых лепшых шашыстаў у іхнім двары, а тут на̀ табе! І калі Кілька пачаў збірацца дадому, Гошка стаў прасіць яго згуляць яшчэ. У гэты вечар яны гулялі ў шашкі доўга, пакуль не сцямнела.

Прайшоў дзень. Да школьных заняткаў заставалася яшчэ многа летніх гарачых дзён.

Гошка амаль кожны дзень гуляў з Кількам у шашкі, даміно. Дакладней кажучы, шашкі былі толькі прычынай, каб не бадзяцца кожнаму ў адзіноце па сваіх дварах. Іншы раз хлопцы спынялі гульню на палове і доўга размаўлялі.

Кілька ўсё больш падабаўся Гошку. І зусім ён не нахабны, а вельмі просты і нават добры хлопец. Нягледзячы на сваё калецтва, Кілька быў заўжды вясёлы, увесь час жартаваў.

І Гошка пачаў паважаць яго за гэтую штодзённую, амаль непрыкметную мужнасць.

Гошку было няёмка называць свайго міжвольнага сябра па яго мянушцы, і ён часта звяртаўся да Кількі: «Эй ты!» А Кілька на гэта аднойчы даволі спакойна і проста адказаў:

— А мяне, між іншым, завуць Жэнькам.

Жэнька не рабіў нічога, каб пасябраваць з Гошкам. Хутчэй гэта Гошка пачаў адчуваць, што іншы раз яму не хапае Жэнькі. Часта ён прасіў Жэньку расказаць што-небудзь,— усё ж той быў старэйшы за яго і меў сяброў сярод дарослых людзей. Таму расказаць мог шмат чаго. Напрыклад, пра сябра свайго бацькі, акцёра, які састарыўся і больш у тэатры не іграе. Жэнька расказваў і пра паходы ў тэатр, дзе бацька працуе рабочым сцэны. Ад тэатра перакідваўся на Каспійскае мора. Там, на самым беразе, жылі яго сваякі, раз у год Жэнька з бацькам ездзілі да іх. Маці Жэнькава памерла даўно, калі яе сыну не было і трох год.

Кожны дзень, прыносячы якую-небудзь гульню ў альтанку, Гошка з нецярплівасцю чакаў прыходу Жэнькі.

А дні ішлі. Набліжалася першае верасня. Апошнія дні Жэнька чамусьці перастаў прыходзіць у іх двор, мабыць, нейкія справы прымусілі сядзець дома. Гошка ж гэтыя дні бадзяўся па тлумных вуліцах, па пустым двары і з асаблівай сілай адчуваў сваю самоту.

Але вось пачалі прыязджаць хлопцы, дзяўчаты з іхняга двара. Прыехаў Вася-Пугач з Гошкавага пад'езда, завадатар усіх дваровых боек, прыехаў Валька-Галубятнік, сястрычкі Гусаковы з трэцяга пад'езда. Увечары таго ж дня з'явілася яшчэ некалькі чалавек з іхняга

двара. Гошка быў рады таму, што зноў пачынаецца вясёлае жыццё, што яму больш не будзе сумна. Хлопцы прывезлі з летніх паездак шмат цікавых гісторый, успаміналі пра розныя прыгоды, начныя вогнішчы, змаганні з марской стыхіяй. І, зразумела, кожны быў героем тых падзей.

Увечары хлопцы амаль у поўным зборы сядзелі на сваім звычайным месцы — парэнчах альтанкі. Сямікласнікі Вася-Пугач і Валька-Галубятнік прымасціліся ў цэнтры альтанкі на невялікім століку. Яны, як заўсёды, былі ў цэнтры ўвагі.

Хлопцы ўспаміналі тых, хто яшчэ не прыехаў. Успомнілі і Воўку-Чыту. Дзе ён зараз, што робіць?..

Раптам Валька-Галубятнік прыўзняўся над столікам на локцях і закрычаў:

— Эй, Кілька! Ты, здаецца, перайшоў усялякія межы. Але ж і наша цярпенне не вечнае!

Хлопцы павярнуліся ў той бок, куды крычаў Валька. Непадалёку ад альтанкі, пад электрычным ліхтаром стаяў Кілька-Кульгавы. Стаяў так, нібыта знаходзіўся на ўласным двары ці быццам спынілася адвечная вайна іхніх двароў...

Гошка адчуў, як непрыемна халадзее яго спіна. У гэты тлумны дзень ён зусім забыўся на Жэнькава існаванне. Дык гэта ж да яго, да Гошкі, прыйшоў цяпер Кілька. Прыйшоў, як прыходзіў і многа вечароў дагэтуль, не ведаючы, што ўжо з'ехаліся хлопцы з Гошкавага двара.

— Эй, ты,— крыкнуў Вася-Пугач і стаў паволі падымацца са стала, закасваючы рукавы.— Ты, здаецца, тут нешта згубіў? Дык мы, калі знойдзем, то аддамо.— І, пераскокваючы парэнчы альтанкі, прыняў пагрозлівую паставу

і закрычаў дурным голасам: — А ну, валі адсюль!

Кілька не варухнуўся. Мабыць, прыезд суседскіх хлопцаў захапіў яго знянацку. Стаяў і моўчкі глядзеў на альтанку. Тут нават Вася, стары і вопытны змагар за незалежнасць свайго двара, разгубіўся.

А Гошка адчуў, як у ім падымаецца нешта накшталт злосці на Кільку: «Падумаеш, некалькі разоў згулялі ў шашкі. Дык і што з таго? Гэта можна лічыць толькі часовым замірэннем. І зусім не значыць, што я павінен цяпер трымаць яго бок супраць сваіх хлопцаў». І ўсё ж Гошку было неяк няёмка. Але сядзеў ён моўчкі, нават не паварухнуўся, і ў глыбіні душы спадзяваўся, што Кілька яго не заўважыць.

Хлопцы загаманілі.

Кільку яны не любілі ўсе. І тое, што ён зараз прыйшоў на іхні двор, яны расцэньвалі як нейкую правакацыю з боку суседняга двара. І толькі Гошка ведаў, чаму прыйшоў цяпер Кілька. У яго галаве мітусіліся баязлівыя думкі, што раптам Кілька зараз пакліча яго, што тады скажуць хлопцы? Здраднікам жа назавуць! Як ім растлумачыш, што тут адбывалася ў мінулыя дні?!

— А ну, ідзі сюды,— Вася махнуў рукой.— Зараз, хлопцы, шуганем яго адсюль...

Хлопцы паўскоквалі і пагражальнай сцяной пачалі насоўвацца на Кільку. Як заўсёды — старэйшыя наперадзе, малодшыя — ззаду. Разам з усімі цягнуўся і Гошка. «Не будуць жа яны яго біць,— пакутліва свідравала галаву думка,— папалохаюць, і ўсё...» Ён ненавідзеў і сябе, і Кільку. Сябе — за баязлівасць, а Кільку — за тое, што той прыпёрся ў яго двор менавіта цяпер... А ўвушшу гучаў Кількаў

голас: «А мяне, між іншым, Жэнькам завуць...»

Гошку здалося, што Кілька разгледзеў яго за спінамі сяброў і глядзіць толькі на яго...

А Кілька адыходзіў назад на сваіх мыліцах, пабялелыя яго вусны ледзь варухнуліся. Гошка не пачуў, але яму здалося, што ён зразумеў, што сказаў Кілька. «Эх, ты...» Гошка гатовы быў паклясціся, што гэта менавіта так.

Трэба нешта сказаць хлопцам, спыніць іх...

— Ды годзе вам ужо...— нерашуча прагаварыў ён нарэшце, але яго ці то ніхто не пачуў, ці то ніхто не зразумеў.

Кілька павярнуўся да ўсіх спіной і павольна закульгаў на свой двор.

І тут хлопцаў нібы прарвала, бо цяпер яны бачылі перад сабой адступленне непрыяцеля. Яны засвісталі, закрычалі яму ўслед: «Кілька-Кульгавы, Кілька-Кульгавы». Нехта з самых малодшых кінуў яму ўслед камяк зямлі.

А Кілька страшна кульгаў на сваіх мыліцах і лаяўся так, як не лаяўся нават ніхто з дарослых. А Гошку ўсё чулася: «А ў мяне музычны слых...» І бачыліся белыя Кількавы вусны, калі яны нячутна шапталі: «Эх, ты...» І бачыў Гошка, як хадуном хадзілі лапаткі пад Кількавай чырвонай вылінялай футболкай, на якой цямнела пляма ад камяка зямлі, што кінуў нехта яму ўслед... І не разумеў ён жорсткасці сваіх сяброў, а галоўнае, сваёй жорсткасці...

Кілька знік у суседнім двары.

Паразыходзіліся і хлопцы па сваіх кватэрах. А Гошка, забіўшыся ў цёмны куток альтанкі, сядзеў і плакаў, і здавалася яму, што цяпер ён сапраўды адзін на цэлым белым свеце і ніхто не дапаможа яму зняць цяжар з душы, незразумелы цяжар. Ноччу ён сніў, што бя-

жыць за Кількам па бязлюднай вуліцы, а той спакойна крочыць на мыліцах наперадзе, а Гошка ўсё ніяк не можа яго дагнаць.

Многа пазней, калі Гошка вырасце і паедзе з роднага горада працаваць на вялікія будоўлі і пра яго не раз напішуць у газетах,— неаднойчы ён будзе ўспамінаць дзяцінства: свой двор, хлопцаў, сябе, Кільку-Кульгавага... Таму што нічога больш страшнага за тую бездапаможную Кількаву спіну ў лінялай футболцы, страшнейшага за яго бязгучнае «Эх, ты!..» ва ўсім Гошкавым жыцці не было. І калі ў душу яго пачынала закрадвацца агіднае пачуццё, якое завецца баязлівасцю, ён гаварыў сабе «Эх, ты!», зусім як калісьці Кілька, і гэта дапамагала...

# Метамарфозы

(Навела з усмешкай)

Яна ўвайшла ў рэдактарскі кабінет без стуку. Нясмела, ледзь чутна прамовіла:

— Я... вершы прынесла... Прабачце, што проста да вас. У аддзеле паэзіі нікога зараз няма...

Ён глядзеў на яе крыху пабялелы ад хвалявання мілы тварык і адчуваў, як пад бастонавым пінжаком абзываецца гулкімі ўдарамі яго рэдактарскае сэрца.

«Што робіцца!» — з жахам падумаў ён. Голасам, які здзівіў нават яго самога, прамовіў:

— Сядайце, даражэнькая, сядайце...

Яшчэ раз сутаргава падумаў нешта накшталт: «Чортава вясна, што робіць...» і больш нічога не паспеў падумаць — прапаў чалавек!

Гартаў тоненькі сшытак з вершамі, час ад часу паднімаў галаву, глядзеў у яе да неверагоднасці сінія вочы, захлынаўся гэтай сінеччу і зноў утаропліваўся ў вершы.

І нібы бачыў тое, пра што чытаў. Бачыў бялюткую дзяўчынку, што басанож бегла праз ранішні горад, сотні сонечных птушак, чырвоных коней на блакітных лугах і яшчэ многа-многа незвычайных рэчаў.

Адарваўся ад вершаў, зноў зірнуў на дзяўчыну. Яна глядзела на яго з надзеяй і чаканнем і... не, напэўна, гэта здалося яму,— і ў яе вачах таксама не было абыякавасці...

І плыў сівавалосы рэдактар разам са сваёй госцяй, разам з усім кабінетным абсталяваннем па блакітных хвалях кахання. А над зямлёй апантана буяла вясна.

— Вы яшчэ прыходзьце заўтра, прыносьце вершы, каб для адбору што было,— не скора вяртаючыся да рэчаіснасці, прамовіў рэдактар, убачыўшы, што яго цудоўная госця збіраецца пайсці.

Прыйшоўшы дадому, рэдактар глянуў у вялікае люстэрка, што вісела ў прыхожай. На яго глядзеў даволі малады і зусім незнаёмы мужчына, гадоў гэтак трыццаці. Сівізна была амаль непрыкметнай. Плечы разгарнуліся, спіна выпрасталася.

Нават уласная жонка не пазнала яго ў той дзень.

Дзяўчына прыйшла на наступны дзень ізноў. Яны чыталі ўголас вершы, размаўлялі аб жыцці, гаварылі аб паэтах. Смяяліся, як маленькія.

А потым рэдактар крыху праводзіў яе па вуліцы, перапоўненай птушыным граем, нейкімі напаўрэальнымі мелодыямі, падтрымліваў яе пад локаць, пераскокваў цераз калюжыны. Дзяўчына весела смяялася, гаварыла, гаварыла няспынна нешта мілае, пяшчотнае, што ніводным словам не засталося потым у рэдактарскай памяці, але пакінула ўражанне шолаху ліпнёвага саду.

Дома зноў глянуў у люстэрка. На яго глядзеў зусім малады хлопец прыблізна такога ж узросту, што і старэйшы рэдактарскі сын. Маладыя вочы блішчалі нейкім незнаёмым агнём. Рэдактар заспяваў на ўвесь голас «Распрягайте, хлопцы, коней...», у адказ са свайго пакоя выглянула цешча, доўга і падазрона глядзела на свайго не ў меру развясёлага зяця.

Гэтыя дні ён ужо бег на работу к васьмі гадзінам, баючыся спазніцца... А раптам Яна прыйдзе, а яго не будзе на месцы...

Цяпер для яго не было сумнення: ён безнадзейна закахаўся. І гэта ў свае... за сорак! Ды што закахаўся! Ён жа не можа жыць без яе! Гэты ледзь чутны дотык пяшчотнай маленькай ручкі, гэтыя зачараваныя вясновымі мелодыямі вочы...

І раптам у фортку патыхнула газай. Гэта на хвіліну працверазіла яго, прыўзняла завесу салодкага туману над яго свядомасцю.

Што ён робіць! У яго ж пасада, якая так пасуе да яго новага, сіняга касцюма, трэцяя жонка і цешча, якая займаецца падводным плаваннем і таму трымае ў плацельнай шафе падводнае духавое ружжо...

Гэтыя думкі нізрынуліся на яго быццам халодны восеньскі дождж. Што рабіць?..

Але раптам расчыніліся дзверы. Гэта зноў прыйшла Яна. Увайшла нячутна. У кабінеце запахла чарэшняй.

Усе яго сумненні нібы развеяла ветрам. Ён зноў не бачыў нічога, акрамя яе сініх вачэй, мілага тварыку, колеру яблыневых пялёсткаў.

Гаварылі пра паэзію.

Калі яна пайшла, сумненні зноў, толькі ўжо ціхім водгукам, вярнуліся да яго.

Усё ж рабіць нешта з гэтым насланнём трэба. Але, відавочна, змагацца з ім — усё роўна што змагацца з ветраком.

Але насланнё ўсё ж такі скончылася.

За акном сыпаў дробны дождж. Грукаталі колы машын па бруку. У паветры выразна пахла газай.

На наступны дзень у рэдакцыю ўвайшоў нягодены мужчына перадпенсіённага ўзросту.

Пратупаў да яго стала, пакідаючы за сабой брудныя сляды.

— Я тут наконт вершаў, што вам прыносіў...

— Якія вершы? — усхапіўся рэдактар.

Чалавек працягнуў руку да танюткіх сшытачкаў, якія пакінула ў рэдактарскім кабінеце Яна... Яна?

— Будзеце друкаваць? — зноў спытаў ён.

Вочы рэдактара заблішчалі, нібы мельхіёравыя лыжкі.

— Канешне ж, не. Усё тут — суцэльная дэкадэншчына! Чырвоныя коні! Ха! Дзе вы ўсё гэта бачылі? Басанож па горадзе! І гэта ў вашым узросце?

— А што ж вы мне ўсе гэтыя дні галаву дурылі? — ускінуўся мужчына.— Нават збіраліся са мной босы па горадзе хадзіць?..

Чалавек выйшаў, раззлавана грукнуўшы за сабой дзвярыма.

Дома рэдактар глянуў у люстэрка. І ўбачыў... стары макінтош на цвіку. Макінтош і зверху капялюш. Азірнуўся. Не, усе рэчы адбіваліся ў люстэрку ў іх натуральным выглядзе. Толькі замест яго мажнай рэдактарскай постаці ў люстэрку бачыў усё той жа макінтош. І капялюш зверху.

## Сашына лета

Саша апусціла шкло, у калідорчык вагона адразу ўварваўся вецер, халаднаваты, дзёрзкі. Недзе ў купэ былі таксама адчынены вокны, і Саша апынулася на самым скразняку. Але толькі засмяялася. Яе прадзімала, аж перахоплівала дыханне.

Поезд ехаў сярод стэпу. Варта было акінуць вокам усю гэтую карціну, як станавілася зразумела, што ўсё вакол нязменна, бясконца і вечна. Усход, аранжавае сонца над самым даляглядам, чыстае поле — паўз усё гэта імчаў поезд і ніяк не мог мінуць, быццам вагонныя колы шалёна круціліся ў пустаце і не маглі адолець і самай малой адлегласці.

Маладыя хлопцы і дзяўчаты, мабыць, студэнты, ішлі, смеючыся, міма Сашы па вузкім калідорчыку далей, у другі вагон. Саша ўсміхнулася ім услед.

Калі б хто спытаўся, што ў яе цяпер на душы, адказала б амаль вершамі: «Золкая раніца. Канец лета. Пачатак жыцця»... Сапраўды, у яе было цяпер адчуванне, нібы самае галоўнае ў жыцці толькі пачынаецца. Пачатак жыцця, хай табе і за трыццаць. Бо тое, што было з ёю ўчора, заўчора, раней — здавалася, было не з ёю, хутчэй прачытана ў кнігах, што стаяць цяпер зачыненыя на чужых паліцах. А памяць? Ад яе, канешне, нідзе не дзенешся,

толькі ўспамінаецца цяпер больш выразна добрае, што заўсёды з табой.

Праўда, трошкі сорамна было ёй перад Леанідам за тое, што так, не развітаўшыся, цішком, знікла яна назаўсёды з яго жыцця. Але інакш і не атрымлівалася. Такія правілы гульні. Толькі цяпер засмяюць, замучаюць яго дружкі, маўляў, збегла нявеста напярэдадні вяселля, нават рэчы не ўзяла з сабой...

Саша ў дарозе ўжо трэція суткі. Калі яна часам на прыпынках выбягае на перон, каб купіць што-небудзь паесці, то адчувае, як пагойдваецца зямля пад нагамі, нібы хісткае дно вагона. Ехаць яшчэ двое сутак праз усю краіну, на ўсход. Мяняюцца спадарожнікі па купэ, мільгаюць гарады, паўстанкі, прычым кожны кавалак зямлі мае свой характар, воблік. Саша вандруе. Не проста едзе па вярбоўцы на працу на Далёкі Усход, а па-сапраўднаму вандруе, упершыню ў жыцці, з задавальненнем, з радасцю, з пільнай увагай і любоўю ў душы да ўсяго, што бачыць вакол. Столькі вялікіх гарадоў, у якіх марыла калі-небудзь пабываць, столькі ўражанняў! І хаця поезд стаіць у гэтых гарадах пятнаццаць, дваццаць мінут, не болей,— яна ўсё ж паспявае выбегчы на прывакзальную плошчу, агледзецца вакол, купіць што-небудзь на памяць у бліжэйшым кіёску і — далей, далей, далей...

— Чаю будзеце?

Праваднік, як ёй здалося, асабліва ветліва ўсміхнуўся ёй. Канешне, доўгі час вандроўкі збліжае людзей, ды і лепш за ўсё надзейны дальні пасажыр, з ім менш клопатаў, не тоpгаецца пад нагамі на кожным прыпынку са сваімі клункамі ў вузенькім калідорчыку. Саша ў вагоне, бадай, самы дальні пасажыр і ёсць.

Пакуль яна п'е чай, яе спадарожнікі, муж з жонкай і дачка, збіраюць рэчы, бо хутка выходзіць.

Поезд запавольвае ход.

Самым светлым успамінам дзяцінства было тое светлае лета ў Грыбаўцы ў цёткі Антаніды. Сашы тады было каля дванаццаці год. Тры гады ўжо, як памерла маці. Тры гады, што яна пражыла ў бацькавай радні, чужой, нелюбімай. Тры гады яны (дзед, бабка і яе незамужняя сястра) з недаўменнем і неадабрэннем углядаліся ў гэта чужое для іх дзіця іхняга шалапутнага сына, які, не паспеўшы як след жаніцца, адразу адбыў у вандроўкі па партах і доках Саюза, то адбываючы ў кругасветнае плаванне, то заціхаючы на прыколе ў чарговым порце. Пісалі яму некалькі разоў у Адэсу, дзе ён апошнім часам асталяваўся, здавалася, надоўга, пыталіся, што рабіць з яго дзіцём. Ды ён не адказаў, можа, зноў змяніў адрас і забыў паведаміць аб гэтым бацькам, а можа настолькі разгубіўся ад перспектывы аказацца зноў бацькам, ды яшчэ дарослай дачкі, што вырашыў пакуль што не абзывацца на ўсякі выпадак. Ды можа гэта было на лепшае, вобраз міфічнага бацькі, створаны ва ўяўленні Сашы, рассыпаўся яшчэ тады, калі маці, бездапаможная, цяжка хворая, памірала ад раку ў Сашы на руках. Дзе тады быў той невядомы бацька, уся яго радня? Саша пачала ненавідзець увесь свет. З нечаканай сілай, востра адчула сваю бездапаможнасць, непатрэбнасць нікому, варожасць да ўсіх. Пасля таго як маці пахавалі, жыла некалькі дзён у пакоі адна ў бясконцым жахлівым сне. Амаль нічога не ела. І невядома, што было б з ёй, калі б не з'явіліся жанчыны з гарано, пачалі пытацца, ці ёсць дзе родныя,

што яна будзе рабіць далей... Так звалілася Саша на галаву сваёй незнаёмай бацькавай радні. А ёй было ўсё роўна. Яна абыякава пазірала на іх цёмнымі, такімі ж, як і ў іх, вялікімі, трохі раскосымі вачыма і механічна выконвала тое, аб чым яе прасілі. У школе вучылася на тройкі, а ў сваім кутку за шафай прыстасавалася чытаць днём і ноччу кніжкі. Неўзабаве прызвычаілася жыць жыццём сваіх герояў у тым, уяўным свеце, бо тут назіралі ўсюды за ёю нядобразычлівыя вочы радні. Можа, баяліся яны, што яна нешта ў іх украдзе, як украла (так яны лічылі) нявестка іхняга сына?

З размоў, якія сціхалі, калі яна з'яўлялася ў пакоі, або таго, што было чутно праз няшчыльна зачыненыя дзверы, Саша зразумела неўзабаве, што яе збіраюцца аддаць у дзетдом. З ёю самой ніхто пра гэта пакуль што не гаварыў. Ёй стала крыўдна да слёз. Канешне, у бацькавай радні ёй жылося няцёпла і нясоладка, але нашто ж так, цішком... нібы ад непатрэбнай рэчы спяшаліся пазбавіцца.

І вось яна аднойчы наважылася. Рашуча ўвайшла ў пакой Агаты Іванаўны («бабкай» тая забараняла сябе клікаць). Цёмна ў вачах было ад страху, але вырашыла не адступацца:

— Агата Іванаўна, я даўно перапісваюся са сваёй цёткай...

Тая ўвесь час здзіўлена глядзела на Сашу,— як жа, ціхманае чарцяня мае да яе нейкую справу?

— А ў цябе яшчэ цётка ёсць? Ты нам нічога раней не казала.

— Хіба? — Саша на хвіліну спынілася, зноў перахапіла дыханне ад жаху, бо хлусіць не ўмела і баялася, што зараз усё адкрыецца і яе строга пакараюць.

Але радня не ўнікала ў падрабязнасці. Ім дастаткова было ведаць, што існуе яшчэ нехта са сваякоў Сашы, хто можа ўзяць на сябе клопаты аб яе лёсе. Толькі папыталіся, хто яна, гэта новая цётка, і дзе жыве. Тут Саша расказала ім пра Антаніду чыстую праўду, што жыве ў вёсцы, адна, што мае гаспадарку, хату, участак, яшчэ працуе ў калгасе, хоць баліць рука...

Ва ўсім гэтым была толькі адна няпраўда,— што Антаніда зусім не цётка Сашы, а сяброўка і аднакласніца маці. Добрая, спагадлівая жанчына. Былі яны абедзве невясковыя, Антаніда і Ірына, Сашына маці. Ды выйшла Антаніда замуж за вясёлага трактарыста з Грыбаўкі. Саша з маці часта прыязджалі да Антаніды летам у госці, на ягады, на грыбы. Антаніда вельмі любіла Сашу, бо ўсё жыццё хацела сабе дзяўчынку, а нараджаліся толькі хлопцы. Хлопцы што: апярыліся дый паляцелі, а дзяўчынка была б памочніцай...

Саша з ёю не перапісвалася, тут яна зманіла Агаце Іванаўне. Але ведала, што заўсёды цётка Антаніда сустрэне яе, як родную. Абдыме, пашкадуе.

Цяпер Антаніда жыла адна. Муж памёр, два яе сыны раз'ехаліся. Адзін служыў у Германіі, другі, меншы, працаваў на Сахаліне. Звалі Антаніду да сябе, але яна ўсё ніяк не магла зрушыць з месца. Прывыкла, прырасла. Ды і гады такія, што ўжо цяжка паднімацца на новае месца.

Гэта быў першы Сашын учынак. Яна тады адчула, што становіцца дарослай, адказнай за свой лёс. Здаецца, менавіта тады з разгубленай, спалоханай дзяўчынкі ператварылася ў дарослага самастойнага чалавека, які ведае, што мае рабіць.

Тое лета... Як бы наноў адкрыліся ў яе во-

чы. Які спакой і магутную сілу прыроды ўдыхала яна тады на поўныя грудзі! Салодкі пах свежага сена, ранішнія галасы лесу, золкія ранкі з нізкімі туманамі, росная прахалода... Як бы ўпершыню ўбачыла хараство жыцця.

І з цёткай Антанідай жылі душа ў душу. Саша памагала ёй па гаспадарцы, асабліва з тонкай работай: пашыць нешта, прапалоць, бо самой Антанідзе гэта было цяжка рабіць: дрэнна слухалася рука. Антаніда клапацілася аб Сашы больш, чым аб роднай. Аджыла Сашка, павесялела. Хутка пасябравала з вясковай дзятвой. Нават была ў іх завадатарам. Нібы выплёсквала ўсю тую энергію, што не магла выказаць у мінулыя гады. Колькі налётаў на чужыя сады зрабілі яны, колькі было начлегаў ля вогнішча ў буданах!.. Вясковыя ўжо ведалі гісторыю Сашы і імкнуліся пры выпадку хоць падкарміць яе, бо колькі тая Антаніда са сваёй хворай рукой назарабляе на працадні, а зарплаты на вёсцы тады яшчэ не прыдумалі.

Тое светлае лета... Саша ўпершыню пачала ўсведамляць сябе між людзей, думаць пра сутнасць свайго існавання на зямлі, не па-дзіцячы, а прачулым чалавечым інстынктам. Яе захапляла і проста духмянае паветра, і проста дождж па даху, і проста хлебны пах у хаце, проста палявыя кветкі, травінкі, павучкі...

Тады яна і сустрэла ЯГО...

Напаўдзікунка, напаўдзяўчына, парастак, яна аднойчы раніцай на рэчцы ўбачыла ў трысьнягу высокага светлавокага чалавека ў саламяным капелюшы. Ён лавіў рыбу. «Рыжанькая,— неяк выдзеліў ён яе сярод сябровак,— а ну, памажы мне». І яны пайшлі ўздоўж маленькай рачулкі па невысокім беражку. Ён — па левым, яна — па правым, цягнучы рэдкі кошык супраць цячэння, зрэдку — ура! — вы-

цягваючы не пусты. Дзятва, хутка стаміўшыся, адстала ад іх, а яны ўдваіх усё ішлі ўздоўж рэчкі, далей, за вёску. Ён смяяўся, жартаваў, што ўсю гэтую рачулку можна зачарпнуць вось гэтым кошыкам і выплюхнуць у нейкім другім месцы, і няхай людзі дзівяцца, адкуль гэта бяжыць новы прыток. Казаў, што Сашку сонейка пазначыла асаблівым знакам сярод іншых людзей. Сапраўды, Сашыны вяснушкі даўно не давалі ёй спакою, яна іх нават пачала саромецца, спрабавала звесці рознымі крэмамі, травамі, а вось цяпер даведалася, што яна — залатая і ажно свеціцца, калі сонейка закрыюць хмары ў шэры дзень.

Тое цудоўнае лета... Тады Саша ўпершыню зразумела, што яна шчаслівая. І прыгожая. Саша цягнулася да гэтага маладога, дужага, вясёлага чалавека. Ён прыехаў у вёску таксама на лета, да сваёй маці, суседкі Антаніды. Пасябраваў перш за ўсё з дзецьмі, стаў для іх вясёлым казачнікам і арганізатарам нябачаных дагэтуль вандровак па навакольных лясах. Правай рукой яго стала Сашка, адчайная і залатая. Аднойчы гэтая баявітая кампанія ўскаланула ўсю рачулку, правёўшы там вялікую марскую баталію на плытах. Жанчыны, што прыйшлі на раку паласкаць бялізну,— пачалі ганяць гэтае войска, і наперадзе, ратуючыся ад гэтага новага нечаканага ворага, бег, закасаўшы калашыны, іх адмірал са сваімі ад'ютантамі. Сашын сусед быў іншым разам нястрымана вясёлы, па-хлапечы няўрымслівы і несур'ёзны, то нечакана задумлівы і, здавалася, старэйшы за іх на многа-многа год, на цэлае жыццё, калі, абдымаючы Сашу за худзенькія плечы, казаў ім аб тым, што ў чалавечай душы столькі цудоўнага, што яно не можа не выйсці наяў. Можа і спіць да часу, але раптам выка-

жацца, выльецца так знянацку, што, бывае, самога цябе здолее і зможа.

Тое бясконцае лета... Здаецца, цэлае цудоўнае жыццё пражыла тады Саша. Нешта вялікае, цёплае ўвайшло ў душу, напоўніла жыццё нечаканым глыбокім сэнсам.

Кім быў гэты чалавек для Сашы? Цяжка сказаць. Яна і сама б не змагла зразумела адказаць на гэта. Яна цягнулася і да бацькоўскай ласкі, і да разумення старэйшага сябра, а можа, і нешта большае прывязвала яе да гэтага чалавека.

Лета канчалася. Ён, Сашын сусед, таксама хутка збіраўся ехаць.

— Ну што, бывай, тонкая-звонкая. Свет цесны, сустрэнемся...— і ўсміхнуўся такой знаёмай, цёплай усмешкай, а ў яе зашчымела сэрца. Захацелася плакаць.

Так. Лета скончылася. Напярэдадні першага верасня цётка Антаніда паклікала Сашу ў хату. Тая па твары цёткі зразумела: будзе сур'ёзная размова.

— Сядай,— Антаніда паклала рукі на калені, уважліва стала разглядаць іх.— Вось... Якая з мяне цяпер работніца...— нібы працягвала размову з сярэдзіны.— А сын піша: прыязджай. Жаніцца надумаў. Кажа: будзе табе, матка, свой дом...— Яна памаўчала.— Табе ў школу трэба. Падрасла ты, Сашка. А новую сукенку табе няма на што справіць. Ды і зімой мы з табой ці пракормімся...

Саша слухала сур'ёзна, уважліва глядзела на Антаніду. Усё гэта яна даўно разумела, але адкладвала рашэнне з дня на дзень, бо лета гэта здавалася такім бясконцым...

Вось так Саша апынулася ў Мінскім дзетдоме. Была там адной з адчаіных. Амаль ні з кім з настаўнікаў не магла знайсці агульнай

мовы. Часта са зласлівай і трошкі горкай усмешкай казала каму-небудзь з настаўнікаў: «Цікава, а каму вы на мяне будзеце скардзіцца?» Ды і сяброў у дзетдоме мела не так многа. Гаркавы прысмак мела яе жыццё тут. Так было да таго часу, пакуль упершыню не сустрэла імя свайго былога сябра, суседа з вёскі, на старонках вячэрняй газеты. Узрадавалася, нібы сустрэла каго роднага.

...Калісьці ён сказаў аб сабе: «...вандроўнік, казачнік і... трошкі пісьменнік...» І вось нарэшце... Сапраўды, свет быў цесны. І далей яна сустракала яго апавяданні ў тоўстых часопісах. Героі яго апавяданняў былі такія ж прыгожыя і дужыя, якім ён сам заўсёды здаваўся ёй. Саша вучылася жыць так, як жылі яго героі, бачыць свет іх вачыма. Часта гэта і праўда выратоўвала ў жыцці, а іншы раз перапаўняла прагай да нязбыўнага, пагоняй за марай, за немагчымым. Саша і сэрцам і розумам адчувала: так, гэта сапраўднае мастацтва, непаўторнае, непадобнае. Яно лепіць тваю душу з сырога жыццёвага матэрыялу, дадае ўпэўненасці ў тваёй чалавечай прыгажосці. Саша збірала гэтыя часопісы. Аднойчы купіла і кніжку. Там было адно апавяданне, якое Саша чытала і перачытвала мільён разоў, і кожны раз зноў і зноў пазнавала ў словах, учынках, рухах і самых дробных рысах тонкай-звонкай адчайнай жанчыны, гераіні гэтага апавядання,— сябе. І верыла, і не верыла гэтаму і ўсё ж пазнавала. Маленькая жанчына не хацела мяшчанскага ўтульнага існавання, маленькага шчасця, не згаджалася на каханне-здзелку, разбурыла той свет уяўнай утульнасці і спакою вакол сябе і змагла ўсё пачаць будаваць па-новаму. І нічога, што той жанчыне было гадоў на пятнаццаць больш, чым Сашы, і што Саша яшчэ толькі пачала жыць, але яна адчу-

вала, што на месцы той жанчыны зрабіла б тое самае. Так, гэта яе думкамі думала жанчына, гаварыла яе словамі. Ды і знешне — гэта была яна, Саша. Канешне ж, ён памятаў пра яе, калі пісаў гэтае апавяданне. Быў там адзін момант, калі жанчына ўспаміпала дзяцінства — успаміпала і невялікую рэчку за вёскай, басаногіх сяброў. Гэта проста не магло быць з другога, чужога жыцця! Гэта ўсё было напісана для яе, для Сашы. Чыталі ўсе, а магла па-сапраўднаму зразумець толькі яна. І ён. Той чалавек, які гэта пісаў.

Калі цяпер зямная, дзёрзкая Сашка імкнулася гаварыць, жыць, як жылі героі яе любімага пісьменніка, то не таму, што працягвала жыць уяўным, кніжным жыццём, проста той чалавек мог наперад угадваць у сваіх творах яе словы, учынкі, рашаць так, як рашала б яна. І ўвогуле Саша была шчаслівая, што жыве на свеце такі яе аднадумца і сябар, такі крэўны чалавек.

І вандравала са стосікам часопісаў і кніжкай з інтэрната ў інтэрнат.

Час ішоў. Саша стала даслай, самастойнай. Скончыла інстытут, працавала цяпер эканамістам. Уцягнулася ў пэўны жыццёвы рытм. Пераехала з інтэрната на прыватную кватэру са сваім стосікам часопісаў і ўжо дзвюма кніжкамі (другую даставала па знаёмству з-пад прылаўка), яе пісьменнік рабіўся вядомым.

І яшчэ была адна сустрэча... Здаецца, тады ўжо была знаёмая з Леапідам? Не, яшчэ не. Ішла неяк па вячэрняй вуліцы. Было яшчэ цёпла, але па-восеньску маркотна і смутна ў прыродзе. Чырванела лістота, падсвечаная вячэрнім сонцам. Ля рэстарана «Нёман» стаяла купка людзей, ці то чакалі сваёй чаргі, каб зайсці ў рэстаран, ці то проста выйшлі адтуль правет-

рыцца. Нешта быццам штурханула яе ў грудзі. Яна спынілася, не верачы вачам. Знаёмы твар. Трошкі змарнелы і на дзіва бледны. Яна прыпынілася. Глядзела на ўсе вочы на чалавека, якога бачыла больш як дзесяць год назад, і які ўсе гэтыя гады быў побач з ёю ў яе думках, учынках, і які ўвайшоў у яе жыццё аднойчы і назаўсёды. Ён не пазнаваў, запытальна глядзеў на яе... Што рабіць? Яна зусім разгубілася. Павітацца? Ці вось так проста ўзяць дый пайсці сабе? Жахнулася гэтай думкі. Сэрца шалёна білася. Яна маўчала і глядзела яму ў вочы, такія знаёмыя, сінія... Нарэшце ўсміхнулася, трошкі безабаронна і жаласна.

Купка людзей зрушыла з месца. Нехта паклікаў Яго. А ён не адводзіў вачэй ад Сашы. Раптам нечакана працягнуў руку, пагладзіў пальцамі па яе шчацэ.

— Ты з намі не пойдзеш?.. Светлая...

Яна адмоўна кіўнула галавой, нібы працягвала даўно з ім распачатую бязгучную размову.

— Значыць, так,— ён пахіснуўся, засяроджана глянуў сабе пад ногі, пасля з хітраватай усмешкай зноў на яе.— Шкада.

Павярнуўся і пайшоў услед за сябрамі. А Саша яшчэ некалькі хвілін стаяла ў аслупяненні, пакуль нейкімі гарачымі хвалямі вярталася свядомасць. Здалося, пачула смяшачкі ў свой адрас ад нейкіх прахожых. Азірнулася і хуценька пайшла адсюль. Было да болю крыўдна. «Падумаеш, Джэк Лондан знайшоўся! Эгаіст! П'яніца! Дон-Жуан... За каго ён мяне прыняў?» Пасля трошкі апрытомнела. «А за каго яму было цябе прыняць? Ці лёгка пазнаць у табе праз дзесяць год малую дзяўчынку? Баліць у яго галава аб той дзяўчынцы! Як жа! Бачыць сабе: нейкая дзяўчына вачэй адарваць ад яго не можа. Вось і вырашыў, што спадабаўся да немагчымасці».

І пакуль даехала да дому, зусім адышла. Саша столькі год думала пра яго як пра паўбога, істоту недасягальную, высокіх думак, незвычайнага лёсу, што зусім не магла ўявіць сабе, што ён жыве як звычайны зямны чалавек. Можа, сям'я, дзеці... А цяпер гэтая сустрэча проста збіла яе з панталыку. Ці можа так быць? Зрабілася шкада гэтага чалавека. Які ён быў самотны там. Чужы ўсім, і ёй, і тым, сваім спадарожнікам. Каб магла яна чым памагчы яму, за тое, што ён столькі разоў нябачна дапамагаў ёй... Толькі б сустрэцца яшчэ хоць раз. Так трэба з ім пагаварыць!..

А Леанід з'явіўся пазней. Пазнаёмілі з ім сяброўкі, шкадуючы яе: маўляў, пад трыццаць — а не замужам.

Леанід быў спакойны, разважлівы. Пасля вечара правёў дадому, пасля — кіно, тэатр. Усё па правілах жанру. Саша нават навучылася загадзя адгадваць яго ўчынкі. З поспехам адгадала, калі ён яе першы раз пацалуе. Іншы раз ёй карцела нечым узарваць яго непарушальны спакой, узбунтавацца супраць няўмольнага парадку падзей. Але да Леаніда сапраўды цяжка было прыдрацца. Ён заўсёды пасміхаўся ў такіх выпадках: «Жанчыны, загадкавыя стварэнні. Што з іх возьмеш?»

Чым ён адрозніваўся ад тых хлопцаў, з якімі яна сустракалася раней? Бадай, тым, што ведаў, чаго хоча. Канкрэтна і ясна. Яго магло вывесці з раўнавагі толькі калі нешта сур'ёзна пагражала намечаным жыццёвым планам. А Сашу ён даўно, відаць, у гэтыя планы ўключыў.

Калі Саша пасялілася ў яго пакоі, знянацку і без вяселля, то адчула сябе па-ранейшаму дзёрзкай, дзетдомаўскай адчайнай Сашкай. Каралевай выходзіла на агульную кухню, дзе пры яе з'яўленні пагардліва ўздымала падбародак і

саркастычна крывіла рот саракагадовая незамужняя суседка-дачка і з'едліва-ласкавым голасам пыталася ў яе суседка-маці, чыя чарга сёння прыбіраць на калідоры: «А заўтра вы тут таксама будзеце?»

Сашу гэта ўсё бавіла: цікава было — хто каго? І яна спявала. Спявала на кухні, на калідоры, усюды. Дух яе быў бадзёры. Яна была гатова да новых жыццёвых змаганняў. Але новых змаганняў пакуль што не прадбачылася. Лёню абяцалі на рабоце кватэру, як толькі той ажэніцца. Такім чынам — людзі, абставіны,— нібы вырашалі за іх саміх. Прынамсі, за яе. Гэтая незваротнасць яе жыцця і прыгнятала, і не давала спакою. Саша перастала спяваць. Тым часам падалі з Лёнем заяву ў ЗАГС. (Забеглі неяк у абедзенны перапынак.) Саша адмовілася ад свайго пакойчыка ў гаспадыні, пачала патрошку перавозіць свае рэчы да Леаніда. Хутка ў яе нарэшце будзе свой дом. Ці гэта магчыма? Сашы здавалася, што з гэтага часу пачнецца для яе зусім новае жыццё. Глядзела на Леаніда, думала ўпотай: «Ці будзе гэты дом для мяне домам?» Леаніда яна шкадавала. І за яго незразумелую разважлівасць, і проста так, ні за што. Калі перабірала кніжкі — знайшла на паліцы свой запаветны стосік. Здзьмула з яго пыл. Апошнім часам стосік той не папаўняўся — не было часу чытаць. Правяла па вокладках рукой, нібы дакранулася да чаго цёплага, жывога. Сорамна стала. «Нешта змянілася я. Ці на добрае?» Леанід глянуў на яе скоса:

— Што ў цябе там?

— А, так, мая бібліятэка,— як мага больш абыякава адказала яна.

У Сашы апошнім часам было такое адчуванне, нібы нейкая няўмольная зорка магутна ўцягвае яе ў сваю арбіту. Новая кватэра... па-

купкі... мэбля, шлюбная сукенка,— чамусьці чаканне гэтага не прыносіла радасці. Усё больш аддалялася яна ад Леаніда. Нейкая іншая жанчына хадзіла, усміхалася, размаўляла ў свеце, што быў пазбаўлены барваў і гукаў, нібы нямое кіно.

Яна не адразу заўважыла, як яе запаветны стосік часопісаў і кніжак знік. Проста было адчуванне нейкай страты. Намагалася зразумець, у чым тут справа, і не магла. Калі нарэшце заўважыла, чаго не хапае, у яе было адчуванне, нібы яе ўдарылі па твары. Зразумела, што адбылося нешта непапраўнае.

— Дзе... яны? — запыталася адрывіста і загадкава, нібы ёй не ставала слоў, толькі жэстам паказваючы ў той бок, дзе ляжалі на паліцы яе кніжкі.

Леанід надзьмуў шчокі.

— Што? А, часопісы? Старыя такія? — Ён марудзіў з адказам.

— Ты што, іх выкінуў? — спыталася яна, са злосцю гледзячы, як ён зноў надзімае свае ружовыя шчокі. «Бела-ружовы парсюк, дый толькі»,— падумала з нянавісцю.

— Я не думаў, што яны табе патрэбныя. Стар'ё... і ўвогуле, каб класіка была... а то так, сучаснае глупства, я ж пагартаў...

Больш яна тлумачэнняў не слухала. Адчувала, што з яе хопіць. І Леаніда, і гэтага яе «травянога» жыцця. Не было шкада ні новай неатрыманай кватэры, ні ціхага дабрабыту. Нічога не шкада! А толькі было шкада свайго часу. Трыццаць год, а што маеш? Нічога не зрабіла асаблівага, нікога не ўразіла, нікому не дапамагла. Ці патрэбная ты каму па-сапраўднаму?

Тады яна больш нічога не сказала Леаніду. Падумала толькі: «На што ж ты, дурны, замахнуўся». Выйшла на вуліцу. Паволі ішла па вя-

чэрняй, асветленай беднымі ліхтарамі вуліцы. Пераходзіла ад адной вітрыны да другой. Нібы прыцягвалі да сябе гэтыя вялізныя акварыўмы, у якіх варушылася ярка асветленае людское жыццё. Было лёгка і трошкі маркотна на душы. Развітвалася з тым, што было, без шкадавання, вітала тое, што будзе. А што прапалі кніжкі і часопісы — не бяда. Купіць новыя.

З Леанідам апошнія дні амаль не размаўляла. Ён не на жарт устрывожыўся. «Няўжо з-за старых часопісаў можна так абражацца?» Яна абыякава пацiскала плячыма: «Прабач». Леанід ніяк не мог зразумець, што просіць яна прабачэння за тое, што не кахае. Кажуць, лягчэй на душы, калі цябе пакідаюць, чым калі пакідаеш ты. Бадай што, праўда.

Чалавек усё жыццё ідзе да сябе самога. Такая, здаецца, была асноўная думка аднаго з новых апавяданняў Яе пісьменніка. Цікава, што і ён, яе былы сусед па вёсцы, таксама прыйшоў да гэтай думкі. Успомніла на хвіліну яго бледны твар, яго стомленыя вочы. Мір і праўда цесны. Яшчэ сустрэнемся. І пагаворым.

Саша зноў выйшла ў вагонны калідорчык. За акном мільгануў невялікі гай, пасля луг, поле. Пасярод поля сядзеў на камені хлопец, спіной да поезда і іграў на баяне. Гукаў не было чутно. Адкуль ён тут, у гэтым чыстым полі, дзе не відно паблізу ніякага жытла? Вучыцца іграць, падалей ад людзей, сам-насам з прыродай?..

# Клетка для птушкі

Наташа азірнулася яшчэ раз. У пакоі ўсё чыста, прыбрана. Уключыла музыку і выйшла на балкон. З балкона якраз цяпер відзён быў цудоўны захад. Ах, які сёння захад! Цяжкое, вялізарнае малінавае сонца зачапілася за самыя вяршаліны дрэў, што на гарызонце.

Стаяла пагода, ціхманая, цёплая і ласкавая.

З пакоя была чутна ціхая музыка: італьянскія катрынкі. Сяргей вельмі любіць гэтую пласцінку. Пры думцы пра Сяргея Наташа адчула, як бухаецца кудысьці ў бездань цяжкое сонца, як плыве зямля пад нагамі, аж да цемнаты ў вачах, губляецца адчуванне рэчаіснасці.

Хвілінамі ў шчасце проста не верылася. Няўжо такое бывае? Яшчэ не свой, яшчэ чужы, яшчэ незнаёмы... Але гэтая радасць штодзённага пазнавання прывычак, рысачак, рухаў, гэтае бясконцае адкрыццё ніколі не наталялі прагі бачыць, чуць, слухаць. Наташа не думала пра заўтра. І не хацела думаць. Жыла адной надзеяй, каб адбылася Сёння. Яна і не хавала ад Сяргея гэтай сваёй залежнасці ад яго. (Ох, мужчыны, вам так падабаецца адчуваць сябе звышчалавекамі і ўладарамі!)

Празвінеў званок. Яна хутчэй не пачула яго, а адчула ўсёй істотай, ледзь змагла дабегчы да дзвярэй. Адчыніла. Ён увайшоў, спыніўся ў прыхожай. Стаяў, з усмешкай глядзеў на яе.

Яна таксама глядзела на яго, усміхалася вачыма, прысланіўшыся да сценкі.

— Што ўсміхаешся?

— Які ты прыгожы, Сяргей.

— Наташка мая,— Сяргей абняў яе.

— Да немагчымасці прыгожы...

— Смешная дзяўчынка. Гэта ж прывілея жанчын — быць прыгожымі.

— Не, ты ў мяне выключэнне, супраць усіх правіл, адзіны такі.

— О, мае любімыя катрынкі,— Сяргей прыслухоўваецца да музыкі, што гучыць з пакоя.— Якая ты ў мяне... Дай пацалую!

— Пойдзем, я пакажу табе мае новыя макрамэ,— чамусьці шэптам папрасіла яго Наташа.

Абняла за талію, павяла ў пакой. Пагладзіла рукой па плячах, па мяккім світары. (Адкуль у яго гэты світар? Шкада... Хацела сама такі звязаць.)

— Глядзі, што я сёння зрабіла,— Наташа паказвае яму некалькі насценных пано.

— Ты ў мяне сапраўдная мастачка. Ей-богу, кажу без літасці і паблажкі: здорава,— Сяргей усміхаецца так мякка і цёпла, любуецца яе радасцю.— Некаторым маім калегам столькі б густу і фантазіі!

Наташа адчувала, што яму патрэбна менавіта такая жанчына, як яна. Ля яе ён адтайваў душою, тут былі для яго і ўтульнасць, і цяпло, і надзейнасць...

— Здымі світар, цёпла ж,— кажа Наташа.

Ён здымае світар, кідае яго на крэсла.

— Я — у творчай камандзіроўцы.

— Ура! — Наташа кідаецца яму на шыю.— Гэты тыдзень ты — мой!

Калі Сяргей меў пільную працу ў сваёй майстэрні, то замыкаўся там на тыдзень-два. Дня-

ваў і начаваў. Гэты час яго ніхто з сяброў і хатніх і не спрабавалі адшукаць. Ён быў няўмольны. Нікога не пускаў, нікому не адчыняў. Цяпер ён працуе ў майстэрні толькі днём, калі яна на працы...

(Прыгожы світар... Да твару. Відно, што новенькі, яшчэ не адпрасаваны, не адпараны. Модны. Трэба спытацца, хто вязаў?)

— Давай павячэраем, я цябе якраз чакала.

— Бедная мая, ты ж, напэўна, галодная. Ужо дзевяць.

— Ну што ты. Пакуль цябе няма — я не адчуваю ні голаду, ні холаду, нібы не жыву... (Не, проста цікава, хто яму мог звязаць гэты світар. Такая работа тонкая, старанная.) Сёння я збегла з работы на гадзіну раней. Знаеш, час цягнуўся так марудна...

— Пайшлі, памагу на кухні,— прапанаваў Сяргей.

Яны пайшлі не раздымаючы рук, вярнуліся ў пакой з вазачкамі, талеркамі.

— Не будзем запальваць святла, а? — папыталася Наташа.— Хай будзе, як у самой прыродзе: вечар дык вечар, ноч дык ноч.

Ён кіўнуў галавой.

(Галоўнае, з якой любоўю зроблена рэч, гэта адчуваецца па ўсім: да твару, старанны ўзор вязкі. Хто гэта яго так любіць? Цётка?)

— Знаеш, мне сёння на рабоце ўручылі прыз,— кажа Наташа з нейкім нервовым уздымам.— Прыз Міс інстытута электронікі. (Што я вярзу. Гэта ж было паўгода назад...)

— Ды ну? — з жартаўлівым недаверам адказвае Сяргей.

— Не верыш, лічыш, не варта?..— Наташа працягвае гэтую гульню ў баечкі, таму што нешта настойліва шкрабе на сэрцы.

(Няма ў яго цёткі... Пры чым тут світар?)

— Было тайнае галасаванне. Рэпартаж пра конкурс — у нашым насценным друку...

— І што ж табе ўручылі?

— Зараз пашукаю. Дзе я яе падзела?..— Наташа пакорпалася на паліцах і дастала шыльдачку з надпісам: «Асцярожна, рукамі не крануць».

— Гэта аб чым? Датычыцца ўсіх? І мяне? — Ён знарок грубавата абдымае яе.

— Гэта спецыяльна супроць цябе,— смяецца яна.— А скажы праўду, ці ж я не самая разумная, не самая прыгожая, не самая таленавітая і далікатная?

(Няўжо вязала жонка? Ніколі не думала пра яе як пра рэальную істоту. Так, нешта з даўняй гісторыі гэтага чалавека. Якая яна? Прыгожая? Разумная? Таленавітая?)

— Не ведаю, што б я рабіў без цябе,— кажа Сяргей ціха і сур'ёзна, прытуліўшыся галавою да яе пляча.— Ты — жывое цяпло. Побач з табой адчуваю, што жыву. Хочацца рабіць глупствы, вар'яцець, працаваць. Ты — смак жыцця. Ведаеш, як я працую апошнія дні?..

— Ведаю, усё ведаю,— шэпча яна, прыціскаючы далоні да яго вуснаў.— Буду для цябе ўсім, чым хочаш: і магчымым, і немагчымым...

(...Пры чым тут світар?..)

Калі ён прачнуўся, Наташа была ўжо на нагах. Гатавала снеданне. Пах кавы чуўся па ўсёй кватэры. Мабыць, гэта і абудзіла Сяргея. Не паспеў прадраць вочы — Наташа ўжо тут, у новым блакітным пеньюары (дзве трэці зарплаты і месяц дыэты),— на маленькім падносіку — маленькі кубачак кавы.

— Як у лепшых дамах...— Наташа, умытая, свежая, з водарам ранішніх духоў, сядае побач з ім на тахту.

— Сярожык-вожык, я ўжо бягу на работу. Ключ ведаеш дзе. Сустрэнемся вечарам? — Тут у голасе яе прагучала нотка няўпэўненасці... «А раптам...»

— Канешне,— Сяргей узяў яе за руку.— Не адпускаў бы цябе ні на хвіліну хоць гэтыя дні...

— Хоць гэтыя дні...— рэхам паўтарыла яна.

(Казаў, што так рэдка бачыцца з жонкай, хоць і жыве ў адной кватэры з ёй, што амаль забыўся, як яна выглядае... Цікава, як жа яна сапраўды выглядае? Спытаць у яго пра світар?)

Прамаўчала. На сэрцы па-ранейшаму шкрабло.

— Здаецца, сёння трошкі пахаладнела. Надзень світар,— сказала яна, апранаючыся і дапытліва гледзячы яму ў твар. («Прыгожы, як бог»,— так, здаецца, гавораць, таленавіты і разумны. Ну што ён ва мне знайшоў? Не дай бог страціць. Што адкажа?)

— Ага, сёння цёпла,— недарэчы адказвае ён, думаючы аб нейкіх сваіх справах.— Я сёння трошкі затрымаюся. Трэба заскочыць вечарам да Ярмоленкі, ты яго ведаеш, у кафэ мы з ім разам за адным столікам сядзелі, ну той з выстаўкома.

— Ну што ты апраўдваешся,— усміхаецца Наташа.— Канешне ж...

Для Наташы цяпер гэта — як бальзам на душу. Каму ж ён можа расказаць пра сябе, перад кім апраўдацца, з кім параіцца? З той жанчынай проста жыве ў адной кватэры з-за сына. Сын, падлетак, яго вельмі любіць... (А як жа світар?..)

Яна прычасалася, павярнулася перад люстэркам. У парадку. Хайт клас! І часу яшчэ трошкі засталося.

(Спытаць ці не спытаць?.. Урэшце, што тут такога? Чаму ж нельга? Простая цікаўнасць, вось і ўсё...)

— Ведаеш, пайду і я разам з табой. Няма чаго мне тут аднаму рабіць. Я хутка збяруся, пачакай.

— Добра.

Сяргей амаль зусім апрануўся, і, калі дайшоў да світара, Наташа нарэшце не вытрымала:

— Паслухай, Сяргей, адкуль у цябе такі прыгожы світар?

Сяргей знерухомеў, пальцы яго церабілі той няшчасны світар, нібы ён упершыню ўбачыў яго.

Наташа не вытрымала паўзы, якая, здавалася, цягнулася вечнасць. Загаварыла са штучнай весялосцю:

— Знаеш, так добра зроблены, з густам, з любоўю, і вязка цікавая... Хацела папытацца, дзе можна ўзяць мне гэты ўзор. Я ж сама хацела табе такі ж звязаць да дня нараджэння. (Куды цябе панесла. Спыніся...) Хто ж гэта цябе так любіць? Бо па самой рабоце відаць, колькі ў яе ўкладзена... (Хопіць... Ён ажно з твару пацямнеў. Яму баліць, бачыш? Усё ўладкуецца само сабой, усё дастасуецца, складзецца, толькі прыспяшаць не трэба.)

— Я... дома ў шафе ўзяў,— разгублена кажа Сяргей, нібы сам пры гэтым прыслухоўваецца да сваіх слоў, каб зразумець іх сэнс.

— Ты ведаеш, такая стараная работа. Магу толькі пазайздросціць... (Жахлівае стварэнне... Як цяпер скончыць гэтую недарэчную гаворку? Яму нарэшце надакучыць бабская істэрыя, і гэта будзе наша апошняе спатканне... Але ж якія мы аднолькавыя, жанчыны. Кожная імкнецца сплесці сваё сіло і думае, што яно надзейнае...)

Яны выйшлі разам. Сяргей моўчкі, з нейкім дзіўным бляскам у вачах моцна абняў Наташу за плечы адной рукой, так яны і ішлі ажно да тралейбуснага прыпынку. Наташа думала аб тым, што не можа жыць без яго і што хочацца, каб было не толькі Сёння, але і Заўтра, без гэтага проста немагчыма. Сёння яна з асаблівай вастрынёй адчула гэта...

# Хто не пастукаецца ў дзверы...

— Мадэсціна, я кахаю цябе, Мадэсціна!..

Мажная кабета сціскала ў сваіх абдымках невысокага чарнявага мужчыну, у якога ад такой пяшчоты, відаць, трашчалі рэбры.

Мадэсціну ўдалося ссунуцца амаль да падлогі, тут ён выскачыў з-пад магутнай рукі кабеты і кінуўся да акна. Яна — за ім.

— Куды ты, Мадэсціна!

Біліся аб падлогу талеркі, вазоны, грымелі каструлі...

Мадэсціна ўскочыў на падаконнік. Жанчына, не хочучы, відаць, так скора развітацца з каханкам, ухапіла яго за порткі. Але для Мадэсціны свабода, відаць, была даражэйшая за ўласныя порткі, і ён, вылузнуўшыся з іх, кульнуўся на вуліцу...

Фільм быў яўна «дзецям да шаснаццаці», але Уладзімір Ігаравіч, Гошкаў бацька, заўважыў гэта надта позна, бо, па-першае, быў ён чалавекам рассеяным, па-другое, прывык хадзіць у кіно ў асноўным толькі з Гошкам, і цяпер скоса паглядаў на хлопца і думаў, пайсці з фільма ці застацца.

Гошка вельмі любіў гэтыя паходы, таму што пасля фільма бацька заўсёды расказваў пра акцёраў, рэжысёраў, пра тых, хто рабіў фільмы, расказваў, як фільмы здымаюцца.

Бацька заўсёды размаўляў з Гошкам, як з дарослым, і Гошка паважаў яго за гэта. І ўвогуле, гэта быў саюз двух дарослых і разумных

мужчын. «Экіпаж», «таварыства»... Многа назваў для іх выдумляў Гошкаў бацька.

Не часта жаночая нага пераступала парог іхняга дома. І ўсё ж з даўняе пары ў Гошкавай памяці жылі цудоўныя ўспаміны, калі ў іхнім доме жыла Мама. У іх, мужчын, тады не было ніякіх клопатаў, і дом іхні поўніўся шолахам накрухмаленых фіранак, водарам духоў, спевамі... (Прынамсі, так цяпер здавалася Гошку.)

...Калі па нейкіх прычынах парушаецца звычайны ўклад жыцця, дарослыя чамусьці выдумляюць для дзяцей нейкія неверагодныя гісторыі, як быццам нельга нармальна пагаварыць з імі, растлумачыць усё, як яно ёсць, бо ўсё роўна рана ці позна дзеці будуць ведаць.

Калі сям'ю пакідае бацька, дык жанчыны пачынаюць выдумляць, што ён загінуў, што паехаў у камандзіроўку і не скора вернецца...

А Уладзімір Ігаравіч сказаў маленькаму Гошку, што маці паехала ў геалагічную экспедыцыю на Далёкі Усход і няхай не скора, але вернецца...

Першая палова гэтай гісторыі была праўдай, а вось другая...

Хаця Уладзімір Ігаравіч, можа, верыў і ў яе.

Гошка памятае, як маці плакала, калі ад'язджала на гэты свой Далёкі Усход. Яна ведала, што застанецца там назаўжды, бо пакахала другога чалавека, і вось, збіралася, ехала да яго. Ён таксама быў геолаг. І яшчэ маці плакала таму, што не магла ўзяць з сабою маленькага Гошку, бо таго пасёлка, у якім яна збіралася жыць, не было яшчэ ні на воднай, нават самай вялікай геаграфічнай карце. І з жыллём, канешне, там было цяжка. Ды і як пакінеш дома аднаго пяцігадовага хлопчыка на некалькі месяцаў, а то і на паўгода, пакуль яна і яе муж бу-

дуць у экспедыцыі. Ды і Гошкаў бацька (сам Гошка гэтага не ведаў) не аддаваў сына.

Вось што думала Гошкава маці, калі развітвалася з ім. А той тады і сапраўды не разумеў нічога. Калі падрос крыху — пачаў нешта разумець, але не мог, не ўмеў крыўдаваць на маці, бо памятаў яе пяшчотнай і добрай і яшчэ — шчырай. Яна — маці — не магла быць няправай. Калі яна паехала ад іх, значыць, інакш не магла.

Маці пісала Гошку пісьмы. Спачатку часта, а потым усё радзей. Пра тыя пісьмы Гошка даведаўся многа пазней, калі выпадкова знайшоў іх у ніжняй шуфлядцы вялікага бацькавага стала. Прачытаў сваё імя,— халадок прабег па яго спіне. Выцягнуў адно з канверта. «Мілае маё качанё...» — пачыналася яно. Так маці называла яго даўным-даўно... Гошка паклаў пісьмо назад у канверт і, закрыўшыся ў ваннай, каб не бачыў бацька,— доўга плакаў. А бацька ўсё ж заўважыў, што Гошка корпаўся ў яго шуфлядцы. Паклікаў. Пасадзіў перад сабой.

— Ну, ты ўжо вялікі чалавек. Мабыць, пара настала...

Працягнуў яму пачак пісьмаў у рознакаляровых канвертах.

— Вось, чытай...

Потым ціхенька ўстаў з крэсла, ссутулены і нібы адразу пастарэлы на многа год, выйшаў з пакоя. І было ў яго постаці нешта такое самотнае і тужлівае, што Гошку ажно закалола ў сэрца, і ён доўга глядзеў бацьку ўслед, нібы здагадваўся, што з ім рабілася. Калі б бацька пачаў лаяць маці, упікаць яе, нешта ставіць ёй у віну,— Гошка б такога не сцярпеў, кінуўся б абараняць яе, але бацька маўчаў...

Гошка тады так і не прачытаў ніводнага пісьма. Сядзеў ля стала, думаў пра тое, што

свет, такі цікавы, добры і зразумелы, становіцца іншы раз такі невыносна цяжкі для разумення. І немагчыма тады падзяліць дабро і зло...

Маргарыта ўсяго год як прыйшла раздатчыцай у рэстаран «Мінск». І не шкадавала. Настолькі тут усё чысцей і прыгажэй, як у «Леце», дзе яна працавала раней. Дзякуй Ані, суседцы, што параіла перайсці сюды, пакуль месца тут было. Аня сама ўжо некалькі год тут працуе афіцыянткай, і ёй вельмі падабаецца.

Белыя карункі папяровых стужак на паліцах буфета, лінолеум на падлозе, па ўсёй кухні кафель... Але ж і работы, далібог, хапала. Гэта не тое што ў «Леце», там усё роўна як у сталоўцы, ды і народу куды меней.

Спачатку Маргарыта ніяк не магла запомніць усіх, хто тут працуе,— столькі народу таўклося каля кухні. І рабочыя, і афіцыянткі, і кладаўшчыкі, і буфетчыцы... А яшчэ колькі людзей прыходзіла на кухню браць абеды на дом!

У квадраце раздатачнага акна невыразна замаячыў худзенькі хлапечы твар. Маргарыта даўно заўважыла гэтага хлапчука з сур'ёзнымі сінімі вачыма.

Сталых наведвальнікаў, тых, хто браў абеды на дом, было няшмат. Вось, напрыклад, гэтае хлапчанё хадзіла сюды кожны дзень. Часта прыходзіў пажылы мужчына, відаць, адзінокі пенсіянер, жанчына сярэдніх год у цёмных акулярах. Хадзіла яшчэ шмат людзей, але толькі час ад часу. Маргарыта чамусьці шкадавала ўсіх іх. Яны здаваліся ёй нейкімі недагледжанымі. Напэўна, няма каму паклапаціцца аб іх. Ці ж цяжка прыгатаваць ежу дома? Вось яна, Маргарыта, калі б у яе была сям'я, дык ужо і мыла б на іх, і ежу гатавала некалькі разоў на дзень. Гэта ж задавальненне якое! Працаваць дома, на сваіх,

а не ў сталоўках ды на чужых людзей. Ды і наколькі хатняя ежа смачнейшая за тыя казённыя харчы. І не таму, што на гэтай кухні дрэнна гатуюць, а ўсё ж не тое...

Хлапчук дастаў з сеткі дзве каструлькі і паставіў іх на кухоннае акно. Тут жа, ля акна, узніклі сяброўкі-афіцыянткі — Іра і Марына. Весела смеючыся, яны аддалі Маргарыце чэкі і — зусім непрыкметна — адціснулі хлопчыка ўбок. Падышла і сяброўка Маргарыты Аня. Тая ўвогуле ніколі не стаяла ў чарзе, па знаёмству. Паклала чэкі на падаконнік і стала чакаць, пакуль Маргарыта выдасць яе заказы. Маргарыта прыкмеціла, як знікла хлапчанё за чарадою бесклапотна балбатаўшых дзяўчат. «Вось чартоўкі,— незласліва падумала яна,— хлопца зусім затаўклі». Узяла яго каструлькі, выглянула з акенца:

— Чаго табе?

Ён аддаў ёй чэкі.

— Два супы гарохавыя і два біфштэксы.

Маргарыта, не лічачы порцый, наліла ў большую каструльку супу амаль да верху, у меншую паклала пюрэ ды біфштэксы. Ёй было асабліва шкада гэтага хлапчука. Ці то ад таго, што ён быў такі ціхі, што, здавалася, яго мог пакрыўдзіць кожны, ці то ад таго, што ён такі худзенькі — трэба ж неяк падкарміць яго, і яшчэ ад таго, што ён іншы раз падоўгу прастойваў каля раздатачнага акна, чакаў, пакуль бойкія афіцыянткі атрымаюць свае заказы.

...Калі тлум ля кухні крыху сціхаў і людзі разыходзіліся па сваіх месцах, Маргарыта садзілася каля акна на табурэтку і адпачывала. Складвала вялікія чырвоныя рукі на каленях і нібы адыходзіла ў думках ад усяго, што было навокал. На свет рэальны Маргарыта глядзела праз акуляры ў тоўстай рагавой аправе, і ўсё ў

ім здавалася Маргарыце простым і ясным, варта было толькі добра над усім падумаць. Яна часта ўяўляла сабе жыццё кожнага з тых, хто прыходзіў у рэстаран за абедамі на дом. Ды і што тут гадаць. У кожнага, пэўна, чагосьці, а можа, кагосьці ў доме не хапае. Звычайна бывае так: калі ёсць час гатаваць ежу — няма для каго гэта рабіць, як, напрыклад, ёй, Маргарыце. Калі ёсць для каго — няма каму.

Ці вось хлапчанё, якое штодня прыходзіць на кухню — справа ясная, у доме няма аніводнай жанчыны: ці ж маці, бабуля, сястра не здолелі б што-небудзь згатаваць, замест таго каб пасылаць хлопца ў рэстаран па абеды?..

— Эй, Маргарыта, заснула, ці што? — у акенцы з'явілася Аня.— Што гэта ты? Не даклічуся цябе... Вось, адпусці хутчэй,— яна працягнула Маргарыце цэлую стужку чэкаў.— Ты ведаеш,— нахілілася яна ў акно і давярыцельна зашаптала Маргарыце,— такія хлопцы ў мяне за сталом сядзяць! І ўжо другі дзень прыходзяць і ўсё за мой столік сядаюць... Як ты думаеш, знарок ці не?

Падышлі яшчэ дзве афіцыянткі. Аня забрала свае заказы на паднос і паплыла ў залу. Калі і дзяўчаты пайшлі, Маргарыта зноў сядае на табурэт каля аконца і думае аб тым, што вось Ані шанцуе ў жыцці, яе любяць мужчыны. У яе ўжо трое мужоў было. Праўда, кінулі яе яны, а можа, каго і сама Аня, Маргарыта дакладна не ведае. Дык што ж, ці мала на свеце мужчын! І Анюце хоць бы што. Яна заўсёды вясёлая, такія падабаюцца мужчынам. Праўда, аб тым, якія жанчыны больш за ўсё падабаюцца мужчынам, а якія не, Маргарыта ведала толькі тэарэтычна, бо ў яе самой не так многа хлопцаў было, а замужам яна яшчэ не была, хаця ёй ужо стукнула дваццаць дзевяць. Што ж, не кожнаму

на свет нараджацца прыгожым ды вясёлым, Маргарыта гэта ведала на ўласным вопыце.

...Нешта зашыпела — і па ўсёй кухні паплылі белыя клубы пары. Гэта двое кухонных рабочых незнарок плесканулі супам на пліту. Напарніца Маргарыты — жанчына даволі магутнага складу — адабрала ў хлопцаў вялізную каструлю і падцягнула яе да раздачы. Маргарыта папрасіла су́павую лыжку — зняць пробу. Яна так і казала «су́павую» — паспрабуйце яе пераканаць у тым, што лыжка супава̀я!..

Час, калі Гошка вяртаўся са школы і павінен быў ісці ў рэстаран па абеды, быў для Гошкі даволі непрыемным. Бо дваровыя хлапчукі ўвесь час смяяліся з яго, калі ён ішоў па двары з рознакаляровымі каструлькамі ў сетцы. Хлопцы часта крычалі яму ўслед: «Эй, кухар, як там твой супчык з Парыжа? Яшчэ дыміцца?» І яшчэ што-небудзь накшталт таго. Гошка стараўся не звяртаць на іх увагі і, кожны дзень вярнуўшыся са школы, бег па абеды. А што было рабіць? Бацька — у інстытуце ці ў бібліятэцы. І нават не кожны дзень паспявае на абеды дадому. Таму загадваць ежай у доме даручалася Гошку.

Ён цярпліва зносіў усе кпіны і насмешкі хлопцаў з іхняга двара, ён жа ўжо дарослы чалавек, а што яны разумеюць у жыцці, жывучы на ўсім гатовенькім?

Гошка часта ўспамінае, як да нядаўняга часу яны з бацькам харчаваліся аднымі бутэрбродамі і нічога, сытымі былі. Толькі гэткае працвітанне працягвалася да тае пары, пакуль з Віцебска не прыехала цётка — бацькава старэйшая сястра. Яна запоўніла ўсю кватэру гоманам, гучнымі воклічамі «госпадзі Ісусе, сыне божы!» — хаця ні ў бога, ні ў чорта цётка Дар'я не верыла.

Адразу ж цётка ўзялася сцярушваць павуцінне з усіх куткоў пад столлю, вымятаць смецце, адначасова мыць бялізну і пячы пірагі. Гошку тады здавалася, што ў іхнім пакоі з'явілася не адна, а, прынамсі, пяць цётак. У гэтыя дні ён хадзіў у школу ў старанна памытай і выпрасаванай белай кашулі, а вяртаўся — і зноў трапляў ва ўчэпістыя абдымкі Дар'і Ігараўны. Яна зноў пачынала проста на ім нешта чысціць, цыраваць, прышываць, садзіла вячэраць і, зрабіўшы з дзесятак парад, выганяла на вуліцу гуляць. А роўна ў восем гадзін вечара чуўся голас Дар'і Ігараўны ў расчыненае акно: «Георгі, дадому!»

Так было да канца адпачынку цёткі.

Калі яна ад'язджала, то загадала бацьку перш за ўсё паклапаціцца аб нармальным харчаванні ў сям'і. «Табе што, табе за абедам кошку падсунь, ты і яе з'ясі па сваёй рассеянасці, а хлопец на тваіх бутэрбродах расці не будзе...» А ў канцы сваіх настаўленняў дадала: «Жаніцца б табе, Валодзя...» Бацька хацеў нешта адказаць, ды глянуў на Гошку і змоўк на паўслове. Пачухаў патыліцу, махнуў рукой. Цётка таксама змоўкла і больш пры хлопцу нічога не казала.

З таго часу Гошка пачаў штодня хадзіць па абеды. Каму ў дванаццаць год не хочацца хутчэй вырасці! Хоць і прыходзілася цярпець з-за гэтых абедаў столькі насмешак.

І яшчэ — Гошку было сорамна прызнацца ў гэтым нават сабе — ён баяўся рэстараннага швейцара. Той — ганарлівы і непрыступны, з вялікімі сівымі бакамі і пышнай барадой — нязменна ўзвышаўся каля ўвахода ў вестыбюль. Перад наведвальнікамі рэстарана ён нізка раскланьваўся, расчыняў перад імі дзверы. А на Гошку касавурыўся даволі грозна. А хлопцу —

хочаш не хочаш — кожны раз прыходзілася хадзіць на кухню праз парадны ўваход міма таго швейцара.

Сёння Маргарыта была ў нейкім асаблівым настроі. Заўтра — выхадны. У рэстаране пакуль што народу мала — на вуліцы спёка і мала каму ахвота ў такі час абедаць у рэстаране. Затое летнія забягалаўкі, «паплаўкі» розныя, мабыць, перапоўненыя аж цераз край...

Прыйшоў першы за сённяшні дзень наведвальнік браць на дом абеды — ужо знаёмы ёй загарэлы худзенькі хлапчук. Выбіў у касе чэкі. Напарніца Маргарыты не спяшаючыся стала наліваць яму чарпаком суп. А Маргарыта абаперлася локцямі на падаконнік раздатачнага акна і разглядала хлапчука ва ўпор: рэдкія вяснушкі на лбе, носе. На скроні — брудная паласа, рукі — шурпатыя, падрапаныя, з даўно не стрыжаным і ногцямі. Заўважыла, што адзін з гузікаў ва яго каўбойцы вось-вось адарвецца,— паклікала — «хадзі сюды!». Хлопчык, насупіўшыся, насцярожана наблізіўся.

— Цябе як зваць?

Гошка вагаўся, што адказаць. Увогуле, для чужых ён быў Георгій, а для сваякоў і знаёмых — Гошка. Кім яму лічыць гэтую жанчыну — добра знаёмай ці так...

Пакуль ён вагаўся, Маргарыта выняла з верхняй кішэні свайго халата іголку з ніткай, лёгка прыцягнула хлопчыка да сябе і стала прышываць гузік. Гошка разгублена соп, не ведаючы, як рэагаваць на гэткі неспадзяваны клопат. А Маргарыта ласкава прыгаворвала:

— Ну стой, не хістайся, а то ўкалю.

Ад рук Маргарыты смачна пахла супам і хлебам.

— Што ў цябе ўсе гузікі расхлябаныя, прышыць няма каму, ці што?

Гошка пацiснуў плячыма.

— З кім жывеш? З бацькам? — не змаўкала Маргарыта.

— Ага, з бацькам,— нарэшце адважыўся, сказаў Гошка. Яму было няёмка і неяк боязна вось так стаяць перад гэтай жанчынай, якая разглядала яго ва ўпор добрымі вялікімі вачыма праз тоўстае шкло акуляраў. Гошка глянуў на каструлькі з абедам, якія стаялі на падаконніку і ад якіх паднімалася апетытная пара.

Потым Маргарыта, сеўшы на табурэтку, падпёршы галаву рукой, глядзела на яго, і ёй было шкада гэтага хлапчука, нешта хацелася для яго зрабіць...

Гошка з-пад ілба паглядаў на Маргарыту, паглядаў крыху дзікавата, яму здавалася, што гэтая жанчына бачыць яго наскрозь і ўсё ведае пра яго беды і няўдачы.

Маргарыта была добрай жанчынай. Яе цеплаты і пяшчоты хапіла б чалавек на дзесяць дзяцей, а ў яе не было ніводнага...

— А што бацька твой, не ажаніўся другі раз? — зноў спыталася яна.

— Не.

— А кім жа ён у цябе працуе?

— Не ведаю.

— Як жа ты не ведаеш, ужо такі вялікі хлопец? — дапытвалася Маргарыта.

— Я ведаю толькі, што ён вучоны, а дзе працуе — ён мне гаварыў, толькі я забыўся...

Гошку звычайна вельмі не падабаліся такія пытанні цікаўных суседак, хлопцаў са двара. Але на гэтую жанчыну ён чамусьці не крыўдзіўся. Яна распытвала яго без пражнай цікаўнасці ці якога там нядобрага інтарэсу, а размаўляла

з ім спакойна, проста, размаўляла аб жыцці як з роўным.

Гошка паставіў каструлькі адна на адну, асцярожна апусціў іх у сетку і пайшоў. Каля выхаду азірнуўся, быццам нешта ўспомніў, і сказаў:

— А мяне завуць Гошка...

— Успомніў,— засмяялася жанчына,— а мяне — Маргарыта.

Маргарыту на кухні лічылі крыху блазнаватай. Ну, а як яшчэ будзеш называць жанчыну, якая амаль да трыццаці год не завяла сабе сям'ю, дзяцей? Ды і з сяброўкамі яна не вельмі сыходзілася. Сяброўкам усё б пра мужчын ды пра адзенне пагаманіць. А Маргарыце гэта было нецікава. Яна звычайна згодна ківала галавой, калі яны гаварылі пра ўсё гэта, а сама думала зусім пра другое, а калі і ўстаўляла слова, то, як звычайна, недарэчы. Сяброўкі за гэта кпілі з Маргарыты і казалі, што ў галаве ў яе гуляе вецер.

А Маргарыта любіла дзяцей і прыроду. Цяпер яна думала пра тое, што ў яе мог бы быць такі хлапчук, як Гошка. Ну, можа, крыху меншы.

Гошку здавалася, што ў свеце за апошні час нешта змянілася. Адчуваў сябе дарослым, спакойным, упэўненым у сабе чалавекам. Ён горда праходзіў па двары, размахваючы новенькімі бліскучымі судкамі, якія нядаўна купіў бацька. Дваровым хлопцам, мабыць, надакучыла кпіць з яго паходаў па абеды, бо ён усё роўна не крыўдзіўся і не абзываўся на іхнія жартачкі. Затое прыдумалі яму мянушку «жалезабетонны», можа, за цвёрдасць характару, а можа, і за новенькія судкі. Гошку гэтая мянушка падаба-

лася. Падабалася яму і тое, што ён пасябраваў з Маргарытай — жанчынай з кухні.

Гошка адчуваў сябе неяк бліжэй да дарослых людзей, чым да сваіх аднагодкаў. У адрозненне ад знаёмых хлопцаў, за якіх дома ўсё рабілі бацькі, ён сам «вёў гаспадарку», клапаціўся аб сабе і аб бацьку. Яму здавалася, што нават хада ў яго стала цяжкой і стомленай, як у бацькі. Гошка зараз ахвотна размаўляў з Маргарытай пра жыццё, расказваў, як ідуць яго заняткі ў школе, і ўвогуле, як справы, расказваў і пра бацьку.

І швейцара Гошка больш не баяўся. Аднойчы ён пачуў, як швейцар размаўляў з нейкай жанчынай. Гошка тады вельмі здзівіўся, што з густой акладзістай барады швейцара чуўся тоненькі, амаль дзіцячы галасок. Ці ж можна было баяцца чалавека з такім голасам!

У выхадны Маргарыта купіла сабе білет у кіно на апошні сеанс. Сядзела ў цёмнай зале, глядзела на прыгожых жанчын і мужчын на экране і думала пра тое, што сама яна ніколі не будзе такой прыгожай, у яе не будзе такой кватэры, такога жыцця, і, напэўна, яе ніхто не будзе так любіць, як любіць гэты барадач сваю дзяўчыну — прыгожую бландзінку.

Кіно скончылася. Маргарыта выйшла разам з усімі на вуліцу.

Перад ёю ішла сям'я: высокі хударлявы мужчына сярэдніх год, маладая, яшчэ цёмнавалосая жанчына і хлапчук гадоў дванаццаці. Ён здаўся Маргарыце падобным да Гошкі. Потым прыгледзелася: не, не падобны. Падумалася: вось было б добра, калі б гэта прыгожая цёмнавалосая жанчына — была яна, Маргарыта, мужчына побач — Гошкаў бацька, а той хлапчук — Гошка.

Засмяялася са сваіх думак. Прыйдзе ж такое ў галаву!

Увайшла ў свой пад'езд. Там было цёмна, толькі ледзь адсвечвала клетка ліфта. У самым цёмным кутку — цыгарэтны аганёк, заварушылася чалавечая постаць. Маргарыта палахліва косіцца ў той кут. Чалавек робіць крок наперад. Маргарыта спалохана ўздрыгвае, але потым супакойваецца, пазнаўшы таго чалавека. Гэта Павел, іх рэстаранны шафёр. Ён даволі п'яны. Павел кажа, што чакае Маргарыту ўжо з паўгадзіны. Ён яе кахае і хоча пайсці да яе.

Маргарыта паціскае плячыма:

— А як жа твае дзеці, жонка?

— Ну, яны ў мяне во дзе! — Павел падсоўвае пад самы нос Маргарыты вялізны кулак.

— Цьфу, дурань!

Маргарыта, адштурхнуўшы яго, зачыняе перад яго носам дзверы ліфта і едзе на свой паверх.

Дурны ён, гэты Павел. Мае жонку, двух сыноў, а ўвесь час круціцца ля яе, усё лыпае бялявымі вейкамі ды ў госці просіцца. Можа, і сапраўды закахаўся? Адзін час ён нават падабаўся Маргарыце. Але калі аднойчы сустрэла яго на вуліцы з жонкай і хлапчукамі, апранутых ва ўсё самае лепшае, і Павел ледзь кіўнуў ёй галавой,— не тое, што на рабоце кідаўся да яе ледзь не ў абдымкі,— Маргарыта з тае пары не заўважала яго. Не тое, каб пакрыўдзілася, а проста перастаў чалавек існаваць для яе, нібы з'ехаў куды.

Маргарыта заходзіць у свой пакой. Святла не запальвае. Яна і так на памяць ведае, што дзе стаіць. У цемры ўсе рэчы адсвечваюць у халодным месяцавым святле і здаюцца крыху іншымі, большых, неакрэсленых памераў. Доўгія цені надаюць рэчам нейкую нерэальнасць.

Спаць яна кладзецца ў цемры. Доўга ляжыць без сну. І зноў бачыць тыя тры постаці на вуліцы. Гэта яна, Гошка і Гошкаў бацька вяртаюцца разам з кіно дадому. Гошкаў бацька — падобны да тых вучоных, якіх яна бачыла на малюнках у кнігах, кіно — у тонкім пенснэ, з разумнымі вачыма, з лёгкай сівізной на скронях.

Вось яны ўжо дома. Гошкаў бацька сядае за вялікі пісьмовы стол і пачынае працаваць. На стале ўсюды поўна розных паперак, чарцяжоў, і Гошкаў бацька літаральна зарываецца ў іх. Не паднімаючы галавы, гаворыць строгім голасам:

— Маргарыта, чаю!

Маргарыта нясе яму свежазавараны чай. На талерцы — піражкі, выпечаныя ёю. Гошкаў бацька, зноў жа не адрываючы галавы ад сваіх паперак, гаворыць:

— Дзякуй, Маргарыта.

І Маргарыта шчаслівая.

Потым яна кладзе Гошку спаць, сядае побач з ім на ложак і расказвае яму казку.

...Потым яна засынае...

Гошка прастыў, хаця на двары стаяла цёплае, сухое надвор'е. Прыйшоў са школы, прылёг на канапу адпачыць — і не змог устаць, ламала ўсё цела.

Гошка ляжаў і чакаў, пакуль прыйдзе з работы бацька. Яго мучыў сухі кашаль, балела галава. Гошка задрамаў. І здалося яму, што па пакоі прамільгнуў цень нейкай жанчыны. Яна ціха падыходзіць, гарачаю рукою кранаецца яго лба, нахіляецца над Гошкам і шэпча нешта пяшчотнае, ласкавае. Твару жанчыны Гошка не бачыць, а голас яму знаёмы. Так, так, гэта ж голас... Маргарыты, жанчыны з рэстараннай кухні. Гошка прыўзнімаецца на локцях і глядзіць на жанчыну ва ўпор.

— Як вы тут апынуліся? — пытаецца...

— Тс-с, ляжы,— жанчына прыкладае палец да вуснаў.— Ты ж не прыйшоў сёння па абед, вось я і прынесла сама.

Гошка спалохаўся, што яна зараз пойдзе і ён застанецца адзін.

— Толькі вы адразу ж не ідзіце, пачакайце, пакуль бацька прыйдзе.

Гошка зноў углядаецца ў гэты твар. Як жа ж ён адразу не пазнаў? Гэта ж... маці.

— Мама,— ціха гаворыць ён.

А жанчына адказвае голасам Маргарыты:

— Ну што ж ты, мілае маё качанё. Што ж ты не беражэшся? Сярод лета — і раптам захварэў.— Жанчына ўсміхаецца.— Уф, горача,— выцірае з ілба кроплі поту.

— Я больш не буду,— як маленькі гаворыць Гошка.

Гошка гатовы быў абяцаць усё на свеце, толькі б маці засталася з ім тут яшчэ, пакуль не прыйдзе бацька. А бацька ўжо зможа як-небудзь яе ўгаварыць застацца тут даўжэй.

...Калі Уладзімір Ігаравіч прыйшоў з работы, Гошка спаў на канапе, шырока раскінуўшы рукі, і цяжка дыхаў. На лбе — буйныя кроплі поту. Бацька памацаў яго лоб. Так і ёсць — тэмпература.

Гошка расплюшчыў вочы.

— А, ты ўжо дома?..— сеў на канапе.— А дзе... яна?

Бацька здзівіўся:

— Хто — яна?

Гошка маўчаў, апусціўшы галаву.

Бацькаў твар пацямнеў.

— Гэта бывае пры высокай тэмпературы. Мроіцца рознае...

Уладзімір Ігаравіч ведаў, што гэтаму ёсць яшчэ не адна назва, але яму не хацелася, каб

хлопчык ужо цяпер ведаў такія словы, як «сум», «туга», «адзінота»...

Ён прынёс градуснік, сеў побач з Гошкам на канапу. Ну вось, стары дурань, за сваёй работай не змог дагледзець малога. А ён жа ў яго самы блізкі, самы адзіны на гэтым свеце. Зараз Уладзімір Ігаравіч у думках дакараў сябе за тое, што так мала часу аддаваў сыну, мала сын бачыў ад яго ласкі, ды і бачыліся яны не так часта, як хацелася б,— Уладзімір Ігаравіч амаль цэлымі днямі прападаў на рабоце...

Бацька глядзеў на сына і не ведаў, як сказаць яму ўсё гэта. Правёў далонню па кудлатай Гошкавай галаве, кашлянуў, сказаў: «Та-аак». І пайшоў у магазін па малако.

Дзень мінуў. Маргарыта думала, што чамусьці не прыйшоў сёння хлопчык Гошка, што з ім, мабыць, нешта здарылася, можа захварэў. Маргарыта ўявіла сабе, як Гошка з градуснікам ляжыць на канапе, а яго бацька няўмела гатуе абед — наразае бутэрброды. Вядома, што яшчэ могуць прыдумаць мужчыны! Ці ж іхняя то справа — ежу гатаваць ды за хворымі дагледаць. Спакон веку то жаночае ўмельства. Маргарыта думала, што яна паставіла б усё па-іншаму, як гатавала б абеды, як паіла б Гошку гарачым малаком з мёдам. А ўвечары б сядала побач і чытала б яму ўголас сваю самую любімую кнігу «Тры мушкецёры».

Так думала Маргарыта ўвесь гэты дзень. А між тым яна не хацела прызнацца нават сабе, колькі месца ў яе жыцці стала займаць гэта прыдуманая ёю сям'я, з ёю на чале.

А на наступны дзень у рэстаранную кухню прыйшоў высокі, крыху сутулы мужчына з сі-

візною ў валасах, у тонкіх акулярах. Ён нязграбна перасоўваўся па кухні і ўсё не мог ўцяміць, куды трэба плаціць, дзе атрымліваць абеды, што тут да чаго. А Маргарыта з затоеным сэрцам сачыла за ім, таму што ведала, што гэта быў ЁН, і такі, якім сабе яго ўяўляла: высокі, з разумнымі шэрымі вачыма... І Маргарыта падумала, што, калі б ён быў яе мужам, яна б яго вельмі любіла... Гошку ўжо яна палюбіла.

Маргарыта шкадавала Уладзіміра Ігаравіча, шкадавала за старэнькі грубай вязкі світар, за пінжак, на якім не хапала гузіка, за тое, што з судкамі ў руках ён выглядаў такім разгубленым і самотным... О, вялікая жаночая жальба, так падобная на каханне!..

Уладзімір Ігаравіч выносіў з сабой адсюль нейкае пачуццё няёмкасці. І ніяк не мог зразумець, у чым тут справа. Потым успомніў твар жанчыны, што сядзела ў раздатачным акне. Шырокі, з вялікімі добрымі вачыма. Яна ўсё нешта імкнулася спытаць у яго, але быццам ніяк не наважвалася. Уладзімір Ігаравіч паціснуў плячыма і заспяшаўся дадому карміць Гошку.

У Гошкі цяпер было шмат часу. З раніцы да вечара і з вечара да раніцы. Урач сказаў, што бранхіт хутка пройдзе, дні праз тры можна будзе ўстаць.

Гошка ніколі не думаў, што іхняя кватэра можа быць такой вялікай і пустой, таму што ніколі яшчэ не праводзіў столькі часу ў ёй сам.

Калі ўдзень бацька пайшоў у рэстаран па абед, Гошка захваляваўся. Маргарыта канешне ж пазнае бацьку — Гошка столькі ёй расказваў пра яго. А раптам яна пачне распытваць бацьку аб ім, аб Гошку, а той у адказ скажа: «А, адчапіцеся»,— так бацька казаў Гошку, калі лі-

чыў, што яго пытанні неістотныя, ад няма чаго рабіць. Маргарыта тады напэўна пакрыўдзіцца, і яму, Гошку, будзе няёмка перад ёй,— яны ж з Маргарытай сябры...

А раптам усё будзе не так. Бацька ж чалавек разумны. Напэўна, і ён пасябруе з Маргарытай.

Гошка з нецярплівасцю чакаў, калі бацька вернецца з рэстарана. Як ён там, ці знойдзе ўваход на кухню? — бацька ж чалавек рассеяны, ці зразумее, што там да чаго? А Гошка яшчэ забыўся яму сказаць, што ў верхнюю каструльку трэба накладваць другое, а ў ніжнюю — першае, бо інакш пакуль нясеш, палова супу выплюхнецца.

А як, цікава, там маецца Маргарыта?

Нарэшце стукнулі ўваходныя дзверы. Бацька доўга нешта пераастаўляў на кухні, мабыць, ставіў абед грэцца на пліту.

— Ну што? — спытаўся Гошка, калі бацька ўвайшоў у пакой.

— А што «што»? — здзівіўся Уладзімір Ігаравіч.

Гошка расчаравана апусціўся на падушкі. Значыцца, нічога «такога» сёння не здарылася. А яму чамусьці здавалася, што павінна адбыцца нешта нечаканае. Хутчэй добрае, чым дрэннае. Бывае такое адчуванне, не скажаш нават адкуль.

Уладзімір Ігаравіч здзіўлена глядзеў на сына. Што за дзянёк сёння надарыўся. Усе нешта недагаворваюць, нешта ад яго хочуць. «Некамунікабельны я зрабіўся, ці што? Нічога не разумею».

Маргарыта з нецярплівасцю чакала кожнага наступнага дня, калі прыходзіў на кухню высокі

мужчына з цёплымі шэрымі вачыма, якія пахлапечы нецярпліва глядзелі з-пад акуляраў, што няроўна адсвечвалі ў сонечным бляску. Маргарыта ўжо амаль любіла яго стомленую паходку, яго жыллё, у якім яна ніколі не была, але так добра сабе ўяўляла. А як яна ўмее гатаваць абеды! Ведаў бы ён, як яна мыла б, прыбірала ў пакоях, глядзела б за ім, як ніхто другі. Ох, калі б ён усё гэта ведаў! А ёй самой не так ужо і многа патрэбна. Крыху ўвагі і цеплыні...

Маргарыта была цвёрда ўпэўнена ў адным, калі б усё сталася так, як яна ўяўляла сабе ў марах — усе былі б шчаслівыя.

Ведалі б яе сяброўкі, пра што яна думае ўвесь гэты час, сказалі б, што звар'яцела баба зусім...

А Маргарыта шчасліва ўсміхалася...

Уладзіміра Ігаравіча ўсе гэтыя апошнія дні прыгнятала нейкае незразумелае пачуццё няёмкасці, ці што... Нібыта нешта павінен быў зрабіць, але забыўся. Таму ён хадзіў гэтыя дні яшчэ больш засяроджаны і паглыблены ў свае думкі і разважанні. І калі жанчына з кухні, дзе ён браў абеды на дом, раптам запыталася: «А што з Гошкам?» — ён не здзівіўся таму, што яна ведае Гошку, і спакойна адказаў: «Ды вось крыху прыхварэў, але нічога страшнага».

Гошку вельмі хацелася б, каб бацьку спадабалася жанчына з кухні. Нічога, што яна тоўстая, затое добрая.

Гошка быў ужо дарослы чалавек. Хадзіў у шосты клас, чытаў сур'ёзныя кнігі. У апошні час прыйшоў да выніку, што бацьку трэба ажаніцца. І абавязкова з Маргарытай. Не, канешне, гаворкі не магло быць пра тое, што яна заменіць Гошку маці, але калі Гошка неўзабаве вырасце,

стане вялікім, паедзе куды-небудзь у Сібір на вялікую будоўлю, трэба ж, каб хто-небудзь глядзеў за бацькам. Так няхай гэта будзе лепей Маргарыта, чым яшчэ хто...

Уладзімір Ігаравіч увесь час думаў над сваімі эксперыментамі і задачамі, думаў на рабоце, у бібліятэцы, дома. У яго жыцці былі толькі дзве рэальныя рэчы: гэта яго работа і Гошка. Уладзімір Ігаравіч імкнуўся не зважаць на тое, што адцягвала яго ўвагу ад гэтых рэальных рэчаў. А тут упершыню за час хваробы хлапчука ён адчуў, што вакол яго адбываецца нешта, накіраванае на тое, каб вывесці яго са звычайнага для яго стану раўнавагі. Чаго хочуць ад яго, чаго чакаюць усе тыя людзі, з якімі хочаш не хочаш сустракаецца ён у сваім штодзённым жыцці?

Калі Гошка выздаравеў, зноў прыйшоў на кухню па абед. Убачыўшы яго, Маргарыта заплакала. Яна ўжо ведала, і ведала напэўна, што больш не будзе ёй бачыцца дом, дзе жывуць яны ўтраіх, больш не прыйдзе сюды высокі, крыху сутулы чалавек з шэрымі вачыма, у тонкіх акулярах. І што больш нічога, нічога не будзе...

Гошка вярнуўся дамоў, паставіў судкі на кухонны стол, сеў на табурэтку і задумаўся. Так ён сядзеў доўга і нават не чуў, як прыйшоў бацька, як увайшоў ён на кухню, пастаяў ля стала, падышоў да Гошкі. А той усё сядзеў, глядзеў у адну кропку.

— Ау,— бацька дакрануўся яго пляча.— Што ты не чуеш, як я з табою вітаюся?

Гошка глянуў на бацьку. Відаць, было нешта асаблівае ў Гошкавым позірку,— бацька выпрастаўся і здзіўлена глянуў на Гошку. На нейкае

імгненне яму здалося, што хлопец цяпер чытае ўсе ягоныя думкі, разумее ўсе яго слабасці і сумненні. У Уладзіміра Ігаравіча нават мурашкі па спіне прабеглі. Што такое? Насланнё нейкае! Адно несумненна: хлопец вырас за апошні час. І неяк непрыкметна. І гаварыць з ім, і ўспрымаць яго цяпер трэба як дарослага.

Уладзімір Ігаравіч падумаў: а ці ўсё ён зрабіў дзеля таго, каб дзяцінства яго сына, якое проста на вачах адыходзіла, канчалася,— прайшло шчасліва, засталося добрым, цудоўным у памяці?

7 Зак. 1380

# Палац

Па іх адразу было відаць, што яны прыезджыя. Іх мы бачым на пляжы ўсяго другі раз. Сярод жыхароў нашага горада яны выдзяляюцца белай скурай. Праз пару дзён, як след абгарэўшы на сонцы, яны па колеры скуры будуць нагадваць жыхароў прэрый, затое праз тыдзень іх ужо нельга будзе адрозніць ад тубыльцаў.

Дзяўчына вельмі прыгожая. Доўгія чорныя валасы раскіданыя па плячах. Тонкія, хоць і крыху драбнаватыя рысы нервовага тварыку. Лёгкія, павольныя рухі, быццам дзяўчына балерына ці акторка. Хлопец — высокі, стромкі. Хаця, прыгледзеўшыся, можна было даць яму гадоў за трыццаць, так што хлопцам можна назваць з невялікай нацяжкай, але вочы яго без цёмных акуляраў глядзелі па-хлапечы весела, прыжмурана-дзёрзка. Але бачылі б вы, як змяняўся яго позірк, калі глядзеў ён на дзяўчыну! Рабіўся расчулена мяккім, добрым і нават бездапаможным.

За сённяшні дзень мы ўжо другі раз смажымся на сонцы на гарадскім пляжы. Непадалёк, за невялічкім кустоўем — яны. Пра нешта ціха, упаўголасу гамоняць. Раптам дзяўчына засмяялася. Я нават уздрыгнуў. Упершыню чую, каб людзі так шчасліва, пяшчотна смяяліся...

— Здаецца, яны яшчэ маладажоны,— падсунулася да мяне Таня.— Ён ад яе — ну ні на крок...

— А, глупства,— умешваецца Генка.— Хутчэй наадварот, яшчэ не жанатыя. Так бы і хадзіў ён за ёй, як прышыты.

— Ага, прачнулася ваша вушастае васпанства! — тузае яго за вуха Таня.— А калі я цябе купацца клікала, дык ты рабіў выгляд, што спіш, нават не варухнуўся...

— Далібог, спаў,— бажыцца Генка, а ў зялёных вачах яго скачуць чарцяняты.

Раптам Таня штурхае мяне, паказвае вачыма ў бок хлопца і дзяўчыны. Тыя ідуць купацца.

Рака ў нас прыгожая, вялікая, а гарадок маленькі, нават летам не так ужо і многа людзей прыязджае адпачываць. Так, сваякі, знаёмыя, адны і тыя ж людзі штогод. Ды і падзей незвычайных у нас таксама няшмат. Таму кожнага новага чалавека мы сустракаем з цікавасцю і чаканнем — а хто ж ты такі: добры ці благі, што з'явіўся ў нашых мясцінах, сярод нашых людзей.

Нам падабалася назіраць за тымі дваімі. Былі яны нейкія непадобныя да іншых. Такое адкрытае шчасце, такая пяшчота ў адносінах адно да другога, нібы жывуць ва ўласным, аддзеленым ад усяго астатняга, свеце,— ну проста як у кіно. Прыгожа і незвычайна. Глядзіце, маўляў, нам не сорамна, бо мы іншыя за вас. А і праўда, у нас мы такога яшчэ не бачылі. І мы глядзелі, як ідуць цяпер гэтыя двое поруч, бы ў зачараваным сне, нікога навокал не бачаць. І калі б раптам перад імі знікла рака ці калі б пачалося землетрасенне,— яны, здавалася б, па-ранейшаму ішлі б сабе, нічога гэтага не заўважалі.

І мы сціхлі, быццам нейкім неасцярожным гукам маглі спалохаць іх, парушыць гэтую зачараваную быль, казку, бог яго ведае што...

Амаль на самай быстрыні, па-над вадою,— некалькі вялізных каменняў. На іх мы часта загараем пасля купання. А зараз вось гэтыя двое сядзяць на іх. Іншых мы хуценька папрасілі б з нашага месца (усе мясцовыя добра ведалі нашы правы на гэтыя камяні), а тут — няхай карыстаюцца. Мы такія, мы гасцінныя...

Дзяўчына паклала сваю галаву яму на калені, а ён нахіліўся да яе, нешта ціха гаворыць, перабірае яе валасы. А на другім беразе ракі мясцовыя бабулькі ўсе, як адна, прыўзняліся на сваіх лаўках, услончыках. Галовы іхнія закалыхаліся туды-сюды...

А гэтым двaім — хоць бы што! Глядзяць на іх? Няхай глядзяць! І ўвесь горад, што ляжаў на ўзвышшы над ракой, нібы ўтаропіўся на іх незлічонымі вачыма-вокнамі, паблісквaючы вачыма-шкельцамі ў сонечных праменнях.

— Во даюць,— Генка перавярнуўся на спіну.— Анархія — маці парадку. Рабі што хочаш! Во гэта я паважаю... Хочаш — абдымай сваю каханую пасярод ракі, хочаш — стой на галаве!

— А ты, вушасты анархіст,— зноў тузанула яго за валасы Таня,— а ты змог бы што-небудзь такое ўтварыць, змог бы плюнуць на грамадскую думку, га?

— А думаеш, не?

— А што, да?

— Думаеш, не?

— Не...

Тады Генка бярэ Таню на рукі і нясе да вады.

— Няхай усе думаюць, што я закаханы ў цябе. Але перад маімі вачыма паўстае вобраз незабыўнага Сцяпана Разіна, які з-за сваіх сяб-

роў пазбавіўся каханай...— І Генка кідае Таню з берага ў раку.

— Ды калі ты мяне ўжо сваім сябрам не лічыш, то яно і выходзіць, што я — твая каханая,— крычыць Таня з вады, смяецца і прыгаршчамі пырскае на Генку вадой.

З нізкіх хмар сыплецца дождж, шэрай слатой занавешвае ўсё наваколле: будынкі, машыны, постаці людзей — рэдкіх прахожых.

Дождж робіць усё вакол падобным да першых накідаў мастака: кароткімі няўпэўненымі штрышкамі малюе вуліцы, дамы.

Уся наша гоп-кампанія стаіць у падваротні, што выходзіць на галоўную вуліцу. Лічым: у каго колькі грошай, каб скінуцца і пайсці ў кафэ,— што яшчэ рабіць у такое надвор'е.

Паўз нас, насцярожана скасавурыўшыся, хуценька прабегла мажная жанчына.

— Зноў гэтыя падлеткі шастаюць тут па падваротнях, алкашы...— апынуўшыся на даволі вялікай адлегласці ад нас, нечакана ўпаўголасу сказала жанчына, але так, што мы пачулі. А пасля, ушчаміўшы галаву ў плечы, быццам хтосьці збіраўся яе стукнуць,— шмыганула за вугал дома.

— От гадзюка,— сплюнуў Генка,— я ж ёй зараз...

— Ой, Геначка, што ты, што ты...— Таня схапіла яго за рукаў: — Дурная баба, і толькі... Не будзь жа і ты такі самы.

— Дура і ёсць,— не супакойваўся Генка, праўда, ужо крыху пацішэлы.— Падлеткі... А ў міліцыю за знявагу рабочага чалавека! Якое яна мае права! Яшчэ і «алкашы»! — гэта ж каб пакрыўдзіць проста так, ні за што!

— Кінь ты, гляньце лепш,— паказаў рукой на вуліцу Валік.— Дождж амаль перастаў.

Мы глядзім на калюжыны. І сапраўды, амаль не капае. А вось у канцы вуліцы з'явіліся і нашыя знаёмыя, тыя двое. З'явіліся яны перад намі нечакана, нібы зматэрыялізаваліся з шэрай слаты. Ён — у чорным, добра выпрасаваным касцюме, у бліскучых чаравіках, высокі і прыгожы, гэткі сучасны Апалон. Яна — у лёгкай ружовай сукні, такая ж проставалосая, як заўсёды, але цяпер яшчэ больш загадкавая і прывабная. Толькі цяпер я зразумеў, чаму ўвесь час яна здавалася мне да некага падобнай. Так, яна была падобная да ўсіх жанчын адразу. Нейкае ўвасабленне жаноцкасці, адвечнага пачатку жыцця, пяшчоты. Пра яе нельга было сказаць: урач, інжынер, машыністка. Яна імя не мела. Яна была проста Жанчына. І крочыла па бліскучых плітках тратуара, нібы па шкляных прыступках казачнага палаца.

— Ідылія саплівая, як у сентыментальных раманах,— прабурчаў Генка, у якога быў сапсаваны настрой,— многа ўсмешак і ўсякага такога, а капнеш глыбей, а там нічога няма.

— Ты што,— Таня глянула на Генку з абурэннем.— Гэта ж так прыгожа, любата на людзей глядзець. У нас хлопцы не так сябе паводзяць. Што ж у гэтым добрага? Я, напрыклад, ніяк не магу ўявіць цябе з кветкамі ў руках...

На вуліцы пасля дажджу сталі з'яўляцца прахожыя: жанчыны з торбамі беглі ў магазіны, моладзь, як заўсёды, цягнулася к вечару да Цэнтральнага парку, дзе кожны дзень пад духавы аркестр былі танцы. Выбеглі пасля дажджу на вуліцу і хлапчукі.

З расчыненага акна на другім паверсе дома, каля якога мы стаялі, салодкі тэнар вяшчаў:

— «Мальчик резвый, кудрявый, влюбленный»...

Мы не адразу зразумелі, што здарылася ў нашым казачным палацы. А, ясна! На маставой хлапчукі гулялі ў мячык. Раптам мяч пляснуўся ў вялікую калюжыну пасярод вуліцы. На светлым прыполе сукні дзяўчыны з'явіліся вялікія ржавыя плямы, а хлопец быў запырсканы з ног да галавы. Ён кінуўся да падшыванцаў, схапіў першага, хто трапіў яму пад руку, за каўнер, нешта сказаў. Пасля даў добрага туза каленкам пад зад. Хлапчанё праляцела некалькі крокаў і, не ўтрымаўшыся, пляснулася ў тую самую калюжыну.

Дзяўчына засмяялася. Яна зусім не раззлавалася на хлапчукоў, не. Усё, што здарылася, было для яе даволі смешна. Якое нязграбнае хлапчанё! А сукенка што, сукенка адмыецца... Дзяўчына смяялася весела і бесклапотна, смех яе звінеў сотнямі пабітых шкельцаў.

Хлапчукі кінуліся ўроссып. А хлапчанё, якое сябры пакінулі, убачыла, што над ім яшчэ і смяюцца, і ўголас заплакала, размазваючы грязь па твары.

— А я мяч не кідаў,— румзаў малы.

Генка зрабіў крок наперад.

— Не звязвайся, не варта,— утрымаў яго за руку Валік.

— Ух, гад,— выдыхнуў скрозь зубы Генка.

— Не трэба, Геначка, не трэба, няхай жывуць,— з пагардай гаварыла Таня і трымала Генку за руку, заступаючы яму шлях, нібы імкнулася абараніць ад таго, што яны зараз бачылі.

Мы таксама заступілі Генку дарогу, бо добра ведалі, што будзе, пусці яго толькі...

«Няхай жывуць» — вырашылі і мы.

А тым часам былы Апалон нахіліўся і стаў дапамагаць дзяўчыне чысціць з прыполу гразь.

І тут мы ўсе ўбачылі на галаве яго лысіну. Маленькую, але перспектыўную.

«Смейся, пая-а-ац»,— працягваў старацца той жа тэнар з акна на другім паверсе.

— Над разбітым каханнем! — раптам што было сілы падцягнуў яму Генка. Потым суняўся.— А ну іх усіх, пойдзем лепш у кафэ, а то ці надвор'е неспрыяльнае, ці, можа, ціск скача, а можа, толькі і ўсяго, што плямы на сонцы,— нешта настрой ніяк не наладзім.

Калі мы выйшлі на вуліцу, нашай парачкі ўжо не было. Яна знікла, нібы растала, непрыкметна, як і з'явілася.

А хутка вяселле Генкі і Тані... Мы ўсе бегаем, дастаём кветкі. Зімой гэта нялёгкая справа. У падарунак надумалі купіць ім матацыкл. У нашым невялікім гарадку гэта цяпер самая значная падзея.

# Радасць

Зоюшка, «эолава арфа», «светлячок», «радасць» — так звалі яе ў інтэрнаце. На кожнай вечарынцы мы абавязкова прасілі яе: «Зоюшка, заспявай». І яе голас, прыгожы і гучны, заводзіў якраз тую песню, якую мы ўсе хацелі пачуць у той момант.

Калі Зоя спявала,— мы зусім не заўважалі, што яна даўгалыгая, кірпатая, што ў яе вялікаваты рот. Не, яна не была «брыдкім качанём», але і ў першых прыгажунях не хадзіла. Толькі калі Зойка спявала, столькі радасці і захаплення жыло ў яе голасе, у яе душы, якая нібыта свяцілася ў прамяністых шэрых вачах, што не было, мабыць, тады сярод нас болей прыгожага і шчаслівага чалавека, як яна. Прыгожага сваім захапленнем і шчасцем.

Зойку любілі ўсе. Яе душэўная абаяльнасць не магла не адбівацца на тых, хто быў побач.

— Дзевы, люстэрка мне! — Зойка збіраецца на спатканне.— Зноў мой даражэнькі будзе з паўгадзіны пад дажджом мокнуць. Баюся, урэшце не вытрымае, збяжыць...

Зоя хуценька прычэсваецца. Бадай, не так прычэсваецца, як мастацкі ўскалмачвае цёмныя густыя валасы.

Мы рады, калі чалавеку добра. Ды яшчэ такому чалавеку, як Зойка.

У Зойкі ёсць хлопец. Неяк, месяцы з два назад яна забягала з ім да нас у пакой. Вось

гэта хлопец! У дзяўчат ажно дыханне перахапіла. Высокі, прыгожы, з доўгімі валасамі, вочы — сінія, як мара. Зойка казала, што ён — артыст. Менавіта такім мы ўяўлялі сабе Зойкінага кавалера. Прыгожы, у меру самаўпэўнены, відны,— сапраўдны спадарожнік і абаронца.

Так, Зойка і праўда была шчаслівая. Шанцавала ён, мабыць, ва ўсім.

Быў ёй дадзены вялікі і шчыры талент — талент жыць і асвятляць усё навокал.

Мы ўсе спадзяёмся пагуляць на вяселлі Зойкі. Арганізуем усё —вышэйшы клас.

— Зоюшка, падкажы словы той песні, ну, памятаеш...

— Не, дзевы, ніякіх... Спазняюся зусім і, спазніўшыся, зноў спазняюся...

Зойка падскоквае на адной назе, другую ўстаўляе ў туфель, адначасова апранае паліто. Зашпільвае яго ўжо на вуліцы.

Глядзім з акна, бачым, як выбегла з пад'езда, спынілася, павярнула да нас вясёлы твар, махнула рукой, крыкнула: «Сёння ідзём у кіно!» — і ўскочыла ў аўтобус, які акурат прыпыніўся і расчыніў перад ёю дзверы.

Восеньскае лісце шастае пад нагамі, шамаціць увушшу, нашэптвае няясныя словы, поўныя салодкай патаемнай маркотнасці.

Зойка доўга бязмэтна блукае па горадзе, і гэтая гарачая, вільготная, як марское паветра, маркота запаўняе яе сэрца.

На горад апускаецца вечар, спачатку цёмнаблакітны, пасля гусцее яшчэ больш, набірае фарбаў; вострыя ўсплёскі машынных фар нібы бязгучна ўскрыкваюць, праменяцца размытымі вільгаццю зрэнкамі.

Зойка на апошні траяк купляе сабе кветкі

ў старой, якая штодзённа прадае іх у падземным пераходзе пад плошчай Коласа. Старая пазнае Зойку, бо тая за апошні месяц ужо некалькі разоў купляла ў яе вяргіні.

На рэшту Зойка купляе сабе білет у кіно. Сядзіць амаль што адна на пустым радзе. У маленькім зале ўсяго некалькі закаханых парачак. І ў разгар самых што ні на ёсць сур'ёзных вытворчых размоў на экране з залы чуваць то няўпэўненыя смяшкі, то гукі пацалункаў.

Кветкі Зойка паставіць на агульны абедзенны стол у бутэльцы з-пад малака. «Во кавалер у Зойкі,— будуць перашэптвацца між сабой дзяўчаты.— Цяпер жа не кожны здагадаецца дзяўчыне на спатканні паднесці кветкі».

А Зойка будзе маўчаць і ціха ўсміхацца сабе. Усё маркотнае і неістотнае міне, развеецца. Будзе ўсё ў жыцці: і кветкі, і шчасце, і радасць. Няможна, каб не было. Ненатуральна. Толькі радасць сваю вам аддам, сябры. Смутак і маркота — гэта маё, кроўнае. Не чапайце.

## Воўка і іншыя...

Сонца схавалася за цяжкімі цёмнымі хмарамі. Рэзкі вецер разносіў па апусцелым пляжы шматкі газет. «На моры — шторм 5 балаў. Купацца строга забаронена» — напісана белай крэйдай на адным баку вялікага фанернага шчыта, павернутага да санаторнага пляжа. На другім яго баку намаляваны чэрап з касцямі — канешне ж, Воўкава работа.

Вялізныя хвалі з працяглым стогнам кідаюцца на бераг, шпурляючы ва ўсе бакі жарству, дробныя каменьчыкі, а пасля, сцішыўшыся, крадуцца далей на пляж, заліваючы пляжнікаў, якія, страціўшы пільнасць, тамсям мірна коўзаюцца па беразе, спадзеючыся на няпэўнае сонейка.

«Так ім і трэба»,— падумаў Воўка, назіраючы, як курортнікі выцягвалі з вады торбы, посцілкі і іншыя дробныя рэчы.

Усіх людзей Воўка падзяляў на працоўных і курортнікаў. Апошнія амаль круглы год, нічога не робячы, ляжалі на беразе Чорнага мора.

Воўка лічыў, што гэта ўсё людзі, якім няма чаго рабіць. Яго ж бацькі, напрыклад, рэдка хадзілі на тое Чорнае мора, а ў час адпачынку ездзілі да сваякоў у Маскву ці ў Талін, заўсёды прывозілі адтуль шмат падарункаў, кніжак, расказвалі аб тым, што пабачылі па дарозе.

Вось бы так паездзіць па краіне, убачыць вялікія гарады! А што тое Чорнае мора! Што ў ім такога асаблівага, калі бачыш яго штодня.

...А над морам кружылі, трывожна галасілі чайкі.

Хвалі, наляцеўшы на мол, узляталі ўгару доўгімі шэрымі пасмамі.

Воўка любіў стаяць у шторм на моле. Чорныя, нізкія хмары марудзілі над морам, здавалася, гэта чорныя ветразі караблёў, а ён — стары і мудры капітан, стаіць на мастку флагмана і вядзе сваю піратскую флатылію ў вялікі, незнаёмы акіян.

Зараз Воўка не пайшоў на мол. Адшпурнуў нагой каменьчык, сеў на халодную гальку. «Здраднік»,— шаптаў скрозь зубы. Так брата ён назваў упершыню. «У цябе міравы брат,— сказаў яму неяк яго сябра Жора.— Хоць і студэнт, але ж не задаецца». «Але ж, міравы»,— са злосцю падумаў Воўка. Стаў сцягваць рубашку. Яна зачапілася гузікам за нешта, і Воўка са злосцю рвануў яе. Гузік адляцеў.

Пра тое, што сёння здарылася, Воўка не мог думаць без абурэння. Сашка, старэйшы брат, лепшы сябра, якога аднагалосна прынялі ў экіпаж піратаў, які чытаў ім «Востраў скарбаў» і кляўся імем Флінта — сёння здрадзіў ім.

Раніцою, калі ўвесь экіпаж сядзеў на гары іхняга дома і пісаў «чорную метку» Пецьку з суседняга двара, да іх увайшоў брат з нейкай рыжай даўгалыгай дзяўчынай.

Піраты аслупянелі. Пра іхняе схові́шча не павінна была ведаць аніводная чужая душа. І вось зараз Воўкаў брат прыцягнуў сюды гэтую дзяўчыну. Дзяўчо!!! Гэтага ўжо ніхто з іх не мог ні зразумець, ні даравáць Сашку.

— Вось яны, нашы піраты, Лена,— вясё-

лым голасам, нібы нічога не здарылася, сказаў Сашка. Дзяўчына засмяялася.

— Вітаю, флібусцьеры! Збіраецеся акіяны адольваць? А плаваць умееце?

— А як жа ж,— пакрыўджана прамармытаў Алёшка.

Воўка пагардліва маўчаў. «Мянушкі тут усялякія выдумляе. А сама, думае, лепшая... І вусны памадай пафарбаваныя. Курортніца, адным словам».

— Ваш дах, мабыць, у дождж працякае,— дзяўчына глянула ўгару.

Хлопцы маўчалі.

— Ну, піраты,— сказаў нарэшце Сашка,— бачу, сёння вы не ў гуморы. Мабыць, перашкаджаем вам. Калі што не так — прабачце.

— Бывайце,— махнула рукой і дзяўчына.

Стукнулі дашчаныя дзверы. Хлопцы моўчкі запытальна глядзелі на Воўку.

— Я сёння пагавару з ім,— няўпэўнена сказаў Воўка. Сказаў таму, што не ведаў, што сказаць яшчэ.

— А ты таксама добрая цаца,— з нечаканым папрокам кінуў яму Жора.

— А што я, што я,— усхапіўся Воўка.— Я што ж, за яго павінен адказваць, ці што?

— Ціха, змоўкніце,— закрычаў бялявы кірпаты Алёшка па мянушцы «Каланчышка» за свой маленькі рост.— Схованка наша, канешне, прыйдзецца перанесці ў іншае месца — і ўсяго дзялоў. Дык нашто так хвалявацца?

Пасля таго як усе разышліся, Каланчышка падышоў да Воўкі.

— Слухай, Цыган, глупства ўсё гэта. Ты, гэта самае, плюнь на ўсё. Хочаш, навучу цябе чарвякоў марскім вузлом завязваць?

«Каланчышка — адзіны сябар застаўся,— падумаў Воўка.— Схованка, безумоўна, можна

перанесці ў іншае месца, але як быць з братам?»

Сёння Воўка ўбачыў яго дарослым, далёкім ад іх хлапечых спраў чалавекам, які напляваў на іхнія законы і клятвы. Воўка не любіў салідных людзей, бо ніколі яшчэ не ўдавалася яму знайсці з імі агульнай мовы.

«Я пагавару з ім сёння»,— Воўка ўпарта стукнуў кулаком па гальцы.

Неба над морам ля самага гарызонта пасвятлела.

«Дождж ідзе. Можа, паспею да яго выкупацца?» Воўка хуценька распрануўся і стаў на беразе ў нерашучасці.

Вецер далёка адносіў пыркі хваляў, якія разбіваліся аб бераг, і яны сцюдзёнымі іголкамі ўпіваліся ў скуру хлопчыка. У такі шторм Воўка яшчэ ніколі не плаваў.

«Пірат я ці не пірат?» Ён сціснуў кулакі і пайшоў да мора.

Вялізная хваля навісла над берагам. Воўкава чорная ад загару постаць здавалася намаляванай на вялізарнай зялёнай паўпразрыстай хвалі. Хваля тая разбілася каля ног хлопчыка. І тады ён пераскочыў праз яе некалькімі крокамі і кінуўся галавой проста ў цёмную сцяну вады, што вырасла перад ім. Праплыў некалькі метраў пад вадой, удыхнуў паветра і паплыў сажонкамі. Воўка адчуваў, што некуды ўзлятае і правальваецца. Ён закрычаў ад незразумелай радасці. Ён мацнейшы за мора! Воўка перавярнуўся на спіну. Раптам адчуў, што ляціць у нейкую бездань. У грудзях яго пахаладзела. Наступная хваля падняла яго ўгару, і Воўка зноў, заміраючы ад захаплення, ляцеў уніз.

І тут над ім навісла нешта страшэннае, чорнае, з белым грэбенем наверсе, кінулася на

яго ўсёй цяжкай масай, перавярнула і недадольна пацягнула ўніз. Калі Воўка вынырнуў, ён убачыў перад сабой яшчэ адзін «барашак». Ён нырнуў пад гэтую хвалю, бо ведаў, калі яна захлісне яго, то пацягне зноў уніз. Нырнуў, не паспеўшы як след удыхнуць паветра. Частыя хвалі адна за адной накрывалі хлопчыка, ён перастаў арыентавацца, куды плыве, ці далёка да берага. «Час вяртацца,— ліхаманкава думаў ён.— Такі штармяга, што з ім лепей не звязвацца». Хлопчык павярнуў да берага, палахліва паглядаючы назад. Стома скавала кожны яго мускул. Хвалі даганялі яго, падымалі на грэбень, тады Воўка стараўся з усіх сіл працаваць рукамі і нагамі, каб утрымацца на грэбені і на ім даплыць да берага. Але грэбень выслізваў з-пад яго, і наступная хваля захліствала Воўку. Ён задыхаўся, адплёўваўся, стукаў з усёй сілы рукамі па вадзе. Пасля адчуў, што рукі яго не слухаюцца. Вада, усюды вада. Яна льецца ў рот, нос, у вушы, не дае ўздыхнуць. А бераг зусім не набліжаўся. Хвалі біліся аб бераг, адкатваліся назад і цягнулі Воўку зноў у мора.

Нейкая вялізная хваля накрыла Воўку з галавой, перавярнула, пацягнула ўніз. Воўка моцна ўдарыўся аб дно і адчуў, што яно паўзе пад яго каленямі.

Вада схлынула, і Воўка пачуў, што стаіць на цвёрдым. Перад вачыма плыло шэра-чырвонае марыва.

Наступная хваля шпурнула Воўку на бераг. Ён прапоўз некалькі крокаў на каленках і пачуў, як нехта падбег да яго і падняў на рукі.

— Ты звар'яцеў,— пачуў Сашкаў голас.— Ніводзін дурань зараз у мора не лезе. Мы

прыйшлі на пляж, бачым — тваe рэчы... А самога нідзе не відно...

— Пусці,— прамармытаў Воўка, але не зрабіў ніводнага руху, каб вызваліцца з Сашкавых рук.

Брат паставіў яго на ногі:

— Пачакай, вось усё маці раскажу...

А Воўка не чуў, што гаворыць брат. Ён адчуваў толькі, як калоціцца ў яго сэрца, як дрыжаць каленкі і баліць кожны мускул.

— Ну што ты, Саша,— пачуў голас дзяўчыны, той самай, што прыходзіла з братам днём да іх у сховішча,— бачыш жа, як яму здорава дасталася... Эх ты, пірат...

Яна пагладзіла яго па кудлатай чорнай галаве. Яе рукі пахлі сонцам і былі цёплымі, як у маці.

І тут Воўка адчуў, што з ім адбываецца нешта жахлівае: па яго шчаках мімаволі павольна папаўзлі слёзы. Ён учапіўся за рукі дзяўчыны, уткнуўся ў іх тварам і зароў на ўвесь голас...

8 Зак. 1380

# Важная справа Агнэсы Пятроўны

Як заўсёды яна прыхапіла з сабой на прагулку парасон. Так, на ўсякі выпадак, хоць праз рэдкія пашматаныя воблакі прасвечвала няшчодрае лістападаўскае сонейка. Толькі надвор'е цяпер стала няўстойлівае: невядома, што будзе праз пяць мінут — ці дождж, ці мокры снег, што адразу растае на каўняры, рукаве, а можа, нечакана сонейка выгляне. Ды і за апошнюю восень Агнэса Пятроўна так прызвычаілася да сваёй трысціны-парасона, што яна стала нібы працягам яе рукі. На гэтую трысціну можна было абапірацца, варушыць ёю незразумелыя рэчы на зямлі, праганяць сабак.

Але сёння бляклае сонейка пакуль што трывала. З пад'ездаў высыпала, здавалася, усё насельніцтва іх вялікага старога дома. Як бы даўно стаялі перад дзвярыма напагатове.

Агнэса Пятроўна прашэствавала паўз суседзяў, зрэдку вітаючыся.

— Ганарыстая бабка,— казалі ёй услед суседкі.

— Пані генеральша,—ківалі галовамі другія.

Агнэса Пятроўна не была пані генеральшай і нават ніколі не была замужам. І таму не звяртала ўвагі на гэты шэпт, прынамсі, рабіла выгляд, што не звяртае.

Высокая, хударлявая, у дзесяткі разоў перавязанай, але ад гэтага не менш элегантнай кофце, яна мінала ўсіх дваровых тубыльцаў, нібы яе недзе чакала надзвычай важная і адказная справа, прынамсі, прыём у пасольстве.

— Апранаецца ж...— зноў з зайздрасцю шапталі суседкі, не ведаючы, што на свае сорак пяць рублёў пенсіі Агнэса Пятроўна выраблае сапраўды дзівосы з дапамогай часопісаў мод, старых суксенак і швейнай машынкі «Зінгер», што засталася яшчэ ад маці, не кажучы ўжо аб вязанні, якім Агнэса Пятроўна часам трошкі падзарабляла. Так, шалі розныя, шапачкі на заказ. Часу вольнага, часу ліпняга, цішыні, якая стаяла ў душы, Агнэса Пятроўна баялася. Можа, таму і купіла ў камісіёнцы стары прыёмнічак.

Аднойчы вечарам па нейкай радыёстанцыі злавіла перадачу: «Шукаем блізкіх». Дыктар павольі выклікаў імёны: «Сініцкая Марыя Пятроўна шукае свайго мужа Сініцкага Васіля Іванавіча. Апошні раз бачыла ў чэрвені 1941 года перад эвакуацыяй...»

Агнэса Пятроўна машынальна вязала кофту, слухала дыктара, думала аб тым, што вось колькі год прайшло і, можа, гэтыя людзі, якіх яшчэ шукалі іх блізкія, даўно ўжо зрабіліся прахам, а іх яшчэ спадзяюцца пабачыць, вераць, што жывыя, чакаюць. Дзіўная істота — чалавек.

Яна слухала перадачу далей, і раптам здалося, што пачула знаёмае імя. А голас дыктара працягваў далей: «...Віктар Герасімавіч, 1915 года нараджэння...» Нейкія званочкі забіліся ў памяці. Ці не Зарудаў сказалі? Шкада, не дачула.

Дыктар чытаў далей: «Адрас яго сястры: Магаданская вобласць, пасёлак Спакойны...»

Агнэса Пятроўна спрабавала ўспомніць. Віця Зарудаў... Ці не той гэта прыгожы старшакласнік, што часта падвозіў яе, маленькую суседку, на веласіпедзе да школы, балазе па дарозе. Але, таго так і звалі — Віцька. А пасля, калі яна ўжо была ў выпускным класе, закідваў у прыцемку ў акно яе дома вялізныя бэзавыя букеты. Але ні на кветкі, ні на свайго паклонніка, як, бадай, і на астатніх хлопцаў, не звяртала тады Агнэшка надта многа ўвагі.

Нешта цёплае, сонечнае кранула сэрца Агнэсы Пятроўны, калі яна ўспомніла вуліцу свайго юнацтва, сваіх сяброў перадваенных, суседзяў, сваю маладосць. Гэта быў той самы штуршок, з якога ўсё і пачалося...

Калі Агнэса Пятроўна мінула суседзяў і выйшла са двара, ёй уздыхнулася трохі лягчэй. Выгляд-то яна рабіла адпаведны, але вось праходзіць штодня як скрозь строй — было не самым лепшым варыянтам з усіх варыянтаў сусіснавання. Але што зробіш. Сяброў у яе сапраўды цяпер засталося нямнога. Новымі разжывацца ў такім узросце ўжо цяжкавата.

Агнэса Пятроўна і сёння, як і раней, скіравала ў гарадскі парк на парослую магутнымі ліпамі алею. Нікога з яе спадарожнікаў па прагулках пакуль яшчэ не было. Ні Андрэя Віктаравіча, адстаўнога палкоўніка з яго хворай жонкай, якую ён прагульваў на інваліднай калясцы, ні Варвары Ягораўны з яе вечнымі медыцынскімі парадамі (наслухаешся — адразу пачынае нешта балець), ні Антаніны Сяргееўны з яе ахамі-вохамі і трыма ўнукамі.

Яе старыя сяброўкі нават трошкі раўнавалі Агнэсу Пятроўну да гэтых новых знаёмстваў у парку, хоць яна са смехам запэўняла іх: «Дзяўчаткі, ні на каго вас не прамяняю, не бярыце да галавы». Але яны ўсё кпілі за тра-

дыцыйным вячэрнім прэферансам з гэтага яе «свецкага жыцця» і «ліпавых знаёмстваў».

Але і гэта быў кавалак жыцця Агнэсы Пятроўны, як і гадзіны сам-насам з дрэвамі, кустамі, як і размовы з бляклымі кветкамі на хатнім падаконніку. Кветак у кватэры Агнэсы Пятроўны было нямнога, але яна іх любіла, як жывыя істоты, дзялілася з імі сваімі клопатамі, з сапраўдным болем шкадавала іх, бо кватэра ў яе была не надта сонечная, паўночны захад.

Па шырокай алейцы, добра прамытай дождыкам, прайшлі трое маладых вясёлых людзей — дзве дзяўчыны і хлопец пасярэдзіне, які трымаў іх за таліі. Яны адначасова глянулі на самотную жанчыну, пашапталіся аб нечым і дружна ўголас рассмяяліся. Агнэса зразумела, што гэта на яе конт. Сапраўды, адна з дзяўчат, не звяртаючы ўвагі, пачуюць яе ці не, сказала: «Архаізм, абсалютная бабка Шапакляк». А Агнэса Пятроўна глядзела ім услед без крыўды, нават з цікавасцю. Такія яны незнаёмыя, далёкія і чужыя, нібыта з другога жыцця, нейкія марсіянскія дзеці ў дарослых вопратках.

Пасля той перадачы па радыё, якая так растрывожыла памяць, Агнэса Пятроўна пацягнулася да старых альбомаў, пісем. Яна нават на нейкі час адышла ад сваіх знаёмых, ад звычайных візітаў, прагулак у парку. Збілася са звычайнага ладу — замкнулася ў кватэры. Не думала раней ніколі, што ў яе будзе столькі ўсяго ў памяці. Сапраўды, што цяпер звязвала яе з далёкім ужо, даваенным часам? З тымі людзьмі, якіх яна бачыла амаль сорак год назад? Такі лёс здарыўся, што засталася яна на старасці год адна. Двое братоў загінулі ў вайну, бацькі памерлі ўжо ў пасляваен-

ныя гады. Замуж перад вайной яна так і не выйшла, дзяцей не ўзгадавала.

І вось цяпер, гэтымі восеньскімі вечарамі, знянацку нахлынулі на яе такія нечаканыя, такія цёплыя, мілыя ўспаміны дзяцінства і юнацтва. Заплюшчыць вочы — і вось вясна, белыя ад квецені дрэвы, вось яна сама, Агнэшка, у белай сукенцы, у жоўтым вяночку ідзе па Грушаўцы, што зарасла садамі, бэзам, язмінам пад самыя дахі. Вось яна на школьнай вечарынцы п'яная ад маладосці, вясны танцуе фантастычны танец пад агульныя воплескі. Вось яе першы пацалунак з Толікам, суседам, цёплым летнім вечарам. Чакайце, ці не Віця то быў, Віця Зарудаў? Бог яго ведае, ці не ўсё роўна цяпер. Але ж было: і маладосць, і вясна, і невыказнае хараство жыцця, калі ўсё наперадзе і нават самае немагчымае здаецца магчымым. Яна цяпер надзвычай выразна ўспамінала чамусьці самыя найдрабнейшыя дэталі: выразы твараў, жэсты, адзенне, вочы, смех. Сцэнкі гэтыя неадвязна ўзнікалі перад вачыма, гучалі ў вушах словамі, галасамі, гукамі. Гэтыя дробныя дэталі, здавалася, мелі цяпер для яе нейкае асаблівае значэнне. Цікава, што яны ўспамінаюцца больш падрабязна і выразна, чым тое, што было з ёю год, два назад.

«Здзяцінела»,— пасміхалася яна з сябе ў душы. Але як памаладзела яе душа ад гэтых успамінаў. Захапленне планерным спортам, вершы ля камсамольскага вогнішча, ліпнёвыя духмяныя сады, каханне да маладога камандзіра ў новенькай гімнасцёрцы, якога бачыла апошні раз за тры дні да вайны і больш ніколі не бачыла,— было. Гэта ўсё яе, неадлучнае. І цяпер не здавалася жыццё такім пустым, нікому не патрэбным. У гэтыя восеньскія дні ў

душы яе настала нечаканая, такая несвоечасовая адліга. Хацелася жыць, радавацца звычайным рэчам: што ідзе рэдкі дождж, што салодкі чай, што цудоўныя зоркі на цёмным небе. Былі з ёю як жывыя тыя, каго даўно ўжо не было на свеце.

Аня Вятліцкая... Яе застрэлілі пад Варшавай у канцы вайны. Яна была рэгуліроўшчыцай.

Косця Балашоў... Загінуў на Украіне ў партызанах.

Васіль Клімчык... Стаў палярным лётчыкам пад самы канец вайны. Збілі над Нарвегіяй...

Зенон Семеняка, па мянушцы «Заяц», быў расстраляны немцамі як партызанскі сувязны...

Гэта толькі некаторыя, пра якіх хоць нешта ведала Агнэса. Астатніх сяброў-таварышаў параскідала па свеце вайна, і след іхні згубіўся.

Дзеці гарадской акраіны... З'яднаныя ў адно непарыўнае, запаветнае далёкім дзяцінствам і разлучаныя вайной. Гэтае праклятае слова. Нейкі амаль магічны сэнс мае яно нават цяпер, калі гучыць толькі словам, не выбухам, не стрэлам... Прагучала — і скончылася маладосць, скончылася, здаецца, цэлае жыццё на гэтым...

І цяпер Агнэсе Пятроўне часамі ў звычайных будзённых гуках трызніліся далёкія галасы: «Агнэш-ш-шка, Агнэш-ш-ш...», нібы хто знаёмы шэптам клікаў яе здалёк; гукі вясёлых даваенных духавых аркестраў, што па выхадных і святахігралі ў гарадскім парку, палкія заклікі вулічных рэпрадуктараў...

Вось зноў гэты бліскучы радасны рытм,— усё гучней стары даваенны марш. Агнэса Пятроўна паднялася з лаўкі, зацiснула вушы рукамі. Што за вар'яцтва! Ужо зусім побач гучыць

бравурны марш. Агнэса Пятроўна пайшла, амаль пабегла па алейцы дробным няроўным крокам, як бы імкнулася збегчы ад гукаў. Раптам убачыла: па вуліцы мерным крокам ідзе міліцэйскі аркестр. Бухаў, пульсуючы ў скронях, бубен. Агнэса Пятроўна з палёгкай уздыхнула, і разам з тым ёй стала на хвілінку шкада, што гэта не адтуль, не з тае далёкае пары гучала музыка. Аркестр быў такі сённяшні, такі малады, бліпчаў новенькімі трубамі.

Лісце шамацела пад нагамі, нашэптвала: «Куды ідзеш-ш-ш, Агнэш-ш-ш...» Але цяпер праяснілася і выразна акрэслілася думка: тое наша мінулае, што наведвае нас сёння,— неабходна нам заўсёды, яно кліча, яго можна нечакана напаткаць ці вярнуць свядома. А і сапраўды, чаму б проста не зазірнуць на сваю вуліцу? Гэта ж не так далёка, усяго ў прыпынках дзесяці ад яе дома. Блытаныя вулічкі Грушаўкі... Горад амаль выцясніў вас са сваіх успамінаў. Але ж хоць нешта павінна было абавязкова застацца. Дом, дзе яна нарадзілася, суседнія дамы, дзе жылі яе сябры, вузкія пясчаныя дворыкі, парослыя кветкамі, веранды, абвітыя гарошкам. Можа захаваўся той кавалак, той астравок дзяцінства?.. За столькі год Агнэса Пятроўна пабывала чорт яго ведае дзе, на краі свету, але сюды, за некалькі прыпынкаў, не прывяла яе дарога за апошнія амаль сорак год.

Яна даехала туды за паўгадзіны.

Тут усё здавалася незнаёмым. Толькі назва вуліцы і брук той самы. Але дзіўна не сумяшчаецца вобраз мінулага з гэтымі ўрослымі ў зямлю хацінкамі, аблыселымі, без кветак, дворыкамі. У адным месцы яна прыпынілася. Здалося, дзесьці тут... Ішла павольна, зазірала ў вокны. Там-сям у людзей засталіся старамодныя даваенныя рэчы: то вялікі круглы стол з

плюшавым абрусам, пасярод пакоя, то абажуры з кутасамі, вялізныя нікеліраваныя ложкі з горкамі падушачак і сурвэтак (цэлае мастацтва!). Рэшткі былой Грушаўкі старыліся разам з яе жыхарамі. Вось тут, здаецца, павінен быць яе дворык, драўляны дом...

Хаткі стаялі аднолькавыя, маленькія, перакошаныя, там-сям фарба аблупілася, там вось аканіцы кавіслі на адным цвіку, усё чужое, незнаёмае...

На вуліцы на ўслончыку сядзела, прытуліўшыся да сцяны сваёй хаткі, старэнькая, як свет, бабулька. Выцвілыя вочы яе колеру восеньскага неба ўважліва сачылі за Агнэсай. Тая падышла бліжэй. Нешта знаёмае, блізкае ўбачылася ў гэтым добрым бабульчыным твары. Няўжо гэта яе старая суседка, баба Груня? Усешкадавацелька, што заўсёды абмывала іхнія пабітыя насы, прыкладала трыпутнік да іх вечна падрапаных каленак?

— Баба Груня,— паклікала яе Агнэса,— баба Груня, вы мяне не пазнаеце?

Бабулька глянула Агнэсе ў твар аднекуль здалёк, усміхнулася як старой знаёмай і часта-часта заківала галавой.

Дзяўчынка са скакалкай, што ўвесь час круцілася пад нагамі і зазірала Агнэсе ў твар, сказала:

— Гэта не баба Груня, а баба Ніна.

І дадала:

— Яна не чуе. І нікога не пазнае.

Агнэса з жалем глядзела на добры старэчы твар і са смуткам думала, што і сапраўды баба Груня і тады ўжо была старая, яшчэ перад вайной...

У роздуме, бязмэтна адышлася на некалькі крокаў, пасля разгублена спынілася. Яна чу-

жая тут, у гэтай краіне яе маленства. Не пазнаюць яе вуліцы, людзі...

Паўнаватая саракагадовая жанчына абмінула Агнэсу Пятроўну, спынілася ля брамкі, змерала незнаёмую візіцёрку позіркам з галавы да ног.

— Вы да каго? — спыталася грубавата і нядобразычліва.

— Я? — разгубілася Агнэса Пятроўна.— Мне... дом нумар пяць,— выпаліла наўгад.

— Ну, гэта і ёсць нумар пяць,— з падазронасцю працягвала гутарку жанчына.

Агнэса Пятроўна азірнулася, нібы ў пошуках паратунку.

— Прабачце, мне здаецца, гэта на другой вуліцы...

— Я і гляджу,— неакрэслена паведаміла жанчына.

Агнэса Пятроўна хуценька пайшла адсюль. І доўга яшчэ ніяк не магла выблытацца з гэтага лабірынту вулак, тупічкоў, завулкаў, на якія з усіх бакоў наступаў шумлівы горад, а да яго шырокіх вуліц і праспектаў з гэтага зялёнага астраўка было вельмі далёка, была дарога ў цэлае жыццё...

У хуткім часе пасля гэтага падарожжа Агнэса Пятроўна ўзяла сабе ката. Ён быў прыгожы і сакраментальна чорны. Толькі дзве пярэднія лапкі — нібы ў белых шкарпэтачках, ды пад горлам — белая плямка. Гэта быў малады дабрадушны і цікаўны коцік, які ўсё рваўся то за дзверы, то пахадзіць па карнізах. Суседзі фыркалі на яго, стараліся час ад часу піхнуць нагой, аблаяць яго (больш голасна), а заадно і Агнэсу Пятроўну (трошкі цішэй). Калі коцік згінуў, то Агнэса Пятроўна доўга не знаходзіла сабе месца. Бо коцік Чарныш быў першай істо-

тай, якая залежала ад Агнэсы, і таму яна адчувала з памножанай сілай усю гэтую адказнасць за яго, і знікненне коціка цяжарам клалася на яе душу. Яна абышла суседзяў. Канешне ж, ніхто нічога не ведаў (ці не хацеў сказаць).

Агнэса пасля гэтага выпадку з тыдзень хварэла. А пасля завітала да яе ў госці суседская дзяўчынка Танечка. Апусціўшы вочы, спыталася, як Агнэса сябе адчувае, і... падарыла мышку. Белую, з ружовымі вочкамі, з магазіна «Прырода». Агнэса Пятроўна даўно здагадвалася, што суседка, маці Танечкі, мае нейкае дачыненне да знікнення Чарныша, надта ўжо яна яго не любіла, кідалася ўбок і хрысцілася, калі бачыла коціка перад сабою. Добра хоць, што дзяўчынка не ў маці... Добра-то добра, а вось навошта Агнэсе тая мышка? Яна ў душы пасміхалася з сябе, і гэта была сумная ўсмешка скрозь слёзы: дарослы чалавек, а гуляе ў кошкі-мышкі.

Ды і мышка неўзабаве знікла. Прагрызла дзірку ў плінтусе і збегла паляпшаць пароду шэрых хатніх мышэй.

У раённым аддзяленні міліцыі Агнэса Пятроўна з'явілася першы раз позняй восенню. У аддзеле, які займаўся пошукамі родных і блізкіх, Агнэсу Пятроўну прыкмецілі і выдзелілі сярод іншых. Яна з'явілася ў аддзяленні ў воўчай, пабітай моллю гаржэтцы, са старамоднай трысцінай-парасонам. Шукала яна не сваяка, не брата ці мужа, шукала яна... сябра. Так, сябра дзяцінства.

— Разумееце,— станоўча тлумачыла ёй маладая светлавалосая міліцыянерка,— наш аддзел проста не мае магчымасцей займацца пошукамі розных знаёмых.

— Прабачце,— упэўнена запярэчыла ёй

Агнэса Пятроўна,— наколькі я ведаю, вы павінны (яна інтанацыяй выразна выдзеліла слова «павінны») займацца пошукамі родных і блізкіх?

— Пра што я вам і кажу. А якое дачыненне мае гэты чалавек да вас? (Дзяўчына была з упартых.)

— Ну вось я і прашу вас адшукаць блізкага мне чалавека. (Агнэса была яшчэ больш упартай.)

— Пад блізкімі людзьмі мы разумеем братоў, сясцёр, мужоў, жонак.

— А мы не паспелі перад вайной распісацца. А пасля — самі разумееце...— У Агнэсы Пятроўны на ўсё быў адказ.

Яна гаварыла прыглушана-інтымным тонам, панізіўшы голас, быццам баялася, што яе можа пачуць нехта староннi. Гаварыла з намёкамі, мнагазначна («Вы ж разумееце, бываюць абставіны...») і г. д. Гэтыя намёкі і мнагазначнасць павінны былі ёй замяніць тыя дакументы, якіх у яе акурат не было.

— Так што пішыце: жаніх...

Маладзенькі міліцыянерык, што сядзеў за суседнім столікам, паспрабаваў пажартаваць:

— Эх, бабуля, ды што там далёка шукаць! Была б ахвота, мы вам хоць сёння якога тутэйшага знойдзем.

Агнэса Пятроўна выпрасталася. Глянула на яго зверху ўніз, узняўшы адно брыво:

— Малады чалавек...— гэта прагучала надта ўрачыста, і міліцыянерык адразу насцярожыўся,— калі жанчыне трошкі... за пяцьдзесят,— тут яна дазволіла сабе літасцівую ўсмешку,— не варта ж зусім знішчыць чалавека,— гэта не значыць, што вы можаце ўжываць да яе гэты зварот.

Міліцыянер прыціх і здрабнеў.

— Прабачце, я не думаў...

— А шкада,— паставіла кропку Агнэса.

На міліцыянера яна не пакрыўдзілася, яе гэта нават ні трохі не зачапіла, проста яна адчувала сябе тут надта няўпэўнена і не магла прадбачыць, чым скончыцца яе візіт, і таму імкнулася, каб як мага больш упэўнена гучаў яе голас.

— Калі ў цябе на свеце не засталося больш нікога з родных і блізкіх на старасці год, то наўрад ці будзеш зважаць на дробныя нязначныя фармальнасці.

Міліцыянер раскрыў рот, хацеў нешта сказаць, а пасля ўспомніў, як Агнэса Пятроўна нядаўна асадзіла яго.

Жанчына, схіліўшы галаву на плячо, моўчкі прыглядалася да Агнэсы, быццам разважала над яе словамі...

З таго часу адкуль толькі не прыходзілі да Агнэсы Пятроўны пісьмы. У большасці з іх адно не было... не лічыцца... не пражывае... не зарэгістраваны. І ўсё ж знайшла яна і некаторых сяброў сваёй юнацкай пары, некалькі знаёмых і нават незнаёмых людзей, што хацелі б з ёю перапісвацца. Можа, таксама самотная восень прымушала іх прыслухоўвацца да чужой бяды-гаркоты. Ды і хто тут разбярэ: Агнэса Пятроўна знайшла іх ці яны — яе, праз гэтыя яе пошукі...

Наколькі раней было лішняга часу ў Агнэсы Пятроўны, настолькі цяпер не ставала яго. Прыходзілася і выязджаць у другія гарады для сустрэч. З грашыма зусім стала нявыкрутка. Паездкі, паштоўкі, заказныя бандэролі... Агнэса Пятроўна стала плесці для мастацкага салона вырабы з простых нітак: сурвэткі, дарожкі (хадавы тавар, ды і няблага плацяць).

Мінула адна зіма, другая...

Агнэса Пятроўна па-ранейшаму часта наведвалася ў аддзел па пошуках. Зімой тут жыццё як бы замірала. Народу было менш, нібы бабулі і дзядкі зімой менш прагнулі пабачыць сваіх далёкіх сваякоў, ад якіх столькі год ні слыху ні дыху. Можа, проста зімой цяжэй было ўбіцца ў перапоўнены транспарт, цяжэй падняцца, адарвацца ад цяпла, наседжанага месца?..

Дарога, якую яна добра вывучыла да каменьчыка, да травінкі, цяпер была запарошана бялюткім сняжком. Як звярнуць з вуліцы ў двор, то гэта — першы пад'езд. Летам тут праз чахлы газон бегла сцяжынка наўскос — людзі пратапталі для скарачэння шляху. Цяпер сцяжынку прысыпала, газон стаяў некрануты. Толькі Агнэса Пятроўна па прывычцы, машынальна перасекла газон, пакідаючы на неглыбокім снезе дробныя сляды, здалёк так падобныя да птушыных.

Яна і сама ўжо амаль паверыла ў існаванне чалавека, якога так упарта шукала...

# Паралельныя прамыя

Высокая маладая жанчына павольна ішла па алейцы парку, што ляжыць над Свіслаччу, каціла перад сабой блакітную дзіцячую каляску.

Жанчыну гэтую можна было бачыць тут штодня ў адзін і той жа час — пасля абеду, недзе каля другой гадзіны.

Яна была прыгожая і лёгкая, нягледзячы на тое, што ёй было ўжо добра за трыццаць. Апранутая сціпла, з густам. І было ў ёй яшчэ нешта няўлоўнае, нейкі агеньчык у вачах ці, можа, асаблівая хада,— цяжка акрэсліць, нешта, што прымушала азірацца ёй услед нават жанчын.

А па суседняй паралельнай алейцы, прыблізна ў той жа час, хадзіў, таксама каціў перад сабой каляску, высокі, плячысты мужчына гадоў пад сорак. На цёмных валасах яго тонкім павуціннем ляжала сівізна.

І вось аднойчы... Аднойчы дарогі іх сышліся.

Як сыходзяцца паралельныя прамыя — адзін бог ведае як, толькі гэтыя неяк сышліся...

Жанчына сцішыла крокі, яе хада стала нейкая няўпэўненая.

Мужчына ішоў, таксама як сляпы, выцягнуўшы далёка ўперад рукі, і здавалася, што не ён коціць каляску, а каляска цягне яго наперад, нібы сляпога. Параўняліся. Сталі.

— Гэта ты? — ціха спыталася яна.

— Я,— гэтак жа ціха адказаў ён.

— Ну, добры дзень...

Яны не крычалі радасна: «Колькі лет, колькі зім!», не абдымаліся, не цалаваліся. Стаялі моўчкі, глядзелі адно на аднаго, быццам не верылі, што гэта праўда, што яны сустрэліся зноў праз столькі год...

Потым яны зноў сустракаліся амаль штодня на тым самым месцы ў цэнтры парку, ішлі побач, гаварылі і гаварылі. Праз кожныя некалькі слоў чулася: «А памятаеш...», «а ведаеш...» І ўсё ж была нейкая недагаворанасць, насцярожанасць у кожнай іх размове. Іншы раз яны змаўкалі, быццам незнарок краналіся забароннага.

Другі раз спыняліся, сядалі на лаўку. Каляскі іх, зусім падобныя, стаялі перад імі...

— Ну што, дарагі таварыш Садоўскі, хутка можам нават парадніцца, хто яго ведае. Твой жа старэйшы ў які клас ходзіць?

— У шосты, Ірына Вячаславаўна. А твая старэйшая ў трэці, ты казала?

— Але. Вялікія ўжо ў нас дзеці. І да ўнукаў недалёка...

— Толькі дзіўна неяк. Іншы раз не верыцца, Іра, што столькі год прамінула! Мне здаецца, што ты зусім не змянілася. Нават ніводнага сівога валаска...

Яна глянула на яго скоса. Няўжо не памятае, якія ў яе былі калісьці валасы? А можа, і сапраўды не заўважае, што пафарбаваныя?.. Але нічога не сказала.

Аднаго дня ён раптам сказаў ёй:

— Што мы з табой усё як стаеры, нават размаўляем на хаду, давай збяжым куды-небудзь на цэлы дзень... ну, хоць на некалькі гадзін, у кафэ разам пасядзім. Як калісьці... памятаеш?

Ірына мімаволі ўздрыгнула, падазрона глянула на яго.

Ёй здалося, што гэты раз ён паспрабаваў дакрануцца да таго, аб чым яны ўвесь гэты час, не згаворваючыся, маўчалі.

Але вочы яго глядзелі лагодна і спакойна, у іх быццам нічога не адбівалася. «Здалося»,— з палёгкай уздыхнула яна. І ўсё ж заўважыла лёгкую ўсмешку недзе ў глыбіні яго вачэй. Гэта нібы падштурхнула яе.

— А што, давай! — быццам спрабуючы тонкі лёд, з нейкім адчайным халадком у душы сказала яна. І, каб не даць сумненням авалодаць сабою, хуценька прыкінула ў думках, як расплануе дзень, што скажа хатнім...

— Давай заўтра ў дзесяць на плошчы Перамогі? Як ты?

— Добра. Ля кафэ «Бярозка»...— Цяпер ужо ён глядзеў на яе трошкі здзіўлена, нібы не чакаў такой хуткай згоды на яго, можа, і выпадковую, прапанову.

Дома яна сказала, што ідзе ў госці. Крышачку хвалявалася — а што, калі запытаюцца: куды? Але ўсе былі занятыя сваімі справамі. Старэйшая дачка пабегла ў двор гуляць з сястрычкай, муж правіў тэрміновыя чарцяжы. Толькі запытаўся:

— Ты ж не паснедала?

Яна махнула рукой:

— Хто ж перад гасцямі снедае?

І толькі цяпер, калі ўжо сабралася ісці, глянуўшы на сябе як бы збоку, зразумела, як дзіўна і недарэчна яна выглядае: салідная жанчына, урач, у таямніцы ад мужа, ад дзяцей, збіраецца на нейкае запознёнае спатканне. Што ж гэта яна такое робіць? Навошта? А раптам хто са знаёмых сустрэне яе на вуліцы з незнаёмым мужчынам і ці ў жарт, ці ўсур'ёз раскажа пра гэта мужу? Як растлумачыць, чаму яна нікому

дома нічога не сказала? Такога яшчэ яна ніколі не рабіла. Даказвай пасля ўсім, а нават і самой сабе, што гэта проста сустрэча са старым сябрам, з былым аднакурснікам. Але ж гэтая таямніца ўваходзіць ва ўмову гульні, якую яны распачалі...

Што будзе далей — Ірына аб гэтым старалася не думаць.

... Васіля Садоўскага каля кафэ яшчэ не было. Яна глянула на гадзіннік: так і ёсць, прыбегла на пяць мінут раней...

Каля кафэ таўкліся нейкія кудлатыя хлопцы ў джынсах, «стралялі» ў прахожых цыгарэты.

Яна чакала. Як калісьці маладзенькай дзяўчынай тут, ля гэтага самага кафэ. Але не... Што было, то прайшло. Цяпер усё інакш,— старалася яна пераканаць сябе. І ўсё ж чакала: восьвось з-за кіёска выйдзе вясёлы малады хлопец Васіль, азірнецца, будзе шукаць вачыма яе, таксама маладую, бесклапотную...

Нейкі мужчына, гадоў каля трыццаці пяці, усё круціўся каля яе. Падышоў, кашлянуў.

— Вы тут некага чакаеце? — запытаўся ён з яўным намерам уступіць у гутарку.

Яна толькі ўсміхнулася, нічога не адказала. Убачыла, як з кафэ выйшаў Васіль Садоўскі, скіраваў да яе. Быў ён у новым шэрым касцюме, старанна паголены, радасна ўсміхаўся. Яе супакоіла тое, што гэта быў не той, ранейшы Васіль, а салідны мужчына ў гадах, з сівізною на скронях.

— Я тут прыйшоў, трохі чакаў, вырашыў зайсці, столік заняць. Ты даўно тут?

— Не, я толькі прыйшла,— незалежна адказала яна.

... Ляцела восеньскае павуцінне...

«Меламан» ціха іграў нейкую італьянскую мелодыю. У кафэ, нягледзячы на ранні час, было шматлюдна. За суседнім столікам сядзелі двое хлопцаў з дзяўчынамі. Яны ўсё паглядалі на Ірыну і Садоўскага, аб нечым, схіліўшы галовы, перагаворваліся і зноў паглядалі на іх.

Ірына адчула сябе пад гэтымі позіркамі няўтульна. Сапраўды, яны тут сярод моладзі як белыя вароны.

Мабыць, тое самае адчуванне было і ў Садоўскага. Ён усміхаўся Ірыне:

— Ну што, «старая»? Можа, вып'ем трохі за сустрэчу? Памятаеш, як у студэнтах мы называлі адно аднаго. А цяпер мы і праўда старыя, сумны жарт атрымліваецца, б'е ў самае яблычка.

— Ой, не кажы, «стары»,— Ірына глянула на яго, і яны засмяяліся.

Ён наліў ёй у кілішак віна, сабе — гарэлкі. Выпілі. Прамаўчалі.

— Ну, як ты жыў увесь гэты час,— запыталася яна раптам нейкім чужым голасам, бо ўзнікла цяжкая мнагазначная паўза.

Ён глядзеў у адну кропку, не адводзячы вачэй, нібы глядзеў у мінулае. З цяжкасцю адарваўся ад сваіх думак, зноў глянуў на Ірыну.

— А ведаеш, усяго было,— ён ужо ўсміхаўся ёй добра знаёмай усмешкай. Так ён усміхаўся даўным-даўно і заўжды толькі ёй...— Працаваў у раёне ўрачом. Чатыры гады. І цяжка было, і цікава. Галоўнае — ты сам сабе там гаспадар. Ніхто нічога за цябе не вырашае... Такія цікавыя выпадкі іншы раз здараліся...

Васіль захапіўся, пачаў расказваць адзін з гэтых выпадкаў. Ірына глядзела на яго і амаль не слухала. З горыччу адчувала, што гэта ўжо іншы чалавек, гэтага яна мала ведае. Новыя прывычкі, другая манера гаварыць, рухацца, другі выраз вачэй.

Ён змоўк, глянуў на Ірыну, усміхнуўся:

— Ну, ды не ўсё адразу. Раскажы ты аб сабе. Як ты была, што рабіла?

— А што я? — Ірына паціснула плячыма.— Мне, мабыць, было не лягчэй, асабліва калі працавала ў санавіяцыі ў Сібіры. Але работа вельмі цікавая. Увесь час у паездках.

Ён апусціў вочы.

— Усё зрабіла, як і хацела... Ну і як ён там, твой Клапдайк? Такі, які сабе ўяўляла, ці іншы?

Яна пакрысе смакавала віно, потым паставіла кілішак на стол.

— Як табе сказаць. Рамантыка падарожжаў, якая ўяўлялася нам яшчэ ў студэнцкія гады,— адно, жыццё — канечне, другое, няма аб чым гаварыць... Студэнцкія гады — самыя цудоўныя, самыя правільныя, ці што... Мы ж такія іншыя робімся пасля. І вось Сібір... Гэта мае самыя шчаслівыя гады. Каб наноў іх пражыць — такая самая была б пятрушка.— Ірына асцярожна глянула на Васіля, ці слухае. — Я — звычайны ўрач. Лячу людзей, слухаю, як б'юцца іх сэрцы. Штодня адно і тое ж. Раней думала, рамантыка — гэта перамена месцаў, новыя ўражанні. Пасля ўпэўнілася, што не. Усюды людзі, усюды яны маюць адно і тое ж: думкі, душу, розум, усюды ў іх аднолькава яно б'ецца, сэрца.

Памаўчала. Паўтарыла:

— Усюды жывуць людзі... Вось вярнулася ў Мінск. Усё ж тут усе свае, усё сваё...

Зноў змоўкла.

— Там, у Сібіры, калі мне было цяжка, здавалася, што дома ўсё лепш — і людзі іншыя, і паветра больш, і вада макрэйшая, і ўвогуле...— Яна засмяялася.— Ты ж ведаеш, як то бывае.

Ён толькі кіўнуў галавой. Зноў, як калісьці, паміж імі ўсталявалася тое паразуменне, якое было тады, калі ён прыходзіў да яе ў інтэрнацкі

пакойчык і яна па вачах яго, без слоў, ведала, што ён хацеў сказаць. Але цяпер гэта чамусьці палохала яе.

— Ну, а ты як у Мінску апынуўся?

— Ажаніўся... Яна тады студэнткай была. Прыязджала да бацькоў на канікулы... Цяпер працуе ў Мінскпраекце. Архітэктар. Цяжка нам было: яна там, у горадзе, а я ў весцы. Вось і перабраўся ў Мінск назусім...

— І што цяпер? Жыццём, работаю задаволены? Шчаслівы?

У яе голасе чулася нешта большае за простую цікавасць.

Ён нібы зразумеў гэта, усміхнуўся.

— Як табе сказаць? Нешта ёсць, нечага не хапае. Як і ва ўсіх, як і ў цябе, мабыць...

Яна апусціла вочы. Думала, што адказаць, як адказаць... Не знайшла патрэбных слоў, здалася.

— Так, як і ў мяне... Васіль, а памятаеш, як мы хацелі, прагнулі ўсё жыццё сваё пражыць менавіта не так, як усе? Адкрываць нешта незвычайнае, рабіць нешта немагчымае? Быць самымі першымі, не даравацць сабе і другім пасрэднасці, шэрасці? Памятаеш, Васіль? А як жа цяпер, няўжо трэба прызнаць, што мы — як усе?

— Не, Ірынка, не. Жылі мы ў поўную меру. Іншы раз рабілі і глупства, бязглуздзіцу, а ўсё ж ад нягод не хаваліся ў цёплы кут, а як і што выйшла — гэта ўжо не нам судзіць. Якімі мы былі і якімі сталі — няхай нас нашыя дзеці судзяць, унукі.

Ён пакамячыў у руках сурвэтку.

— А жыццё ідзе. Што засталося? Жыць, а не існаваць, жыць так, каб людзі ведалі, што жыве такі чалавек на свеце...

— Так, я менавіта гэта і хацела сказаць, і я так думала...

Яны гаварылі, гаварылі ўпярэхапкі, як бы жадаючы ўспомніць нешта даўно забытае, але вельмі важнае.

— А ўсё ж, кім бы мы ні былі адно аднаму — ці то ворагамі, ці то сябрамі, а мо і каханымі,— мы прыкіпелі за тыя гады адно да аднаго. Скажы, Васіль,— ледзь не выкрыкнула раптам яна тое, пра што ўвесь час думала, бо тое новае, незнаёмае ў Васіля, непакоіла яе.

— Чамусьці заўсёды разумелі адно аднаго з паўслова, разгадвалі кожны рух, кожны позірк,— нечакана і нават неспадзявана падхапіў Васіль, быццам тое, што ўспомнілася яму з яго далёкага юнацтва, таксама не давала спакою,— тое недагаворанае, няспраўджанае...— Чаму такое разуменне ўзнікае між людзьмі, Ірына? Нездарма ж гэта? І навошта? Вось табе і загадка на ўсё жыццё...

Яны былі раптоўна бязлітасныя цяпер да саміх сябе, тых, маладых, няўмелых, няўпэўненых, быццам у нечым хацелі сабе адпомсціць, пақвітацца з тымі дваімі.

— Праўда... А памятаеш, колькі часу мы круціліся адно каля другога? Самі нават не заўважалі гэтага, а ўсе астатнія бачылі... Самае цікавае, што былі ў нас і каханыя, і іншыя сябры, а ўсё ж яднала нас з табой, быццам нешта большае за ўсе гэтыя пачуцці.

— Так, да пэўнага моманту...

Яны змоўклі, быццам раптам спатыкнуўшыся аб нешта. Ірына адчула, што гэтае маўчанне цяжэй за словы, якіх яна раптам спалохалася.

— Васіль, а ведаеш, якая думка прыйшла мне ў галаву? Мабыць, праз многа-многа год людзі будуць вось гэтак жа, як мы, разумець

адзін аднаго, не трэба будзе тады слоў, людзі будуць адчуваць і праўду і няпраўду адразу. І тут ужо не выкруцішся.

— Дык хочаш сказаць, што мы з табою — людзі будучага?

— Ну што ты,— засмяялася Ірына.— Колькі разоў гэтае разуменне і падводзіла нас? А мы і самі не заўважалі гэтага...

— Ці не хацелі заўважаць...

— Ну, ганарыстыя мы з табой былі, таварыш Садоўскі, як маладыя пеўнікі.

— Так...— Ён глядзеў не ў вочы ёй, а некуды ўбок. Потым яго рука асцярожна дакранулася да яе рукі...

— Дзе ты была ўсе гэтыя гады? — з жальбою і болем у голасе прашаптаў ён.

Ірына маўчала, баючыся парушыць незвычайную цішыню, якая запанавала над усім наваколлем. Яна адчувала, што павінна нешта адказаць. Ох, што гэта былі б за словы! Яна насіла іх у душы ўсе гэтыя гады, выношвала толькі для яго аднаго, нікому дагэтуль не сказала ні паўслова з іх. Толькі цяпер яна зразумела ўсё гэта. І... не змагла адказаць яму ні слова. Бо гэта сапраўды быў не той Васіль, а чалавек з чужымі вачыма, і яна была не тая маладзенькая дзяўчына...

У душы ўзняўся бунт супраць усёй недагаворанасці, мнагазначнасці гэтай недарэчнай цяпер хвіліны маўчання. Яна адным нервовым рухам пляча паспрабавала скінуць з сябе тое насланнё ўспамінаў. Засталося толькі пытанне: «Што ж гэта было?» — і больш ні жалю, ні болю, пуста...

У яе добрая, шчаслівая сям'я, двое дачок. Што ёй яшчэ трэба на гэтай зямлі? Адкуль самота і горыч у душы?

І нейкі ўнутраны голас пытаўся ў яе: «А хі-

ба ты не ведала, што за сустрэча будзе сёння? Нашто прыйшла?»

— Глупства, Васіль... Ты зноў за старое?..— сказала стомленым спакойным голасам.

Першая нядзеля на пачатку гэтага месяца выдалася ціхая і цёплая. Лёгкі ветрык варушыў пажоўклае лісце.

Ляцела павуцінне...

Неба было пакрэслена няроўнымі рысачкамі воблакаў.

Ірына ўжо з гадзіну хадзіла з каляскай па алейцы. Садоўскага ўсё не было. Яна пачала нават хвалявацца. Але і цяпер не хацела прызнацца сабе, што чакае Васіля, што прывыкла да таго, што ён тут штодня сустракае яе... Прачнулася ў калясцы Алёнка, пачала выглядаць з яе, спрабавала злавіць ручкамі лісце, што падала на зямлю.

Вецер дзьмуў усё мацней.

Васіль гэты дзень так і не прыйшоў. Ірына вярнулася дадому. Стала гатаваць вячэру. Мужа яшчэ не было. Дочкі гулялі ў пакоі, тут, у кухні, яна чула іх смех, спевы. Гэтыя гукі крыху супакойвалі, суцішвалі яе хваляванне, надавалі ўпэўненасці. Але яна ўсё роўна прыслухоўвалася да няясных тонаў свайго сэрца. А яно бухала, збалелае і стомленае, і адказу яе трывозе не было.

Яна даўно адвыкла і ад гэтай трывогі, і ад гэтага хвалявання за доўгія гады свайго сямейнага спакою. Сталы расклад жыцця, упэўненасць у сваім заўтра былі для яе звычайнымі і прывычнымі. А што адбываецца цяпер? Навошта ёй усё гэта? Хваляванне, няўпэўненасць, трывога — дык вось як вяртаецца няспраўджанае, здрадажанае і незабытае...

Паставіла на пліту суп. Села ля тэлефона, нібы чакала званка. Ад каго?

Чаму ўсё ж не прыйшоў сёння Васіль?.. Захварэў? А можа, гуляе з дачкой у другім парку? А, уласна кажучы, чаму ён павінен быў прыходзіць? Яны ж не дамаўляліся, ніхто нікому нічога не абяцаў. Можа, яму проста надакучыла варушыць мінулае. Балюча і непатрэбна. Напэўна, ён так і вырашыў: лепш адным махам спыніць тое, што перайшло за нейкую забаронную мяжу.

...Але ці мог ён вось так узяць дый знікнуць, нічога не сказаўшы, не развітаўшыся?.. Сэрца падказвала: не мог.

Сядзела ціхенька ў калідоры і ўспаміналі...

...Па стуку ў дзверы пазнала — гэта Васіль. Крыкнула: «Заходзь!» — нават не павярнуўшыся да дзвярэй, упэўненая, што гэта менавіта ён.

У інтэрнаце быў урачысты дзень. Студэнты рыхтаваліся святкаваць юбілей інстытута.

Ужо з раніцы ў пакоях грымела музыка, чуліся спевы.

Іра накрывала на стол. Васіль сеў на ложак, стаў гартаць кнігу. Ірына хуценька наразала гуркі, памідоры. Пасадзіла і Васіля за работу: абіраць бульбу. Дзяўчаты ўжо з паўгадзіны, як пабеглі па віно.

Васіль сёння быў на дзіва маўклівы. Такога яна яго рэдка бачыла.

— Я ўстала з раніцы: сонца свеціць, птушкі спяваюць, думаю, чаго ж мне на свеце яшчэ не хапае? Аказваецца, цябе,— пажартавала Ірына.— Давай абірай хутчэй бульбу, зараз дзяўчаты прыйдуць, трэба, каб снеданне было гатова.

Васіль шпурляў асобныя бульбіны ў каструльку з вадой, яна расплёсквалася на падлозе, Васіль рабіў гэта рассеяна і нявесела.

— Нешта ты не ў гуморы,— кранула яго Ірынка за плячо.

Васіль глянуў на яе знізу ўверх, глянуў сумна і запытальна, нібы чакаў ад яе нейкіх зусім іншых слоў. Ірына адвяла позірк: было ў яго вачах і ў паглядзе нешта недагаворанае і трывожнае. І ўпершыню ў яе тады зашчымела сэрца...

І другі дзень...

На перапынку між лекцыямі яны нібы незнарок апынуліся побач ля акна ў калідоры.

— Прыгожа? — запыталася Ірына, гледзячы ў акно, што выходзіла на інстытуцкі двор, дзе буйна і непакорліва цвіло кустоўе, перабягаючы вузкія сцежкі між дрэвамі.

Васіль нічога не адказаў, нібы не чуў пытання. Пасля, не гледзячы на Ірынку, спытаўся:

— А табе нічога не шкода?

— Як? — не зразумела Ірына.

— Хутка параз'язджаемся, хто куды? Бог яго ведае, калі ўбачымся, чуеш? — Васіль глядзеў на яе строга і патрабавальна. Ірына нават спалохалася гэтага яго позірку.— Калі мы ўбачымся зноў? — Васіль адвёў позірк, глянуў у акно. Зноў гэта быў звычайны Васіль, якога яна так добра ведала, яе лепшы сябар... Толькі сябар?

...І трэці дзень...

— Позна ўжо,— Ірынка падышла з Васілём пад самыя яго дзверы.— Бывай да заўтра.

Васіль стаяў нерухома, нібы нешта хацеў яшчэ сказаць.

— Ну... пакуль...— Ірынка нерашуча ўзяла яго за руку, лёгка паціснула.

Васіль стаяў, глядзеў на яе з тым жа незразумелым выразам вачэй, руку не адпускаў, а сціснуў да болю.

І тады Ірынку нібы падхапіла нейкая гарачая хваля. Яна прыціснулася тварам да яго пляча, абхапіла абедзвюма рукамі, задыхнулася:

— Васіль... дарагі ты мой...

Цяпер Ірына ўспомніла, што яны тады і не сказалі ні слова адно аднаму пра сваё каханне. Ні слова і потым, увесь час, пакуль былі разам. Ды і не трэба гэтага было тады, бо не заўсёды словамі можна выказаць тое, што адбываецца ў тваёй душы, у тваім сэрцы.

Успаміпала цяпер усё, як зусім чужы чалавек, цвяроза аналізавала тыя даўнія пачуцці, толькі яны чамусьці адгукаліся ў яе сэрцы балючым рэхам...

Васіль даўно ведаў, адчуваў тое, што для Ірынкі было толькі няясным прадчуваннем. Нават мог прадбачыць, што яна можа зрабіць у кожны наступны момант раней, чым яна пачынала гэта рабіць. Але бывалі моманты, калі ён пераставаў разумець яе. «Ну, завялася»,— казаў ён тады. То яна аднойчы ўзяла і са сваімі сябрамі «сарвалася» ў Смаленск на тры дні. Проста так, каб паглядзець другі горад, адчуць смак вандраванняў, прыгод. Нікому: ні Васілю, ні суседкам па пакоі нічога не сказала. Тыя шукалі яе, перадумалі ўжо ўсякае, і тут яна сама з'явілася, як ні ў чым не бывала. То аднойчы вырашыла кінуць інстытут, бо, аказваецца, у яе няма таленту ўрача... Ледзь удалася ў розум прывесці.

Васіль часта жартаваў пасля: летуценніца мая, рамантык ты мой мілы, а ў глыбіні душы пабойваўся яе ў такія хвіліны. Тут нібы Ірын-

ка брала над ім гару, пазбаўляла ўпэўненасці, а ён гэтага не любіў. Васіль цвёрда стаяў на зямлі і любіў яе ўстойлівасць.

Яна ўспаміпала і быццам зноў перажывала тыя дні і падзеі. Успаміпала і тыя трывожныя ноткі ў светлым і ўрачыстым... Успаміпала не зусім так, як то было ў рэчаіснасці, а нейкімі амаль паўрэальнымі ўрыўкамі, нібы праглядала парваную ленту старога кіно.

Сонца ў пакоі. Васіль сёння нейкі ўрачысты, у новым світары. Р-раз! — з-за спіны дастае галінкі чаромхі.

— Гэта табе. Уяўляю — ты ў вясельнай сукні, жывыя кветкі ў тваіх цудоўных цёмных валасах... Ах!

— Дык да таго вяселля твае кветкі звянуць. Заява ж наша толькі сем дзён ляжыць.

— Не хвалюйся, новыя кветкі ўзыдуць. Ці, можа, табе не мае кветкі, а нечыя іншыя больш даспадобы?

— Не бойся, Васілька, не збягу ад цябе.

— А хто цябе ведае, вунь колькі каля цябе круціцца...

— Ведаеш што,— прапанавала раптам Ірынка,— давай сёння зробім, ну, заручыны, ці што, як у старажытныя часы рабілася, паклічам сяброў, пасядзім разам...

— Сёння... А сёння я сябра іду на вакзал сустракаць. Ён тут праездам на адзін дзень. Памятаеш, я табе гаварыў — са Століна, Ігар...

— Ну і што? І яго запрашай да нас. Няхай і ён з намі пасядзіць.

— Ведаеш... Сустракаюцца мужчыны, старыя сябры. Трэба пагаварыць аб сваіх справах. А табе няма чаго хвалявацца, не на спатканне ж іду.

Ірынка, калі папраўдзе, і не надта хвалявалася. Проста раней у Васіля не было ад яе сакрэтаў...

— Ты дзе быў? — Ірынка дапытліва глянула на Васіля.

— А, так, дробязі... Заехаў да Генкі, завочніка з другога курса. Абяцаў ён мне даць Сельвінскага пачытаць...

Ірына нічога не адказала. Не сказала Васілю, што чула яго голас за дзвярыма пакоя, дзе жыла Марына... Весела звінелі там чаркі, гучала музыка... Марына... Усе ведаюць, як доўга яна заляцалася да Васіля, як запрашала да сябе ў госці, якімі вачыма глядзела на яго. А можа, усё гэта толькі здалося?..

Новы год. Ёлка ў спартыўнай зале. Хлопцы, відаць, ужо крыху падпілі, таму што спяваюць пад аркестр не вельмі зладжана, але са шчырым натхненнем. І ўсім весела. Ірынка, крыху стомленая святочнай мітуснёй, стаіць ля акна. Сёння яна паспела і бялізну памыць, выпрасаваць, прыбрала з дзяўчатамі ў пакоі. А потым яшчэ і ёлку ўпрыгожвалі, вешалі ў зале гірлянды...

Васіль у белай кашулі, якую Ірынка так старанна адпрасавала, танцуе з нейкай даўгалыгай дзяўчынай.

Ля мікрафона завіхаецца Сашка Міхалік — кудлаты хлопец з іхняга курса:

Ехали цыгане
С ярмарки домой...

Васіль усё танцуе з той жа дзяўчынай. Ірынка бачыць яе ўпершыню. Мабыць, прыйшла да каго ў госці... Трэба ж, а Васіль адразу яе ўгледзеў...

Танец скончыўся.

Да Ірыны падбеглі сяброўкі:

— Ты не забылася, што ў нас ёсць яшчэ віно? Мы ж прыхавалі, каб самім пасядзець, без кавалераў, ну іх. Пайшлі, стары год памянём, пасля вернемся, патанцуем...

— І праўда, пасядзім з паўгадзінкі самі, адпачнём трохі, а там народу набяжыць...

...Потым зноў гучала музыка ў зале...

Рознакаляровыя стужкі віліся па плячах танцораў. Раптам нехта моцна схапіў Ірынку за плячо. Азірнулася. Васіль.

— Дзе ты была? — голас у яго быў нядобры.

— А што?

— Я цябе ўжо дзесяць хвілін шукаю.

— Васіль... Засумаваў? — Яна ўзяла Васіля за руку.— Пойдзем, патанцуем.— Пацягнула ў натоўп. Раптам Васіль рэзка вырваў сваю руку:

— Ты ўжо выпіла тут без мяне?

— Васіль, ты ж быў надта заняты,— у Ірыны быў добры, крыху замілаваны настрой. Усё здавалася такім неверагодна святочным, ззяючым. Здавалася, Васіль жартуе.— Ты ж танцаваў з той даўгалыгай. Ну, а я пайшла пасядзела з нашымі дзяўчатамі...

— Я цябе шукаў, хацеў прайсціся з табой па вуліцы, паветрам свежым падыхаць.

— Пэўна, слаба шукаў...

Ірынка прытулілася да Васіля, яны павольна закружыліся ў танцы. Яна адчула, як дужыя рукі Васіля амаль паднімалі яе над зямлёй.

— Каб больш так не знікала,— сказаў ёй раптам Васіль суха, з дакорам.— Ведаеш, пачнуць гаварыць, што мая... гм, нявеста, і невядома з кім, невядома дзе выпівае цішком.

— А мой жаніх тым часам танцуе з незнаёмымі дзяўчатамі...

— Табе ўсё жартачкі, а я не хачу, каб мая жонка...— і Васіль пачаў гаварыць нейкія чужыя жорсткія словы, якія яна раней ад яго не чула і нават не падазравала, што ён так можа гаварыць.

Ірынка прыціхла. Яна толькі цяпер зразумела, што Васіль гаворыць усур'ёз. Ёй здалося, што такога Васіля яна не ведае, не хоча ведаць. Але сэрца чамусьці маўчала. У глыбіні душы яна знала, што Васіль яе кахае. Што ніколі так не паглядзіць на другую дзяўчыну, як на яе, ніколі не раскажа другой таго, што расказваў аб сабе ёй.

Танец скончыўся. Усіх запрасілі ў кіназалу глядзець нейкі святочны выпуск інстытуцкай самадзейнай кінастудыі.

Хлопцы, дзяўчаты, штурхаючыся, пабеглі займаць месцы. Ірыну з Васілём зусім адціснулі назад. Васіль яшчэ нешта гаварыў ёй, Ірына не надта ўважліва слухала яго, але апошняя фраза яе ўразіла.

— ...а што да мяне, то я іншая справа...

Ірынка ўсхапілася:

— Як іншая? Якая іншая справа?

— Ну, — Васіль з годнасцю павёў плячыма.— Я ж мужчына.

— І што? Ты хочаш сказаць, што мне менш трэба, чым табе? Я менш бачу, менш адчуваю, істота другога гатунку?

Ён адной рукой абняў яе за плечы:

— Ну што ты. Толькі ж на мужчыну больш адказнасці кладзецца. І ўвогуле, іншы раз яму і за жанчыну прыходзіцца вырашаць, думаць...

— І ты за мяне хочаш думаць? — спыталася яна, не зусім верачы яму.— Дык што ж мне тады застаецца? Табе ежу гатаваць?

Зала непрыкметна апусцела. Ёлка цьмяна паблісквала лямпачкамі, цацкамі. Каля яе, у засені, стаялі двое, абняўшыся, забыўшыся на ўсё на свеце.

Ірына адчула раптоўную стому. Спрачацца з Васілём не хацелася. Святочны настрой адразу развеяўся. Паспрабавала ўсміхнуцца:

— Васіль, сёння ж свята... А мы быццам забыліся...

Ірынка глядзела на тых дваіх ля ёлкі, і ёй здавалася, што гэта яна з Васілём... Толькі даўным-даўно...

Лямпачкі на ёлцы цямнелі. У кутку больш нікога не было... А можа, тыя двое толькі прымроіліся?..

Напэўна, так і было.

Пачуўся стук у дзверы. Дзяўчаты хорам ускрыкнулі: яны толькі ўставалі, былі напаўраспранутыя, у пакоі панаваў жывапісны вэрхал. Ірына ведала па стуку, што гэта Васіль. Крыкнула:

— Пачакай хвіліну!

Хуценька прыбрала свой ложак, расчасала валасы. Глянула на дзяўчат:

— Ну, як вы? У парадку? Можна запускаць госця?

— Давай яго сюды!

— Хто гэта такі ранні?

— Як хто? Вядома, Васіль, хто яшчэ!

Ірынка адчыніла дзверы. Увайшоў Васіль.

— Вітаю, дзяўчаты. Як вы тут, не сумавалі без мяне?

— А ты не ў нас пытайся,— адказала адна з іх.

Ірынка зачырванелася, адышлася ад акна.

Дзяўчаты, весела перагаворваючыся, сабраліся і пайшлі ва ўмывальнік.

Васіль падышоў да Ірынкі, паклаў сваю цяжкую руку ёй на плячо.

— Што ты? — ціха спыталася яна.

— А вось зайшоў, засумаваў, мабыць...

Яны змоўклі, толькі глядзелі адно на аднаго. Словы, якія яны маглі б гаварыць адно аднаму, былі б у гэтай цішыні занадта грубымі, яны не сказалі б таго, аб чым гаварылі, чаго прагнулі іх сэрцы.

І таму яны маўчалі.

Пад няяркай настольнай лямпай сцішана бялелі канспекты. Хутка першы дзяржаўны экзамен. Хутка ў свет... Як кажуць: «на шырокі прастор...» А што будзе далей? Не ўвогуле «далей», а зусім хутка: праз месяц, праз два...

Яна, здаецца, уголас сказала гэта. Васіль паправіў пасмачку валасоў на скроні.

— А далей мы з табой зробім так. Паедзем да маіх бацькоў у Віцебск. На першым часе спынімся ў іх. Ты ж ведаеш, мой бацька працуе ў выканкоме, зробіць ён табе і прыпіску і работу. Бацька ў мяне цікавы чалавек. Ён табе спадабаецца... І маці...

Васіль асцярожна пацалаваў яе ў непакорлівую пасмачку.

Ірынка адхілілася ад яго.

— А як жа ўсе нашы планы? Я ж так хацела паехаць у Сібір... Памятаеш, мы з табой гаварылі?..

— А, кінь дурное,— Васіль прыняў сваю руку.— Летуценні, мары, рамантыка — гэта было раней, гэта не сур'ёзна. Цяпер трэба ацэньваць жыццё рэальна, а не абстрактна, як гэта робіш ты. Навошта мы папромся абы-куды, далей ад бацькоў, сяброў, знаёмых?.. Чужы горад, ні кута, ні кватэры табе. Навошта? Кінь гэтае глупства! Паедзеш са мной у Віцебск.

Ірынка нічога не сказала. Пакінула гэта на пасля. Калі б яна ведала, што гэтага «пасля» не будзе...

Яна глядзела ў люстэрка — пільна, уважліва, нібы баючыся прапусціць хоць адну новую рыску ў сваім твары, пазнаючы і не пазнаючы той вобраз, які бачыла ў люстэрку. На яе глядзелі крыху сумныя, блакітныя вочы, быццам пыталіся: «Хто ты такая? Што табе трэба?»

Хатняя гаспадынька. «Да убоится жена мужа своего...» Ой, Васілька, што ж ты такое з намі робіш?

Яна наблізіла да сябе люстэрка:

«А ты ж цудоўная кветачка, якая ж ты гаспадыня, гаспадынька. Ты ж птушачка, птушанятка... А птушкі — яны неба любяць, вырай ды волю...»

Калі Ірынка з Алесем прыехалі з рэстарана, было ўжо даволі позна. Спраўлялі Алесеў дзень нараджэння. Сябры, музыка, цудоўнае віно...

Алесь — хлопец, на курс маладзейшы за Ірынку. Ён даўно ўжо заглядаўся на яе, але для Ірынкі то былі толькі жартачкі...

Ды вось неяк прыйшла да яго сама. Уселася на крэсла пасярэдзіне пакоя. Папрасіла чаю. Адчувала нейкую злую рашучасць, толькі быццам ком сядзеў у горле. І таго, як разгубіўся і нават зачырванеўся Алесь ад нечаканасці, яна быццам не заўважыла.

— Што не заходзіш да мяне, Алеська?.. А я ўжо нешта засумавала.

І гаварыла далей нейкія пустыя, нязначныя для яе фразы, нібы гуляла ў дзіцячую гульню адгадайку...

У рэстаране сядзелі доўга. Алесь побач з Ірынкай, радасны, шчаслівы. Ірынцы было цяпер трохі няёмка. Навошта яна гэта ўсё робіць? Але тыя сумненні ўзнікалі недзе на самай глыбіні свядомасці. Пра Васіля ж Ірынка старалася не думаць зусім. Але зноў жа з глыбіні свядомасці ўсплываў смех Марыны ў глыбіні пустога калідора, постаць Васіля побач з ёю...

Словы Васілёва сябра, Грышкі:

— Плюнь на ўсё... У кожнага мужчыны ёсць свае слабасці...

Зноў смех Марыны ў глыбіні калідора.

Словы Грышкавай жонкі:

— Мужчынам іншы раз трэба даравать тое-сёе...

Словы дзяўчат:

— Даруй яму, ён жа цябе любіць, а яны, мужчыны, усе такія, перад вяселлем толькі і глядзяць, дзе б пагуляць апошні раз...

— Не даруй!

Не, гэта яна напэўна крыкнула: «Не дару-у-ю!»

А Васіль, сцішаны, пакорлівы, прыходзіў да яе дзвярэй. Яна не адчыняла, доўга і затоена слухала яго стук у дзверы...

— Ірынка, аб чым задумалася? — нясмела дакрануўся да яе рукі Алесь.— Хадзем танцаваць...

Іх шчыльна абступілі, штурхалі з усіх бакоў, а Ірынка зусім не чула, не адчувала музыкі.

Алесь дыхаў ёй у валасы над вухам, ціха шаптаў:

— Ірынка, скажы, гэта праўда, што з Васілём у вас... ну, не ўсур'ёз было?

Ён усё мацней абдымаў яе, туліў да сябе. Ірынка не працівілася і толькі адчувала, як нейкі халодны вецер гуляў у яе бязвольнай душы,

нібы па бязлюднай пустэльні... Ёй здавалася, што яна — не яна, а хтосьці зусім іншы, зусім ёй не знаёмы з іншымі пачуццямі, бяспамятны і загублены...

Калі вярталіся з рэстарана, Алесь, адвёўшы яе крыху ўбок, шапнуў на вуха:

— Давай зойдзем да мяне... У мяне бутэлька шампанскага ў шафе стаіць. Я хачу, каб толькі мы з табою былі, каб больш нікога...

Ірынка прамармытала нешта незразумелае. Яна і напраўду не ведала, што можа зрабіць нават праз пяць хвілін. Быццам рачная плынь падхапіла яе і нясе, нясе нястрымна...

Сказала Алесю, што зойдзе да сябе на хвілінку.

Сядзела на ложку, старалася аб усім спакойна думаць...

У калідоры пачуліся крокі. Ірына здагадалася, гэта Васіль. У душы нешта растала, адлегло... Яна яго разумее, яна разумее ўсё. Васіль больш за ўсё баяўся страціць свабоду, незалежнасць. Ад гэтага і ўсе яго выбрыкі... Зараз усё вырашыцца, усё стане на свае месцы.

Дзверы расчыніліся...

Васіль быў п'яны, ускудлачаны. Пачырванелыя вочы яго раз'юшана глядзелі на Ірынку. Яна ніколі дагэтуль яго такім не бачыла.

— Ну што? — злосна выкрыкнуў Васіль.— Па рэстаранах бадзяешся?

Нехта шпарка крочыў па калідоры... Ірынка ўздрыгнула.

— Не хвалюйся, ён сюды не зойдзе,— Васіль замкнуў дзверы на ключ.— Я спадзяюся, ты ведаеш, пра каго я гавару.

Ірынка маўчала. Крокі ўжо гучалі цішэй, аддаляліся.

— Як ты можаш!.. Ты, мая нявеста!

Ён паўтараў тое, што гаварыў ёй раней, але цяпер яго словы ўразілі, пакрыўдзілі так, як ніколі. Вусны яе задрыжалі, з вачэй аж пырснулі злыя гарачыя слёзы. Яна ўскочыла, хуткая і зацятая. Дзяўчаты сказалі б: «Ну, панесла яе». Размахваючы рукамі, кінулася да Васіля, схапіла за пінжак, пачала трэсці:

— Слухай ты, каханенькі, родненькі... Цярпела я, толькі ўсё... Сябе паважаць не буду, калі большае сцярплю. Каго ж ты з мяне робіш? Гэта ж ты прадаеш нас на кожным завулку. Здрайца ты самы сапраўдны. Святога нічога для цябе няма. Не магу я так, не хачу... Я лепей пайду куды-небудзь. Да яго вунь,— яна неакрэслена кіўнула некуды ўбок галавой,— ён мяне любіць, не тое, што ты... а можа, яшчэ куды пайду... Думаеш, не змагу? Балець будзе, але змагу, забуду...

Васіль вырваўся з яе рук, яна не паспела апамятацца — пякучы боль апаліў яе шчаку.

Нібы згасла святло ва ўсім свеце. Яна адступіла на крок, яшчэ не ўсведамляючы таго, што здарылася. А потым аднымі вуснамі:

— Ты ўдарыў мяне, Васілька...

Павольна адступіла да дзвярэй, дрыжачымі рукамі намацала ключ, хуценька павярнула яго, выбегла ў калідор і пабегла па ім, доўгім, пустым... Уласныя крокі аддаваліся ў скронях ударамі молата. Яна бегла, як па пустыні, доўгай, бясконцай, дзе не было ніводнага чалавека, ні кроплі вады...

Убегла ў Алесеў пакой.

— Алеська, ратуй мяне... ад усіх... ад усяго.— Учапілася за Алеся — не адарваць. Ён гладзіў яе па плячах, не разумеючы, што робіцца.

Адчувала адну толькі дзікую роспач, ведала, што робіць не тое, не тое...

Маўчаў тэлефон, маўчаў цэлы свет. І не было ні падказкі, ні парады...

Апамяталася толькі тады, калі пазванілі ў дзверы. Прыйшоў з работы муж. Ірына ўсхапілася, пачала падаграваць ежу, імкнучыся за звычайнымі хатнімі клопатамі забыцца на тое, што ўварвалася ў яе спакойнае і ўпэўненае жыццё неспакоем, жалем, балючым успамінам. І ўсё ж мімаволі вярталася ў думках да гэтых успамінаў, хоць з усіх сіл прагнула аднаго: забыцца.

Дык хто ж быў вінаваты? — пыталася яна ў сябе цяпер, як і многа разоў раней. Не змаглі зберагчы шчасця, якое ў іх было?.. А ці было? Маладыя, жорсткія, не разумелі тады жыцця, ды і як тады было жыць з аглядкай? Не маглі даравацъ адно аднаму? А ці можна было даравацъ?..

Цяпер жа яе непакоіла адно: чаму ўсё тое былое зноў так балюча адгукаецца ў яе сэрцы цяпер? Каханне, крыўда, нянавісць, літасць... Ох, навошта ёй усё гэта цяпер, праз столькі год?..

На кухні пачула: прыгарэлі катлеты...

На наступны дзень, як заўсёды, выйшла з Алёнкай у парк на прагулку. Не хацелася ні аб чым думаць.

Убачыла раптам Садоўскага, што хуткім крокам набліжаўся да яе. Адзін, без дачкі.

І тут уся тая напружанасць, трывога адпусцілі яе, развеяліся ў момант. Яна адчула спакой, палёгку і... упэўненасць. Упэўненасць у тым, як яна жыве, у сваіх учынках, ва ўсім, што рабіла і робіць у сваім жыцці. Адчула, які трывалы свет, яе свет, і нічога ў ім нельга і не трэба мяняць.

Садоўскі, крыху задыхаўшыся, падышоў да яе.

— Прабач, учора да мяне сваякі з Віцебска прыязджалі, дык я ўжо з імі цэлы дзень...

«Ах, Васіль, Васіль, а ты ўсё той жа!» — расчулена падумала яна, а ўголас холадна сказала:

— А ці ж мы з табой спатканне прызначалі? Што ты сёння без дачкі?

— З ёю жонка ў двары гуляе. А я вось сюды...

Яны ішлі, гаварылі, успаміналі сяброў. І ні слова больш аб сабе, аб тым, пра што кожны з іх думаў гэтыя дні.

Толькі Садоўскі ўвесь гэты час пазглядаў на яе скоса, нібы хацеў нешта прачытаць у вачах. Ірына не бачыла — адчувала гэты позірк. Але ўпарта адводзіла вочы ўбок. Ведала — нічога ў гэтым жыцці ўжо нельга змяніць. Кожнаму павінна застацца тое, што набыта ім за сваё жыццё. Кожнаму — сваё.

Ды на другі дзень зноў да Ірыны вярнулася тое самае пачуццё хвалявання і трывогі: цяпер ужо напэўна ён не прыйдзе.

Але Садоўскі зноў прыйшоў. І зноў да яе вярнуўся спакой, калі яна яго ўбачыла. Хаця ведала: былое не можа вярнуцца.

Яны павольна кацілі пузатыя дзіцячыя каляскі, ішлі, не спыняючыся, мерна, адно каля другога, потым паркавыя дарожкі разбегліся ў розныя бакі. Ён пайшоў па правай, яна — па левай.

І, здаецца, бясконцае было гэтае кружэнне па алейках. І заўтра можна будзе сустрэць гэтых людзей адно каля другога. Зноў будуць ісці, каціць перад сабой каляскі, ціха аб нечым гаварыць, потым разыходзіцца ў розныя бакі.

Сустракацца і разыходзіцца...

# Паліна з Антанінай

Так нецярпліва, няспынна, не адрываючы пальца ад званка, магла званіць толькі Тонька, Антаніна.

Яна ўляцела ў кватэру, прытанцоўваючы, прыпяваючы на хаду: «Малиновки заслыша голосок...»

Кінула між словамі песні:

— Поля, пайшлі замуж... «Припомню я прошедшие свиданья...»

— Куды, якія свіданья? — не зразумела Паліна.

— Замуж пайшлі, ёсць шанц.— Антаніна пакруцілася перад люстэркам у прыхожай, направіла сукенку, спыніла позірк на Паліне.

— Як гэта? — абазвалася тая.

— Не ведаеш як? Ужо на пяты дзесятак размяняла, а ўсё не ведаеш як? Сын вунь ва універсітэце, галава сівая, фарбуйся не фарбуйся...

— Пастой, пра што гэта ты?

Паліна глядзела на Антаніну спакойным светлым позіркам. Да яе выбрыкаў яна прывыкла. Што яшчэ надумала гэтая шалапутная?

— Старасць не радасць? Так?

— Так,— паслухмяна згаджаецца Паліна.

— Сын твой вучыцца ў другім горадзе, хутка вывучыцца, зусім з'едзе на край свету, а хто табе на старасці год застанецца? З кім ты сваё жыццё дажываць будзеш? Ты падумала?

— Падумала,— спакойна адказвае Паліна.— З табой, ясачка, з табой, красачка. Будзем мы з табой на старасці год удзвюх векаваць, што паробіш, каму мы яшчэ патрэбныя?

— Поля, без панікі.— Антаніна пакорпалася ў сваёй ёмістай торбе і ўрачыста выставіла на стол маленькую сувенірную бутэлечку каньяку.— Зараз я табе такое скажу — закачаешся!

— Завадная,— усміхнулася Паліна.

— Не, ты слухай уважліва. Пастаў чай.

— Пастаўлю,— згаджаецца Паліна.— Што, зноў якога дзядзька хочаш да мяне прыцягнуць знаёміцца?

— Ну што ты ўсё перапыняеш, слова за вечар не магу сказаць,— стракоча Антаніна.— Якога дзядзька? А? Таго, з клуба «Каму за трыццаць». Ну і што, што жанаты, быў бы чалавек харошы. Жыве з жонкай проста таму, што кватэры не можа разьмяняць. А калі б нявеста была з кватэрай, то ён не супраць.

— Не, барані бог ад тваіх жаніхоў, гары яны гарам,— зноў абазвалася Паліна, накрываючы на стол.— Раскажы лепш, як там твае першыя пазакласныя заняткі прайшлі?

— Кінь ты сваю школу,— абурылася Антаніна,— як сын паехаў вучыцца, дык ты ў работу з галавой кінулася, знайшоўся мне грамадскі дзеяч. Я ж да цябе з навінамі, па гарачых слядах.

Антаніна па-змоўніцку падміргнула, села на свой любімы табурэт у кутку кухні і зноў па-завадатарску заспявала:

— «Малиновки заслыша голосок...» Ты ведаеш, мая радасць, у Мінску нядаўна адкрылася кантора пад назвай «Шлюб і сям'я». Як у Еўропах. Прыходзіш, запаўняеш анкету на выбранніка: які ён табе патрэбен, якога колеру валасы, вочы, узрост, прафесія. Пасля — усё гэткім жа

макарам — аб сабе. Разумееш? Усё па-сур'ёзнаму. Пасля — электронная машына гэтыя анкеткі аналізуе і падбірае па парах. А? Як табе? — Антаніна глянула на Паліну з задаволеным выглядам, нібы ва ўсім гэтым была і яе значная заслуга.

— Да,..— разгублена кажа Паліна.— Як у Еўропах... Ты выпадкова мне не гэты французскі фільм расказваеш... ну той, з Жырардо?

— За каго ты мяне прымаеш? Праваліцца мне на гэтым месцы, усё праўда!

— Жаргончык у цябе! І як ты са сваімі вучнямі размаўляеш?

Пасля ўжо з цікавасцю Паліна папыталася:

— І што, ты сама туды хадзіла? Прызнавайся як на духу.

Антаніна падміргнула.

— А я думаю, зайду да цябе, параюся, можа, разам туды сходзім, анкеткі пададзім? А? Справа ж верная. Адной мне неяк не хочацца туды ісці, давай з табой,— гаворыць Антаніна, даліваючы чай каньяком.

— Ды ну, каб ты — і не рашылася на што такое адчайнае, не падобна на цябе,— усміхнулася Паліна, даліваючы і сабе ў чай каньяку.— Варта ўспомніць хаця б, як вы на нашым інтэрнацкім даху з хлопцамі на спор паўночы прасядзелі, а ўранку камендант інтэрната з міліцыяй туды з'явіўся, думалі, злодзеі. Помніш?

— Не тая вага цяпер, каб па дахах лазіць,— з іроніяй зазначыла Антаніна, але ў вачах яе запаліліся вясёлыя агеньчыкі, мабыць, таксама прыгадала нешта вясёлае.

— А помніш...

Яны з паўгадзіны ўпярэхапкі, перабіваючы адна адну, прыгадвалі смешныя эпізоды іх студэнцкага быцця — такая была завядзёнка амаль кожнага іх вячэрняга чаяпіцця. Далей ішла ад-

на і тая ж трохі журботная песня «Іванька маладзенькі, а што ж зажурыўся ты...». У канцы песні Антаніна абавязкова ўсхліпвала. У яе з гэтай песняй было звязана асабістае.

— Вось бачыш,— сказала яна, калі выцерла твар насоўкай.— Кажаш, адчайная, а вось не хапіла духу выйсці замуж за свайго Іваньку. Думала, шалапутны, за кожнай спадніцай цягнецца, які з яго муж! А прыгожы быў, спяваў як, мой Іванька.— Яна ў марах перанеслася да тае шчаслівае пары, калі яшчэ быў з ёю яе Іванька, калі яна яшчэ і гора не знала.

— Не шкадуй ні аб чым,— абняла яе за плечы Паліна,— шкадаваць аб зробленым — сэрца рваць, аб не зробленым — яшчэ горш.

— А я і не шкадую,— Антаніна перасмыкнула плячыма, скідваючы рукі Паліны.— Я і цяпер, магчыма, зрабіла б тое самае, нічога б не даравала — надта пакрыўдзіў ён мяне,— гаварыла Антаніна, але ўжо без ранейшага запалу, быццам не зусім верыла ў тое, што гаварыла.

— Дзе ён, мой Іванечка, якім сабакам сена косіць? — зацягнула яна жаласным голасам.

Паліна, баючыся, што зноў нападзе на Антаніну сентыментальны настрой, паспрабавала перавесці на сваё:

— А мой былы муж толькі шле сыну паштоўкі да кожнага свята, аднолькавыя, быццам наштампаваў запар тысячу штук.

— Табе добра, у цябе хоць сын застаўся,— ціха прагаварыла Антаніна,— а нам што застаецца? Грамадская работа ды чужых дзяцей выхоўваць?

Але Антаніна — Паліна гэта добра ведала — не магла доўга заставацца сумнай ці сур'ёзнай. І неўзабаве яны — у каторы раз — заспявалі развясёлую: «А гэта ж быў не мой чамаданчык!»

— Заходзь часцей,— кажа Паліна Антаніне, праводзячы яе да дзвярэй.— Я ж адна надта вечарамі сумую. Як паехаў сын вучыцца, дык ведаеш, як пуста ў доме стала.

— Ведаю,— адказвае Антаніна,— можа, больш за цябе. А дарэчы, чаго я сёння заходзіла? Пайшлі, Паліна, замуж. Глянь на сябе — прывабная жанчына, асабліва калі прычоску зрабіць, нафарбавацца, паходку паставіць,— Антаніна, паказваючы, як трэба хадзіць, прайшлася па лесвічнай пляцоўцы «каралевай». Сусед, што якраз адчыняў дзверы сваёй кватэры, здзіўлена аглядзеў жанчыну. Антаніна паспела яму падміргнуць, перш чым сусед замкнуў за сабой дзверы.

— Не кампраметуй мяне, п'яная жанчына,— паўшэптам сказала ёй Паліна,— пакінь свой асноўны талент для Бюро Знаходак, гэта значыць, для сваёй канторы «Шлюб і сям'я».

— Паліна, апошні раз кажу табе, пайшлі замуж, яшчэ не вечар, падумай, паразмыслі.

Паліна, прыбіраючы са стала, усміхалася сваім думкам. А што? Чаму б і сапраўды не пайсці ў тое бюро, не падаць сабе анкеткі, а там — толькі выбірай час і месца для спаткання... Смешна... Ды і няёмка неяк. Прыйсці раптам да чужых людзей з чымсьці такім сваім, асабістым. Прызнацца ўсяму свету: так і так, дрэнна мне адной, дайце мне спадарожніка, бо сама ніяк не знайду. Не, мабыць, яна не надта сучасная, бо цяжка ёй з гэтым пагадзіцца. Антаніна таксама са сваім гонарам і незалежнасцю не пойдзе.

Разважала так Паліна, мабыць, таму — яна не хацела сабе прызнацца з усёй шчырасцю,— што апошнім часам яе думкі былі аб тым сімпатычным камандзіровачным, з якім яна кожную раніцу а восьмай гадзіне ехала на працу.

Аднойчы побач з ёю на лаўку сеў немалады

мужчына, з нейкай вінаватай усмешкай папрасіў прадаць талончык: «А то ў нас у горадзе ў вадзіцеля можна купіць, а ў вас — не». Гэта быў бы пачатак звычайнай у аўтобусе, неабавязковай размовы: «А ў нас... а ў вас...» А Паліна глянула на яго і чамусьці сумелася, як маладзенькая, размову тым разам не падтрымала, толькі моўчкі працягнула яму талончык. Ён падзякаваў і ўсміхнуўся, быццам яна сказала яму нешта вельмі прыемнае. Так яны тады і ехалі моўчкі. Асобныя яго заўвагі накшталт: «Нешта аўтобус ледзь цягнецца, так і спазніцца можна» ці «Здаецца, зараз дождж пойдзе» яна сустракала неакрэсленым поціскам плячэй і ўпарта адмоўчвалася. «Мабыць, пазнаёміцца хоча, хутчэй за ўсё камандзіровачны».

На наступны дзень ён таксама быў а восьмай на прыпынку. Калі іх вочы сустрэліся, ён усміхнуўся ёй, як старой знаёмай. «Нешта экспрэс трохі прыпазняецца?» — спытаўся ён.

— Ды не, гэта ваш гадзіннік спяшаецца,— адказала яна. Зусім жа маўчаць няёмка, калі да цябе звяртаюцца.

Слова сказана. Яны стаялі побач, нібы і прыйшлі сюды разам, нібы і ехаць далей ім было разам. Калі прыйшоў аўтобус і натоўп раздзяліў іх, Паліна пачала шукаць яго вачыма, быццам не паспела яму нечага дагаварыць.

Кожны дзень ён выходзіў на прыпынку ля падшыпнікавага завода. «Канешне, камандзіровачны»,— падумала яна. Так яно і было. Дзімітрый Аляксеевіч — так звалі яго — і сапраўды прыехаў сюды ў камандзіроўку з Петразаводска.

— Хутка ўжо дадому, ды вось горада ніяк не магу паглядзець, не выберуся. Ды і не ведаю, з чаго пачаць агледзіны, каб хто мне паказаў горад...— Ён запытальна глянуў на яе.

Паліна скоса глянула на яго, заўважыла, што краі манжэтаў і каўнер яго кашулі даволі абтрапаныя, дрэнна адпрасаваныя штаны. «Нейкі ён недагледжаны, і куды толькі жонка глядзіць? — пашкадавала яго.— А разумны ж, інтэлігентны мужчына. Не, мабыць, адзінокі. Чаму б і сапраўды не пайсці з ім куды?»

Яна ўжо зусім рашылася пайсці з ім кудынебудзь, але калі ён нечакана прапанаваў: «А можа, нам, таго, узяць ды пайсці з вамі ў тэатр? Вядучы ваш, купалаўскі?» — яна зноў разгубілася. Стала няёмка апраўдвацца: «Ведаеце, сёння да мяне павінны госці прыйсці... Так, сяброўка... Не магу». Ён маўчаў, мабыць, пакрыўдзіўся. Пасля са шчырым жалем сказаў: «Шкада. А я думаў, вы мне перакладаць будзеце».

Яна сябе цэлы дзень пасля гэтага моўчкі лаяла за тое, што тым разам не згадзілася.

Вось што не расказала Паліна Антаніне ў той вечар. А і што было расказваць? Нічога ж «такога» і не здарылася. Так, позіркі, неабавязковыя размовы. Мала што яна сабе навыдумляла пра таго камандзіровачнага. Абсмяяла б Антаніна. «Падумай аб сабе» — нібы гучалі ў вушах увесь час словы Антаніны. А Паліна за добрую палову жыцця, пакуль не вырас сын і не паехаў вучыцца, так і не змагла падумаць аб сабе, знайсці спадарожніка, уладкаваць жыццё.

І на другую раніцу зноў сустрэла яна Дзімітрыя Аляксеевіча. «Камандзіроўка канчаецца»,— пашкадаваў ён і паглядзеў на Паліну, нібы раіўся з ёю: а што рабіць далей.

Гэтым вечарам яна пайшла ў парыкмахерскую, зрабіла мадэльную прычоску. («Чорт яго бяры, адзін раз жывём!») Вырашыла наступным ранкам нарэшце кінуць свае цырымоніі, самой прапанаваць яму прайсціся па горадзе. «Коль-

кі ж ён можа рабіць гэтыя спробы запрасіць куды-небудзь? Мабыць, надакучыла яму ўжо гэтае ламанне». Раніцой спяшалася да васьмігадзіннага экспрэса як на спатканне. «Як гэта Антаніна казала — «каралеўскую паходку»?» Пашукала між людзей позіркам Дзімітрыя Аляксеевіча, таго пакуль што не было. Нехта ззаду паклаў ёй руку на плячо, і дзіцячы галасок пракрычаў: «Цёця Поля! Мы вас злавілі!» Яна ўбачыла Мішу Сеўрука, свайго былога аднакурсніка, з дачкой Танечкай. Радасна прывіталіся. Паліна даўно сябравала з Сеўрукамі. Танечка яе вельмі любіла. Сеўрукі жартавалі: «Нявестка табе, Паліна, расце».

Размаўляючы, яны селі ў аўтобус. За размовай Паліна не забылася на свайго камандзіровачнага, агледзелася, але яго ўсё не было.

А той стаяў за кіёскам, курыў. Ён бачыў, як сядала Паліна ў аўтобус з мужчынам і дзяўчынкай, як яны весела размаўлялі, смяяліся. Ён толькі ўздыхнуў, бо пазайздросціў чужому шчасцю. А ён ужо невядома чаму прызвычаіўся да думкі, што гэтая жанчына — адна, яна здавалася яму такой безабароннай і самотнай. Трэба ж так памыліцца!

Гэты аўтобус ён прапусціў, сеў у наступны, яму, уласна кажучы, не трэба было на работу, бо камандзіроўка ў яго скончылася і білет на поезд быў ужо ў кішэні.

Дома яго сапраўды ніхто не чакаў.

А ўвечары Паліна з Антанінай зноў спявалі «Іванька малодзенькі, а што ж зажурыўся ты...», і было ім утульна і прывычна гаркавата на душы. Скончылі вечар развясёлай песняй, каб падняць настрой:

А гэта ж быў не мой чамаданчык!..

# Змест



Любовь Александровна
Филимонова

*Под шелест парусов*
Рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Я. А. Бебель.

ІБ № 993
Здадзена ў набор 28.01.81. Падп. да друку 03.11.81. АТ 07674. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,25. Ум. фарб.-адб. 6,33. Ул.-выд. арк. 6,29. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1380. Цана 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.